

*Жыве Беларусь!*

# БЕЛАРУС

Address: P.O. Box 3225 Farmingdale, NY 11735

BIELARUS / Belarusan newspaper in Free World. Published by the Belarusan American Ass'n Inc.

№ 485 Чэрвень 2003 г. Год выданьня 53

## ДЭЛЕГАЦЫЯ Ў ДЗЯРЖАЎНЫ ДЭПАРТАМЭНТ

Дэлегацыя ад беларуска-амэрыканскіх арганізацыяў у складзе сямёх асобаў (Вячаслаў Станкевіч, Вітаўт Кіпель, Ала Орса-Романо, Алекс Сільвановіч, Янка Запруднік, Алеся Кіпель і Алеся Сёмуха) 29-га траўня наведала Дзяржаўны Дэпартамэнт ЗША. Візыт стаўся працягам папярэдніх падобных спатканьняў ды асабістых гутарак з паасобнымі ўрадаўцамі, у тым ліку гутаркі са сп. Майклам Уягарам, загадчыкам Беларускага стала Дзяржэпартамэнту, у часе сёлетняга сьвяткаваньня ў Нью-Ерку 85-х угодкаў Акту 25-га Сакавіка.

Гэтым разам дэлегацыя паехала ў Вашынгтон з мэтаю абмену думкамі пра шляхі разьвіцьця беларускай дэмакратыі ў сувязі з надыходзячымі парляманцкімі выбарамі ў 2004-м ды прэзыдэнцкімі ў 2006-м годзе.

З дэлегацыяй сустрэліся, апрача сп. Уягары, намесьнік паддзяржсакратара па эўрапейскіх справах сп. Стыў Пайфэр і дырэктар аддзелу да справаў Украіны, Малдовы й Беларусі сп. Марк Таплін. Дэлегаты выказаліся ў падтрыманьне "Акту аб дэмакратыі ў Беларусі", які цяпер абмяркоўваецца ў Сэнаце ЗША, а таксама прапанавалі, каб быў зроблены перагляд мэтадаў фінансавае падтрымкі беларускіх няўрадавых арганізацыяў з тым, каб больш значэньня надавалася тым арганізацыям і праектам, якія накіраваныя на абарону дзяржаўнай незалежнасьці й разьвіцьцё беларускай нацыянальнай культуры.

У абмене думкамі адносна ролі Масквы ў спрыяньні дэмакратызацыі Беларусі - тое, на што разьлічвае Дзяржэпартамэнт - дэлегаты выказалі крытыку такога погляду, а таксама перакананьне, што Расея будзе заўсёды выкарыстоўваць палажэньне ў Беларусі ў сваіх імпэрскіх інтарэсах, ды што беларуская дэмакратыя павінна арыентавацца на эўрапейскія мадэлі й вартасьці.

Дэлегаты перадалі Дзяржаўнаму Дэпартамэнту мэмарандум з абгрунтаваньнем сваіх пагляда і прапановаў.

*(Я.З.)*

## СУСТРЭЧА Ў АГАЁ

У Пэнсвіле (штат Агаё) 28-га траўня Старшыня Беларускага Народнага Фронту "Адраджэньне" Зянон Пазьняк, кіраўнік агаёўскага аддзелу БАЗА Пол Васілеўскі ды прадстаўнікі клівелендзкіх беларусаў мелі спатканьне з кангрэсмэнам ад штату Агаё сп. Стывенам Лятарэтам.

Беларуская дэлегацыя выказала занепакоенасьць пагрозаю незалежнасьці Беларусі з боку Расеі, плянаваньнем у Беларусі чарговага, супярэчнага Канстытуцыі, рэфэрэндуму і новым наступам рэжыму Лукашэнкі на правы беларусаў.

Ішла гаворка таксама пра "Акт аб дэмакратыі ў Беларусі" ды іншыя тэмы.

## НОВАЯ ПРАГРАМА БЯСЬПЕКІ

У ЗША пачынаецца ўвод у дзеяньне праграмы па бясьпецы ўезду і выезду з краіны. Назва праграмы - US VISIT. Новая сыстэма праверкі асобы павінна дапамагчы апазнаваньню і затрыманьню асобаў, падазраваных у тэрарыстычнай ці крымінальнай дзейнасьці.

Сыстэма павінна прысьпешыць праверкі асобаў замежнікаў, якія перасякаюць мяжу. Новую тэхналёгію ўжо ўводзяць ў карыстаньне ў аэрапортах і марскіх портах. Цалкам сыстэма будзе ўведзеная ў дзеяньне да канца гэтага году. Пакуль сыстэма апазнаваньня будзе ўключаць дзьве біялягічныя мэтрыкі адбіткі пальцаў ды фотаздымкі. Аднак ужо зараз, Дэпартамэнт унутранай бясьпекі вывучае магчымасьць стварэньня сыстэмы, якая-б сканавала зрэнкі й распазнавала рысы твару.

Пры ўезьдзе ў краіну, на памежных пунктах, будуць сканавацца віза, пашпарт, адбіткі пальцаў і фотаздымкі бальшыні замежных грамадзянаў. Гэтая інфармацыя будзе зьвярацца і захоўвацца ў цэнтральнай базе дадзеных, якая будзе ўключаць іміграцыйныя і крымінальныя дадзеныя, а таксама месца пражываньня падчас знаходжаньня ў ЗША. Сабраная інфармацыя будзе даступная супрацоўнікам іміграцыйных службаў, мытнікам, органам аховы парадку і консулятам ЗША.

Што да краінаў зь бязьвізавым уездам у ЗША, як, напрыклад, Канада, дык амэрыканскія ўлады пачынаюць супрацоўнічаць з урадамі гэтых краінаў, каб тыя ўключалі біямэтрычныя дадзеныя ў свае падарожныя дакумэнты.

**Алеся СЁМУХА**

## СПУСТОШАНЫЯ ДУШЫ НЕ СЬПЯВАЮЦЬ...

*Як малітву, цябе*
*Ў сусьвет панясу,*
*Беларускае роднае слова!*
**Ул. Дудзіцкі**

Традыцыйныя сьвяты й абрады - гэта час, калі раскрываюцца "нутраныя струны" нацыянальнага характару, калі чалавек адчувае, што кожнае дрэва, травінка мае душу, і ў гэтай адухоўленасьці прыроды расьце і мацнее душа чалавека, яднаючыся з грамадою і прыродаю, калі людзі праз надзённае далучаюцца да вечнага адзінства Зямлі й Неба, да еднасьці ўласнага жыцьця з касьмічнаю прастораю.

Традыцыйныя сьвяты прасьвятляюць асобу, пазбаўляюць самоты й безабароннасьці, узвышаюць над штодзённымі клопатамі, не даюць згубіцца ў мітусьні, яднаюць людзей.

За гады ваяўнічага хрысьціянства і бязбожнага сацыялізму мы, беларусы, шмат што страцілі з нашых звычаяў і абрадаў, згубілі сэнс асобных момантаў і сымбаляў, згубілі тую высокадухоўную напоўненасьць сакральных дзеяньняў. Забыцьцё сваіх традыцыяў і культуры адмоўна ўплывае на выхаваньне асобы й грамадзтва.



*Купальле ў 1996-м годзе на возеры Пціч каля Менску.*

Культура беларусаў базуецца на фальклёры - адным з самых багатых у Эўропе. Фальклёр складаў сутнасьць жыцьця старажытных насельнікаў Беларусі, зьяўляўся языцкім у сваёй аснове. І гэта ёсьць рэальнасьць, якую мы мусім шанаваць.

Шкада, крыўдна і балюча за тую моладзь, якая лічыць сябе сьведамай ды, ня ведаючы сваёй культуры й традыцыяў, пераймае чужыя звычкі й сьвяты. Моладзь прагліпае нажыўку як той "Валянцінаў дзень каханьня", які ня мае да нашых традыцыяў ніякога дачыненьня, але прыпадае на нашае Стрэчаньне ці Грамніцы - дзень стрэчы зімы зь вясною. У нас ёсьць свае сьвяты, прысьвечаныя каханьню, найвялікшае зь іх Купальле! Але, каб яго адзначыць, недастаткова, як на Дзень Валянціна, набыць цукеркі, сувэніры й кветкі ў краме, да яго трэба рыхтавацца ў духоўным і фізычным сэнсе.

Гэтае сьвята, зьвязанае з культам агню і сонца, урадлівасьцю ніваў і працягу чалавечага роду, ведамае пад рознымі назвамі ўсім індаэўрапейскім народам. Так як астранамічнае летняе сонцастаяньненазіраецца з 19-га па 21-е чэрвеня, то старажытныя язычнікі сьвяткавалі менавіта ў гэты перыяд, калі энэргетычны патэнцыял прыроды найвышэйшы.

Абрад Купальля ў кожнай мясцовасьці разгортваўся адпаведна сваім традыцыям і звычаям. Прыкладны парадак правядзеньня сьвята быў наступны.

Да Купальля трэба было павыполваць гароды, бульбу, прыбраць у хлявах, на падворках, у хатах, прыбрацца самому.

На працягу сьвятавога дня перад Купальлем дзяўчаты й жанчыны зьбіраюць лекавыя травы, зьвіваюць вянкі й сьпяваюць адпаведныя песьні.

Хлопцы тым часам зьбіралі на старыя колы зношанае адзеньне, абутак, рэчы хворых людзей, звозілі іх за ваколіцу і спальвалі. Гэта магічнае дзеяньне - су-

**Заканчэньне на бач. 7**

# ДОБРЫ Й НАДЗЕЙНЫ ПРАЦАЎНІК

Зора Кіпель, былы дзейны супрацоўнік Нью ˝рскае Публічнае Бібліятэкі, 14-га красавіка сёлета адыйшла ў лепшы сьвет. Яна скончыла свой жыцьцёвы шлях спакойна, агорнутая ўвагаю і клопатам сям'і, якую яна вельмі моцна любіла ды заўсёды пра яе дбала. Адведвалі ды падтрымлівалі Зору малітвамі й гутаркамі таксама і ейныя сябры. Супакою і адпачынку Зора жадала, бо ў апошнія месяцы даводзілася быць напружанай і аслабеўшай - вынікі працэсу клінічнага лячэньня хіматэрапіяй.

Праўда, хвароба (рак) няўмольна і агрэсыўна наступала, аднак Зора так лёгка не здавалася: яна захоўвала бадзёрасьць, рабіла нататкі, вяла перапіску. Можна з упэўненасьцю сказаць - яна і ў хваробе была дзейнай і жыцьцёвай.

Зора Кіпель была цёплай сардэчнай і абаяльнай жанчынай з значнымі асабістымі дасягненьнямі. Адданая жонка, маці й бабуля, разумны калега і сябра, ініцыятар-арганізатар навуковых пушукаў і дасьледаваньняў, бібліёграф і бібліятэкар, падарожнік, грамадзкі працаўнік, а таксама спакойны, рахманы грамадзянін-актывіст у шмат якіх палітычных плынях і грамадах - якасьці, якімі Зора валодала і з гонарам і далікатнасьцю імі карысталася.

Зора нарадзілася ў Менску ў ліпені 1927-га году. У Беларусі яна пачала і вучыцца, хоць як сярэднюю, гэтак і вышэйшую асьвету заканчвала-здабывала на Захадзе, Беларускую гімназію імя Янкі Купалы ў Нямеччыне, хімічны факультэт Лювэнскага каталіцкага ўнівэрсытэту ў Бэльгіі, бібліятэказнаўства і літфак на Ратгэрскім унівэрсытэце ў ЗША.

У Злучаныя Штаты Амэрыкі Зора прыехала ў сьнежні 1955-га году ды неўзабаве, у лютым 1956-га, выйшла замуж за сябру школьных і ўнівэрсытэцкіх гадоў -Вітаўта Кіпеля. Нейкі час яна працавала хімікам-крысталёграфам, але хутка здабыла бібліятэчную адукацыю. У 1966-м годзе Зора пачала сваю працу ў Нью ˝рскай Публічнай Бібліятэцы. І так, выглядае, было наканавана, што з гэтаю Бібліятэкаю ад тае даты ў Зоры было зьвязанае ўсё жыцьцё. Спачатку Зора працавала ў аддзеле агульнае каталягізацыі, спэцыялізуючыся на навуковай літаратуры, дзе яна, маючы навуковую падрыхтоўку, дасягнула высокае службовае клясыфікацыі. Але праз некаторы час, ідучы напярэймы зацікаўленьням духовым - беларусістыка-славістыка, Зора пераходзіць у аддзел Балта-Славянскі, дзе яна была нейкі час дзейным кіраўніком. А з маім прыходам у аддзел Зора Кіпель была маім заступнікам да выхаду на пэнсыю, каля дзесятка гадоў.

Я меў магчымасьць і прыемнасьць супрацоўнічаць-працаваць з Зораю, разьлічваць на ейныя парады й дапамогу на працягу амаль 20-гадовае працы ў Нью ˝рскай Публічнай Бібліятэцы. Быў гэта пэрыяд росту кнігазбораў, дадатных дасягненьняў, пэрыяд у значнай меры новы ў Балта-Славянскім аддзеле. І шмат зьдзейсьненьняў у гэтым пэрыядзе-працэсе належыць таксама Зоры. Яна вельмі аддана дбала пра працу: яна шмат спрычынілася да разбудовы кнігазбораў, удумліва каталягавала-клясыфікавала кніжныя рэсурсы, выдатна працавала з шырокай публікай, ладзіла выставы, аддавала ладна часу адміністрацыйным справам, часта езьдзіла на канфэрэнцыі. І нават калі Зора выйшла на пэнсыю, яна затрымала статут працоўнага бібліятэкара: прыходзіла раз на тыдзень, каталягавала старыя славянскія кнігі, друкі спэцыяльнага фармату. Бясспрэчна, і беларусіцы Зора аддавала вялізарную ўвагу.

У 1998-м годзе Зора з згодаю і падтрымкаю ўсяе сям'і Кіпеляў, ахвяравала Нью ˝рскай Публічнай Бібліятэцы $25 000 на заснаваньне Фонду беларускай кнігі для набыцьця рэдкіх беларускіх кнігаў і рэстаўрацыі старых беларускіх друкаў .

Праз пару гадоў, напрыканцы мінулага стагодзьдзя, Кіпелі перадалі Бібліятэцы ўнікальную калекцыю, зьбіраную імі ўсё жыцьцё - калекцыю беларускага друку на эміграцыі: каля 500 назоваў пэрыёдыкі й каля 5 000 манаграфічных друкаў (кнігаў, брашураў, лятучкаў і пад.).

І хоць я прысутнічаў на разьвітальнай паніхідзе, мне цяжка зьмірыцца з рэчаіснасьцю, што Зоры больш няма з намі, цяжка ўспрыняць ейную страту.

***Эдуард КАСІНЕЦ,***
***Загадчык Балта-Славянскага аддзелу Нью ˝рскае Публічнае Бібліятэкі***

# БЕЛАРУСЫ Ў БЭЛЬГІІ АКТЫВІЗУЮЦЦА

У Антвэрпане ў Бэльгіі 1-га чэрвеня адбылося першае набажэнства ў новым беларускім прыходзе Ўваскрашэньня Хрыстовага грэка-каталіцкае царквы, якое адслужыў а. Ян Майсейчык у памешканьні мясцовае бэльгійскае царквы Heiligeharikerk. З Лёндану прыехаў Апостальскі Візытатар для беларусаў грэка-каталікоў замежжа а. Аляксандар Надсон, дзякуючы дапамозе якога змагла адкрыцца гэтая місія ў Бэльгіі. Хор пакуль яшчэ ня створаны, таму сьпявалі студэнтка Лювэнскага Каталіцкага ўнівэрсытэта Юля Бадзей, доктар багаслоў'я Ірына Дубянецкая, якая таксама прыехала зь Лювэна і сп. Янка Жучка. У набажэнстве прынялі ўдзел каля 60 чалавек пераважна нядаўніх эмігрантаў зь Беларусі. Прысутнічалі таксама некалькі беларусаў пасьляваеннае хвалі эміграцыі. Шмат хто прыйшоў зь дзеткамі. Усё прайшло вельмі ўрачыста і прыгожа. Наступнае набажэнства павінна было адбыцца праз два тыдні.

З маладых эмігрантаў прысутнічалі сп. Ігар Лазарчук, кіраўнік Беларускага Цэнтру ў Бэльгіі, ягоная намесьніца спн. Галіна Матшына, а таксама чальцы нядаўна зарэгістраванага ў Бэльгіі Беларуска-Эўрапейскага Задзіночаньня сп. Зьміцер Піменаў і ягоны намесьнік Вадзім Кабанчук. Прысутнічалі таксама госьці зь некаторых іншых эўрапейскіх краінаў.

Можна з упэўненасьцю сказаць, што беларуская грамадзкая актыўнасьць у Бэльгіі набірае моц ня гледзячы на некаторыя перашкоды.

Жадаючыя далучыцца да дзейнасьці беларускіх арганізацыяў у Бэльгіі могуць зьвяртацца ў Беларускую Місію па тэлефону 0498-83-45-57 (код Бэльгіі 0032) альбо ў Беларускі Цэнтар тэл. 0497-11-74-69 ці 0495-61-25-31, адрас электроннай пошты Беларуска-Эўрапейскага Згуртаваньня: bez_bielarusy@botmail.com

***Мікалай РАМАНАЎ***

# БЕЛАРУСКІ ЦЭНТАР У ПОЗНАНІ

Паўстаў новы беларускі асяродак у Польшчы - "Беларускі Культурна-Асьветніцкі Цэнтар у Познані" Гэта няўрадавая, зарэгістраваная, згодна зь юрыдычным правам Польшчы, арганізацыя, якая аб'ядноўвае беларускі студэнцкі асяродак (прыблізна сорак беларусаў і палякаў) у Познані. Мэты арганізацыі - заахвочваньне студэнтаў да працы на карысьць разьвіцьця дэмакратыі ў Беларусі, пашырэньне беларускай культуры, мовы і ведаў аб Беларусі ў акадэмічным асяродзьдзі Познані, сярод палякаў і замежнікаў, папулярызацыя Беларусі ў Эўропе і дэмакратычным сьвеце, а таксама стварэньне будучых добра адукаваных эліт Беларусі. "Беларускі Цэнтар" запрашае да супрацоўніц-тва людзей і арганізацыі, якія зацікаўленыя ў развіцьці і пашырэньні нашай культуры, у пабудове дэмакратычнага і вольнага грамадзтва Беларусі, а таксама ў супрацоўніцтве беларускага замежжа на карысьць спадчыны і будучыні нашага народу.

***BARCNEWS***

# ПАРАФІЯЛЬНАЕ СЬВЯТА Ў ГАЙЛЕНД ПАРКУ

У нядзелю, 18-га траўня, у царкве Маці Божае Жыровіцкае ў Галенд Парку, Нью Джэрзі, адзначылі гадавое парафіяльнае сьвята. Яно прыпадала на іншы дзень, але ў Амэрыцы сьвяты пераносяць на наступную нядзелю, бо пасярод тыдня пераважная большасьць людзей занятая на працы.

Багаслужбу ачольваў Уладыка Мітрапаліт Ізяслаў у прысутнасьці сьвятарства, архімандрыта Карпа (Стара) і айца Вячаслава (Логіна). Хорам кіраваў рэгент Якуб Сапяжынскі. На царкоўнае сьвята сабраліся людзі зь Нью Ёрку і, ведама, з розных ваколіцаў Нью Джэрзі.

У сваёй пропаведзі а. Вечаслаў падкрэсьліў вялікую пашану, якою карыстаецца ў беларускім народзе ікона Маці Божай Жыровіцкай. Пасьля Багаслужбы сьвятары й малельнікі выйшлі з пратэсамі (харугвамі) і іконаю свае апякункі ў крыжовы ход са сьпевам да Божай Маці Жыровіцкай "Хто патрабуе Тваё дапамогі, Уладычыца" і да Сьвятых Зямлі Беларускай.

Пасьля крыжовага ходу ў царкве прапаялі для Мітрапаліта Ізяслава "Многая лета". Закончылася маленьне ў царкве малітваю "Магутны Божа".

Потым а. Вячаслаў запрасіў усіх малельнікаў у царкоўную залю на абед. Уладыка Ізяслаў дабраславіў ежу і пітво. Сп. Віктар Дубяга вітаў сьвятарства, парафіянаў і гасьцей з царкоўным сьвятам. Вернікаў таксама віншавалі Старшыня Галоўнай Управы Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня сп. Антон Шукелайць і сп. Барыс Данілюк ад імя парафіі Сьв. Кірылы Тураўскага ў Брукліне.

Неспадзеваю для ўсіх быў дзень народзінаў шаноўнага а. Карпа, і яму прасьпявалі "Сто год". Паважаны сьвятар, дзякаваць Богу, мае ўжо дзевяноста гадоў, але яшчэ моцны й вясёлы. Няхай дасьць яму Божа даўжэйшага жыцьця на карысьць нашае БАПЦ.

На сьвяткаваньні прысутнічалі ведамыя беларускія дзеячы сп. сп. Зянон Пазьняк, Вітаўт Кіпель, Аляксандар Міцкевіч.

Абед быў разнастайны, багаты й вельмі смачны. Прыгатавалі яго спн. Спн. Ала Дубяга, Элен Сапяжынская, Тамара Януш. Сп-ва Сагановічаў далучылі да абеду страву з курацінbacktick асаблівага прыгатаваньня. Сп. Валеры Дворнік прыгатаваў смачную рыбу. Усім кухарам належыць вялікая падзяка.

Была праведзеная таксама лятарэя, якую вёў сп. Віктар Дубяга.

***Кастусь ВЕРАБЕЙ***



***На здымку: айцец Вячаслаў, Уладыка Ізяслаў, сп. Віктар Дубяга, архімандрыт Карп.***

# ЮБІЛЕЙ СЬВЯТАРА Ў САЎТ РЫВЭРЫ

Год таму настаяцелем прыходу праваслаўнай царквы Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзі, стаўся а. протапрасьвіцер Стаўрас Русас. Да прыбыцьця ў Саўтр-Рывэр ён адслужыў сьвятаром 24 гады. Такім чынам, на сёлета прыпалі 25-я ўгодкі ягонага сьвятарства й першыя ўгодкі душпастырскай апекі над прыхаджанамі саўтрывэрскай беларускай царквы. За год часу людзі вельмі палюбілі а. Стаўраса. Прыход ажыў, царква напоўнілася вернікамі, пачала прыходзіць моладзь, "памаладзеў" царкоўны хор.

Айцец Стаўрас служыць па-царкоўнаславянску й па-ангельску, а апошнім часам ужывае ў багаслужбах і беларускую мову. Пропаведзі гаворыць па-ангельску. Прапаведнік ён выдатны. Прыхаджане з задавальненьнем адзначаюць, што яны шмат чаго даведаліся зь ягоных пропаведзяў аб праваслаўнай веры, у тым ліку пра сьв. Еўфрасіньню Полацкую, сьв. Кірылу Тураўскага ды іншых беларускіх сьвятых. Да кожнай нядзелі а. Стаўрас выдае друкаваны лісток зь інфармацыяй пра бягучыя сьвяты й падзеі вакол іх. Ніколі не забываецца адзначыць удзел у царкоўным жыцьці кожнага з прыхаджанаў, падзякаваць кожнаму за той ці іншы ўчынак на карысьць царквы, даведацца пра здароўе хворых, наведаць іх у шпіталі. Людзі бяруць усё такое да сэрца, і яны паказалі сваю ўдзячнасьць за гэта ў нядзелю 18-га траўня, наладзіўшы ў гонар а. Стаўраса людные адзначэньне 25-годзьдзя ягонага сьвятарства.

Пасьля багаслужбы, у якой узялі ўдзел а. Сергій Кухарскі й дыякан Джон Сучэрнік, суседнюю з царквой залю Беларуска-Амэрыканскага Цэнтру напоўнілі прыхаджане й госьці - усіх каля 150 чалавек. Справу падрыхтоўкі залі й частаваньня гасьцей узяло на сябе сястрыцтва парафіі (старшыня Ліля Гіліш), сяброўкі якога шчыра папрацавалі, каб усё прайшло спраўна. Накрытыя белымі абрусамі сталы, кветкі на іх, вялікі шматколерны плякат з прывітаньнем юбіляру (па-мастацтку размаляваны Оляй Дзямешчык), сонечны дзень за вокнамі - усё ствarала ўрачыстую атмасфэру, якая цешыла сэрцы ўдзельнікаў сьвяткаваньня. Перад галоўным сталом у ганар юбіляра, стаяў пышны, удэкараваны каласкамі й васількамі, традыцыйны беларускі каравай, сьпечаны сп-няй Надзеяй Запруднік.

На ўрачыстасьць быў запрошаны мэр Саўт-Рывэру сп. Робэрт Шэгеты. Яго прадставіў публіцы старшыня царкоўнае рады сп. Робэрт Цупрык. Мэр Шэгеты, прывітаў а. Стаўраса ды ўручыў яму грамату, у якой адзначаная важная роля парафіі Сьв. Еўфрасіньні Полацкай й ейнага духоўнага кіраўніцтва, у тым ліку а. Стаўраса, у жыцьці гораду.

Ад імя ўсіх парафіянаў гаварыў сп. Міхась Сенька. "Адзін год - гэта маленькі адрэзак часу ў нашай парафіі, якая існуе 53 гады, -- сказаў ён. - З прыходам да нас а. протапрасьвіцера Стаўраса пачулася духоавая лучнасьць і супольнасьць поглядаў паміж настаяцелем і парафіянамі. Акрамя прыгожых Божых службаў, глыбока прадуманых пропаведзяў, штотыднёва друкаванага лістка, была адноўлена дзейнасьць парафіяльнае школкі, вучні якое ўжо змаглі выступіць з мастацкай праграмай падчас Ялінкі. Айцец Стаўрас заўсёды стараецца быць разам з парафіянамі ў бядзе, і ў радасьці, і годна рэпрэзэнтаваць нашу беларускую парафію й Беларускі Народ, за што яму належыцца самая шчырая падзяка. Падзяка належыцца й матушцы Дэборы, якая, як прафэсіянальная настаўніца, дапамагла зарганізаваць школку, і за яе ўдзел у цакоўным хоры."

У часе сьвяткаваньня адбыўся абмен падарункамі. Айцец Стаўрас ахвяраваў кожнаму з прыхаджанаў асьвячаную іконку Божай Маці, а царкве - кнігу "Апостал" у ангельскім перакладзе. Айцу Стаўрасу й матушцы Дэборы таксама былі ўручаныя падарункі ад прыходу. Апрача гэтага, а. Стаўрас падарыў матушцы й дзьвюм дочкам вялікую ікону трох жанчын-сьвятых, названых іхнымі імёнамі: Дэбора, Ніка й Кіра.

Адбылася мастацкая частка. Хор самых маленькіх выканаў дзьве песьні, адну духоўную амэрыканскую, а другую беларускую з трапным прыпевам: "Што пасееш, то й пажнеш". Хор падлеткаў прапяяў некалькі песьняў; харысткі выступілі з дэкламацыямі. Тры нумары солё выканаў сп. Віталі Чайка, які валодае прыгожым лірычным барытонам. Падрыхтавала малых і маладых харыстаў да выступу, з дапамогаю Лілі Тур, Рыты Юхнюк і Каці Марлоў, сп-ня Таня Дзямешчык; яна-ж выканала на піяніна твор Моцарта. На заканчэньне царкоўны хор пад кіраўніцтвам рэгента сп. Валянтына Дзямешчыка прапяяў а. Стаўрасу рэлігійную оду "Радуйтеся, людие" і "Многая лета".

Прачулены да сьлёз а. Стаўрас шчыра дзякаваў усім-усім за такі прыгожы й неўзабыўны дзень у ягоным жыцьці.

*(Я.З.)*

# Пагляд на сытуацыю ў Беларусі з Эўропы

Погляды многіх заходніх палітыкаў на беларускую апазыцыю – нерэалістычныя і адарваныя ад спэцыфічна беларускага палітычнага і гістарычнага кантэксту, – сказаў дырэктар Інстытуту за дэмакратыю ва Ўсходняй Эўропе сп. Эрык Чэнавэт падчас сустрэчы ў Вашынгтоне з прадстаўнікамі дзяржаўных і няўрадавых арганізацыяў ЗША. Сп.Чэнавэт выклаў свой пагляд на разьвіцьцё апазыцыйнага руху ў Беларусі на падставе ягонай паездкі ў Беларусь пасьля прэзыдэнцкіх выбараў 2001 году.

Паколькі на Захадзе беларускую сытуацыю прыраўноўвалі да сытуацыі ў Сэрбіі пад Мілошавічам, сп. Чэнавэт запрасіў Мільенка Дэрэта, дырэктара Сэрбскай грамадзянскай ініцыятывы, суправаджаць яго ў паездцы па Беларусі. Абодва яны наведалі Менск, Горадню, Барысаў і Жодзіна ды сустрэліся з актывістамі прадэмакратычнага руху і незалежнымі мас-мэдыямі.

На думку сп. Чэнавэта, беларускі прадэмакратычны палітычны рух і грамадзянская супольнасьць больш уражваюць, чым у свой час дэмакратычны рух Чэхіі. ¨н прывёў у прыклад інтэрвію з Вацлавам Гавэлам, узятае перад разваламм сацыялістычнага блёку. Гавэл сказаў тады, што зьмены ў Чэхіі немагчымыя, і што людзі не мяняюцца. У Беларусі, паводле Чэнавэта, грамадзянская супольнасьць і маладзёжны рух моцна разьвітыя. Але сытуацыя ў цэлым мае сваю спэцыфіку, якая розьніць Беларусь ад, прыкладам, Сэрбіі. Яна палягае ў геаграфічным становішчы, нацыянальнай гісторыі, адсутнасьці адзінства сярод апазыцыі, і, што найбольш важна, ролі "старэйшага брата". Захад пасправаваў у Беларусі сэрбскі сцэнар аб'еднаньня апазыцыі й вылучэньня адзінага кандыдата. Але няўдача адзінага кандыдата на выбарах была патрактаваная як слабасьць апазыцыі. Адпаведна, падтрымка Захадам беларускіх дэмакратычных сілаў і незалежных мас-мэдыяў істотна зьменшылася пасьля лета 2001 году.

На думку спадара Чэнавэта, рэакцыя Захаду мусіла быць якраз адваротнаю, калі-б да апазыцыі не падыходзілі зь меркамі іншых краінаў. Адною з памылак Захаду сп. Чэнавэт бачыць спробу аб'ядначь у апазыцыю палярныя сілы рознай вагі, ад беларускіх прадэмакратычных да прарасейскіх камуністычных партыяў. Змушанае вылучэньне кандыдата, непапулярнага сярод бальшыні партыяў, разам зь іншым і прывяло да паразы ў выбарах.

Аднак нават гэткі вынік выбараў сп. Чэнавэт ня лічыць марным. Мабілізацыйная кампанія 2001 году аб'яднала многія сілы й спрычынілася да пашырэньня грамадзянскай супольнасьці. Рэакцыяй на гэта мусіла-б быць яшчэ большая падтрымка недзяржаўных ды апазыцыйных арганізацыяў, як гэта сталася ў Сэрбіі пасьля няўдачы пратэстаў 1997 году, а не адваротнаю ад іх. Таксама беспэрспэктыўнай і шкоднай лічыць Чэнавэт спробу ЗША паўплываць на рэжым Лукашэнкі праз Расею.

На заканчэньне сп. Чэнавэт выказаў думку, што падыход ЗША і Эўропы мусіць быць такі, які-б павялічыў падтрымку грамадзянскай супольнасьці й прэсы, а рэжым Лукашэнкі надалей трымаў у палітычнай і дыпляматычнай ізаляцыі. Даўгажыцьце рэжыму, сказаў ён, ня мусіць быць узнагарожанае легітымізацыяй яго.

*Радыё СВАБОДА*

# ВЭБСТАРОНКА БАЗА Ў СУСЬВЕТНЫМ СЕЦІВЕ




Ужо некалькі месяцаў у сусьветным сеціве існуе старонка Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня. Яна па магчымасьці апэратыўна асьвятляе падзеі беларускага жыцьця ў розных кутках Паўночнай Амэрыкі, імкнецца даваць інфармацыю пра найважнейшыя падзеі ў іншых краінах сьвету.

Вэбмайстар Максім Галтцын стварыў гэтую старонку на дзьвух мовах, беларускай і ангельскай, і структурна яна складаецца з шэрагу разьдзелаў, у тым ліку з аб'яваў і афіцыйнай інфармацыі, навінаў БАЗА, "Дыарыюшу", дзе зьмяшчаюцца разнастайныя думкі й інфармацыі, што "ня цягнуць" на асобную публікацыю, але зьмяшчаюць зьвесткі, якія могуць падацца цікавымі й карыснымі для наведвальнікаў.

Рэгулярна разьмяшчаюцца публікацыі газэты "Беларус", існуе архіў. У разьдзеле "Наша кнігарня" выстаўленыя сьпіс выданьняў эміграцыі, што неўзабаве можна будзе набыць, зьмяшчаюцца паведамленьні пра новыя кнігі, якія тычацца Беларусі, і паведамленьні пра выдавецкую дзейнасьць.

Запачаткаваны разьдзел "Асобы" пра беларускіх дзеячоў у Амэрыцы. У "Фотакуфэрку" можна знайсьці шмат фотаздымкаў зь сёнешняй дзейнасьці арганізацыі. Плянуецца дадаць туды фота-архіў, дзе будуць зьмешчаныя здымкі дзеячоў ды імпрэзаў з ранейшага часу.

Запрашаем усіх наведаць адрас **http://baza-belarus.org** і пакінуць у кнізе водгукаў свае заўвагі й прапановы пра зьмест і якасьць старонкі.

*Віталь ЗАЙКА*

# ДРЭННАЕ СТАНОВІШЧА Ў ІНФАРМАЦЫІ

Праўдзівай і дакладнай інфармацыі пра тое, што адбываецца ў Беларусі, ёсьць там вельмі няшмат, паколькі ідзе сплянаваная вайна за валоданьне Беларусяй, якую вядзе, у асноўным, расейскі КГБ, што поўнасьцю захапіў уладу ў Расеі'й таксама ў Беларусі. Арганізаваныя сілы беларускай незалежнасьці ня могуць эфэктыўна ўплываць на інфармацыйныя цячэньні з прычыны агрэсыўнай палітыкі антыбеларускага рэжыму і адсутнасьці сваіх СМІ. Таму на паверхні плавае прапагандная дэзынфармацыя, інфармацыйнае аматарства (з прымітыўнаю падачаю падзеяў) і псэўдаінфармацыя, калі замоўчваецца (альбо падмяняецца) сутнасьць і падаюцца пэрыфэрыйныя дзеяньні й значэньні (тыповы прыклад - беларуская рэдакцыя Радыё "Свабода"). У гэтакіх абставінах інфармацыя пра падзею залежыць ад таго, хто піша і распавядае.

23-га сакавіка я глядзеў у Вільні тэлерэпартаж Беларускага тэлебачаньня аб сьвяткаваньні Дня Незалежнасьці. Пра Дзень Незалежнасьці - ні слова. Паказвалі кадры, як АМОН (спэцыяльная міліцыя для здушэньня дэманстрацыяў) наступае на натоўп людзей пад бел-чырвона-белымі сьцягамі. Людзі ўпіраюцца, шчапіўшыся за рукі, і бязгучна варушаць губамі. (У рэальнасьці сьпявалі гімн "Магутны Божа"). Гук выключаны. На фоне "карцінкі" асуджальна-пракурорскі голас дыктара, які паведамляе, што вось гэта адшчапенцы, якія выйшлі на дэманстрацыю, каб падтрымаць... "амэрыканскую агрэсыю ў Іраку".

Далей, быццам незнарок, запыняюць на вуліцы ґэтакага "простага чалавека":

- Як вы адносіцеся да гэтых людзей, што падтрымліваюць вайну ў Іраку?

- Ды як вам сказаць, - адказвае парасейску "прасты чалавек", - можа гэта ўвогуле ня людзі.

Потым пытаюць дзябёлую расейскую "жэншчыну" (з выгляду афіцэрскую жонку):

- Як вы адносіцеся... і г. д.

- Да это вообще не люди, - ківае "жэншчына" ў бок дэманстрантаў.

Гэтак робіцца "інфармацыя" ў лукашэнкаўскіх сродках масавай прапаганды.

Радыё "Свабода" таксама падрыхтавала свой звыклы інфармацыйны кіч. "Нібыта інфармацыя" заключалася ў тым, што "апазыцыя" сабралася ля пачтамту ў Менску (хаця там якраз былі тыя, хто змагаюцца з так званаю "апазыцыяй"), і што міліцыя арыштавала людзей. Удакладненьні - неістотныя. Адным словам - "апазыцыя". (Якраз як той жаўнер у расейскага пісьменьніка Льва Талстога. "Служыў я, - кажа, - у горадзе Горадні, дык там народ усё ня наш, ня рускі, адным словам - басурманы".)

Нядаўна ў Кліўлендзе я быў сьведкам размовы двух нашых кліўлендзкіх сяброў пра інфармацыю ў красавіцкім нумары "Беларуса" аб сьвяткаваньні 25-га Сакавіка на Бацькаўшчыне. "Чаму такі непрыхільны тон, і ўсё ахаяна? Так пра Сакавік пішуць толькі чужыя людзі", - абураліся ў Кліўлендзе.

Прычына тут відавочная. "Уласны карэспандэнт" чэрпаў, як відаць, інфармацыю з рускамоўнага, так званага "незалежнага" друку ў Беларусі (які ў асноўным антыбеларускі) і, адпаведна, трапіў пад уплыў ацэнак і стылю гэтага друку, для якога няма ў Беларусі нічога сьвятога і вартага павагі (і нічога свайго).

Паведамленьне ў газэце "Беларус", нажаль, тыповае інфармацыйнае аматарства. Карэспандэнт піша так, быццам Беларусь вольная дэмакратычная краіна, ён нібы зваліўся зь Месяца і ня ведае, што адбываецца ў гэтай краіне. Таму і напісаў, што ўсё нібыта дрэнна арганізавалі, усё было кепска, кепска зьбіраліся ("хтосьці ў раёне Галоўпачтамту, хтосьці ля Чырвонага касьцёлу"), што "акцыі прайшлі крайне няўдала", "найгоршае сьвяткаваньне" і г. д., што "калісьці (!?) самае галоўнае нацыянальнае сьвята зьбірала дзесяткі тысячаў"...

А вінаваты, мабыць, ва ўсім Грамадзкі Аргкамітэт, які "ня здолеў", "не аб'яднаў" і г. д.

Тым часам у сапраўднасьці становішча іншае і іншыя прычыны цяжкасьцяў. Гэта кожнаму мусіць быць зразумела.

Сродкі масавай інфармацыі ў Беларусі даўно сталі прыладаю маніпуляцыяў і жывуць асобна ад рэальнасьці па сваіх патрэбах і інтарэсах (дарэчы, збольшага, як і ва ўсім сьвеце), ператварыўшы інфармацыю ў своеасаблівы жанр палітычнай (ці прадпрымальніцкай, бізнэсовай) дзейнасьці. І ў гэты "жанр" (які існуе па сваіх законах) падбіраюць рэальнасьць.

Акцыя 23-га сакавіка не была дазволеная рэжымам на Плошчы Незалежнасьці. Ва ўсіх прылеглых дварах і вуліцах стаяла поўна крытых машынаў са "спэцназам" і "амапам". Усе хады-выхады былі перакрытыя. Чакалі дэманстрантаў. У такіх выпадках людзей звычайна хапаюць на падыходзе да пляцу. Кідаюцца на гук беларускай мовы альбо на групы, альбо калі хто нясе доўгі скрутак (сьцяг) і г. д. Таму дэманстранты зьбіраюцца звычайна ў розных месцах, каб дэзарыентаваць міліцыю і потым злучыцца. (Нават такія простыя рэчы, аказваецца, невядомыя былі нашаму карэспандэнту.)

У такіх умовах Кансэрватыўна-Хрысьціянская партыя - БНФ ня можа прымушаць выходзіць на дэманстрацыю ўсіх франтаўцаў. Бо гэта значыць, што трэба ісьці пад палкі, пад дубінкі, на пабіцьцё і зьнявагу, "на пасадку", пад арышт, пад непамерны штраф і г. д. І людзі (хто рашыўся) ідуць сьведама, каб падняць Сьвяты Беларускі Сьцяг, каб адзначыць Дзень Незалежнасьці й засьведчыць сваёю ахвярнасьцю, што Беларусь жыве, што жыве Ідэя і Дух. Гэта ўчынак. Таму выходзяць ня тысячы, а сотні. Вядома, гэта сьведчыць пра прыгнечаны стан грамадзтва. Але так ёсьць на сёньняшні дзень. І гэта зусім не азначае, што так будзе заўсёды.

Пры гэтым падсылаюць правакатараў (звычайна агентуру з асяродзьдзя "дэмакратаў"), каб справакаваць нападзеньне міліцыі й пабіцьцё. 23-га правакатары ня мелі посьпеху, але, тым ня менш, міліцыянты схапілі кіраўніцтва і актывістаў, некаторых зьбівалі.

Выдатна на ўздыме прайшоў юбілейны вечар і канцэрт у гонар 85-й гадавіны БНР, арганізаваны Грамадзкім Аргкамітэтам. (Мне прыходзілася непасрэдна гаварыць з рознымі ягонымі гледачамі.) Асабліва адзначалі, між іншым, узьнёсласьць і беларускі пафас Зінаіды Бандарэнкі, нашай славутай тэлезоркі, якая вяла канцэрт.

У гэтыя-ж дні на вельмі добрым узроўні адбылася ўжо другая па ліку штогадовая навукова-практычная канфэрэнцыя "Ідэалы БНР і Адраджэньне Беларусі", падрыхтаваная Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыяй - БНФ. Гэтая канфэрэнцыя ёсьць тэарытычнаю кузьняю беларускага Адраджэньня. Да яе пачатку быў надрукаваны зборнік дакладаў 1-й канфэрэнцыі. Рыхтуецца наступны зборнік. Канфэрэнцыя згуртавала пад сваімі ідэямі навуковую эліту беларускага Адраджэньня.

Пра юбілейны сход і выдатны вечар наш карэспандэнт выказаўся кепска, а пра навуковую канфэрэнцыю ўвогуле не ўспомніў. Чаму? Таму што пра яе ня кажа лібэральнае радыё, ня піша так званы "незалежны" друк, і не ўспамінае, нават праз зубы, нейкі прамаскоўскі "дэмакрат", якому вельмі нялюбае ўсё гэтае беларускае Адраджэньне і беларускі "нацыяналізм". Таму робіцца выгляд, што не існуе такой падзеі ў інфармацыйнай прасторы, і наш карэспандэнт, адпаведна, пра яе ня ведае. Хоць гэтая канфэрэнцыя ёсьць істотнаю зьяваю, бо тут асэнсоўваецца адраджэнскі вопыт з пазыцыяў цяперашчыны, складваецца тэорыя беларускага Адраджэньня, запаўняюцца прабелы, незапоўненыя раней.

Дарэчы, каб дастаць памешканьне для правядзеньня канфэрэнцыі ці канцэрта беларусам трэба выцярпець доўгае хаджэньне па пакутах, якое часта заканчваецца нічым, хоць заляў у Менску хапае.

Праца арганізатараў у акупацыйных умовах страху і беззаконьня - гэта грамадзкі чын. Гладка тут не атрымліваецца.

Асноўным повадам для ахайваньня юбілею БНР паслужыў той факт, што частка сяброў БНФ (прагматыкі) насуперак рашэньню Аргкамітэту не захацела ўдзельнічаць у сумесным мітынгу ў нядзелю 23-га сакавіка і сабралася вечарам 25-га. Хоць адасабленьне выклікала нараканьні, але вялікай шкоды яно не зрабіла з прычыны нямасавасьці акцыяў. Абходы ўгодкаў БНР доўжацца ў Менску некалькі дзён, арганізоўваюцца розныя мерапрыемствы (выставы, канцэрты, мітынгі, шэсьці, канфэрэнцыі й г. д.).

* * *

Падсумоўваючы свае заўвагі, адзначу, што паварот газэты "Беларус" тварам да падзеяў у Беларусі й выкарыстаньне інфармацыйных матэрыялаў з Бацькаўшчыны - гэта ёсьць становчы паварот. Але, па-першае, не павінна забывацца эміграцыйная тэматыка. Яна - асноўная. Па-другое, падсьцерагае небясьпека трапіць у палон псэўдаінфармацыі, якая сьведама створаная і прадукуецца групамі арганізаваных імітатараў (тыпу "Хартыі", БДГ, "Белорусской газеты" і г. д), якія запрудзілі палосы, эфір, інтэрнэт і нават палітычную фразэалёгію.

У гэтакім становішчы ад падману ніхто не гарантаваны. Але варта было-б выстаўляць рэпарцёрам пэўныя патрабаваньні (агульныя для эміграцыйнай журналістыкі) і ставіць канкрэтныя задачы. Бо нават звычайны рэпартаж у складаных палітычных абставінах не такая лёгкая справа, як, магчыма, можа здавацца тым, хто бярэцца за гэты занятак.

*Зянон ПАЗЬНЯК*

# З пачутага і прачытанага

Радыё "Свабода" 21-га траўня паведаміла пра выхад новага тому "Кнігазбору" - выбраных працаў Фадзея (Тадэвуша) Булгарына, расейскага пісьменьніка пазамінулага стагодзьдзя зь Беларусі. Кніга выйшла ў "мове арыгіналу" - расейскай мове. На пытаньне карэспандэнта Радыё, чаму не ў беларускай, рэдактар кнігі М. Скобла адказаў: "Рэч у тым, што калі расейскамоўныя творы Булгарына перакласьці ў беларускую мову, то страціцца сам тыпаж, страціцца сам імідж вакол асобы Булгарына, зь якім ён зросься, як гарбун са сваім гарбом. Калі яго перакласьці ў беларускую мову, дык ён ня будзе цікавым".

Ці здае сабе справу шаноўны рэдактар, што ягонае тлумачэньне моцна нагадвае сумнавядомыя выказваньні А. Лукашэнкі пра здольнасьці беларускае мовы ў параўнаньні з расейскаю? Натуральна, гэта нашмат прасьцей - передрукаваць гатовае замест як перакласьці, але калі тэкст ня будзе цікавым у беларускай мове, ці патрэбны ён нагул? Ці захаваньне мовы арыгіналу, як мякка называе тое звычайна ваяўнічая ў аналягічных выпадках "Свабода", было патрабаваньнем укладальніка А. Фядуты й былой старшыні Нацбанку Беларусі Тамары Віньнікавай, якая, па словах карэспандэнта, "спрыяла выданьню"?

Зрэшты, ліха зь імі, з Булгарыным ды Фядутаю. Вось толькі ў - плянах "Кнігазбору" стаяць Юзаф Крашэўскі, Іван Лажэчнікаў, Ігнат Ходзька, Мэндэле Мойхер-Сфорым, Сяргей Максімаў ды багата яшчэ хто з тых, што пісалі ня ў нашай мове. Будзьма спадзявацца, іхныя творы надрукуюцца па-беларуску і пры тым усё-ж застануцца нам цікавымі.

* * *

Эміграцыя заўсёды няпростая рэч. Асабліва калі яна - вымушаная, калі не ў маладым веку. Тым больш, калі гэта эміграцыя творцы. Такога, як Васіль Быкаў.

Можна толькі здагадвацца, што вычуваў ён, едучы да Нямеччыны, якія ўспаміны амаль пяцідзесяцігадовай даўніны валодалі ім.

Эміграцыя не заўсёды вызваленьне. Асабліва калі сытуацыя залежыць не ад цябе, калі ты вычуваеш, што маеш нейкія абавязкі. Тым больш, калі чалавеку гэтыя абавязкі накідваюць. Такому, як Васіль Быкаў.

І цяперака на любым эміграцыйным сходзе ці канфэрэнцыі, зь любой нагоды перадаюцца словы прывітаньня ад Васіля Быкава з Прагі. Мо й няма ў падобным нічога асаблівага ды асуджальнага, але выглядае, быццам тою набліжанасьцю, уяўнаю ці сапраўднаю, робіцца спроба наданьня нейкай адмысловай вагі - ці сходу, ці таму, хто тыя вітаньні перадае.

А падумалася пра тое тады, як трапіў на вочы леташні, 3-4 нумар часапіса "Полымя" з успамінамі Барыса Кіта, запісанымі Васілём Быкавым. І справа нават не ў асобе Б. Кіта, грамадзкая дзейнасьць якога ацэньваецца ў самой Амэрыцы трохі па-іншаму, ня ў тым, што бальшыня старонак - пераказ чытанага раней (працаў Туронка, успамінаў сёстраў Катковіч) або проста клясычных - да банальнасьці! - гісторый (Б. Тарашкевіч, Ф. Аляхновіч), калі пра бальшыню герояў даведаемся толькі адзін факт - факт знаёмства з апавядальнікам. Справа ня ў тым, што насамрэч Б. Кіт трымаўся ўбаку ад беларускай працы, нарэшце, справа нават не ў празьмернай самарэклямацыі, а ў тым, што аўтарам запісу гэтых успамінаў стаўся найлепшы наш пісьменьнік, спакойныя хвіліны працы якога вартыя значна большага.

*Л. Юрэвіч*

# Беларусь за месяц

## Маразм па-беларуску

Пры канцы траўня урад прыняў унікальную пастанову: цяпер пачэснае імя "прэзыдэнт" можа насіць толькі найвышэйшая асоба ў краіне - Аляксандар Лукашэнка. Ад гэтага часу арганізацыям, фірмам, установам прапанавана перагледзець свае статуты й памяняць назвы сваіх кіраўнікоў-прэзыдэнтаў на дырэктароў, старшыняў, загадчыкаў і інш. Цікава, як цяпер быць з прэзыдэнтам Нацыянальнай акадэміі навук, прэзыдэнтам і віцэ-прэзыдэнтамі ПЭН-цэнтру, прэзыдэнтамі банкаў, фэдэрацый футболу, гакею і г.д?

Найтрапней пракамэнтаваў гэтае рашэньне штотыднёвік "Белорусская газета". Яна прывяла прыклад Ідзі Аміна, які кіраваў афрыканскай Угандаю ў 70-я гады. За часы свайго прэзыдэнцтва той зьнішчыў 300 тысяч палітычных апанэнтаў, а некаторых нават і зьеў. Гэта ўсім ведама. Куды менш вядомы наступны факт: Ідзі Амін - першы ў гісторыі цывілізацыі, хто абмежаваў права выкарыстаньня слова "прэзыдэнт" у сваёй краіне, пакінуўшы гэтую прывілегію толькі для сябе. Ад сябе дадамо, што Амін дапамагаў розным тэрарыстам, у 1976-м годзе абвесьціў сябе пажыцьцёвым прэзыдэнтам, але ў 1979-м годзе быў зрынуты й цяпер шчасьліва пражывае ў Саўдаўскай Арабіі.

## Кат беларускай прэсы

Менавіта такую мянушку атрымаў міністар інфармацыі Беларусі Міхаіл Падгайны. За нейкія два тыдні траўня ён вынес некалькіх папярэджаньняў незалежным выданьням - "Навінкам", "Вячэрняму Століну", "Народнай Волі". Найбуйнешаму беларускаму незалежнаму выданьню "Белорусской деловой газете" і дадатку да яе "БДГ. Для служебного пользования" было вынесена ажно тры папярэджаньні - і газэту зачынілі.

У адной з публікацыяў - "Панскі імідж" - закраналася тэма прэзыдэнцкага самалёту (было праведзенае бліц-апытаньне: ці можа прэзыдэнт Беларусі карыстацца прэзыдэнцкім самалётам у сваіх мэтах). Мініфармацыі палічыла, што тут закрануты гонар і годнасьць Лукашэнкі.

Другое папярэджаньне было вынесенае за артыкул, прысьвечаны працэсу над былым дырэктарам Менскага трактарнага заводу, "Дзе "лявонаўскія" мільёны. Пракуратура ня можа знайсьці на гэта адказ...Шукае". Мініфармацыі паставіла ў віну газэце абнародваньне фактаў бяз санкцыі на гэта судзьдзі. Абвінавачаньне бязглуздае, бо працэс над Міхаілам Лявонавым быў адкрытым, а журналіст "Белорусской деловой" меў афіцыйны дазвол прысутнічаць у зале пасяджэньняў.

Трэцяе папярэджаньне было вынесена за публікацыю матар'ялаў прысьвечаных судовай справе Віктара і Андрэя Казекаў, зьвнавачаных у фінансавых злоўжываньнях і асуджаных на 12 і 10 гадоў пазбаўленьня волі адпаведна.

Цікава, што папярэджаньні былі апэратыўна вынесеныя на працягу трох дзён - 20, 21, 22 траўня. А 28-га траўня міністар інфармацыі Міхаіл Падгайны паведаміў, што ягонае ведамства прыпыняе ліцэнзію БДГ на тры месяцы на падставе артыкулу 16 закону "Аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі".

3-га чэрвеня "Белорусская деловая газета" выйшла пад шапкаю выданьня незалежных прафсаюзаў "Салідарнасьць", якую рэдагуе Аляксандар Старыкевіч. Нумар штотыднёвіка цалкам ададзены пад матар'ялы БДГ, нават вёрстка "Белорусской Деловой" захаваная. Ва ўступным артыкуле Старыкевіч напісаў: "Я разумею, што сёньняшні нумар дорага будзе каштаваць газэце і мне. Што-што, а прысылаць праверкі, фабрыкаваць абвінавачаньні й чыніць расправу яны ўмеюць. І я не чакаю, што, калі возьмуцца за мяне, раз'юшаныя суайчыньнікі кінуцца на дапамогу...Прыгожыя словы нічога ня вартыя без рэальных спраў. Таму замест таго, каб філязофстваваць аб свабодзе драку, я хачу ўступіць у бойку мацнейшым праціўнікам на баку калектыву БДГ. А там ужо, што будзе, тое будзе. Усе роўна праверся".

Мяркуецца, што і надалей БДГ будзе выходзіць пад шапкаю іншых выданьняў. Выходзіць газэта і ў інтэрнэце (www.bdg.by).

## Салідарнасьць з "БДГ"

Лідэры сямі дэмакратычных партый выступілі ў абарону "Белорусской деловой газеты". У заяве, падпісанай лідэрамі партый, адзначаецца, што прысуды журналістам і папярэджаньні недзяржаўным выданьням "яскрава сьведчаць пра намер беларускіх уладаў канчаткова ліквідаваць тыя невялікія выспы свабоды слова, якія яшчэ засталіся ў інфармацыйнай прасторы краіны... У Беларусі рэзка падае ўзровень жыцьця, за рысай беднасьці жыве вялікая колькасьць насельніцтва, абвастраецца сацыяльна-эканамічная сытуацыя і ўзмацняецца міжнародная ізаляцыя. Усё гэта сьведчыць пра поўны правал палітыкі, якая праводзіцца А. Лукашэнкам на працягу яго амаль 9-гадовага праўленьня. Ва ўмовах падзеньня ўласнага аўтарытэту правячы рэжым імкнецца пазбавіць грамадзтва любой магчымасьці атрымліваць інфармацыю аб альтэрнатывах сёньняшняму курсу, які завёў Беларусь у тупік".

Заяву падпісалі лідэры Партыі БНФ Вінцук Вячорка, Лібэральна-дэмакратычнай партыі Сяргей Гайдукевіч, Беларускай партыі жанчын "Надзея" Валянціна Матусевіч, Партыі камуністаў Беларусі Сяргей Калякін, Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Мікола Статкевіч, Беларускай партыі працы Уладзімір Страх, Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады Станіслаў Шушкевіч.

## "Новая газэта Смаргоняў" зноў выходзіць

Пасьля амаль паўгадовай барацьбы адноўлены выхад незалежнай смаргоньскай газеты. Нагадаем, што ня маючы магчымасьці зачыніць газэту на законных падставах - абраза, паклёп, ганьбаваньне прэзыдэнта, публікацыя непраўдзівых зьвестак і г. д., - мясцовыя ўлады (Гарадзенскі абласны гаспадарчы суд) пайшлі іншым шляхам. Яны скасавалі ліцэнзію індывідуальнага прадпрыймальніка Рамуальда Улана, які быў да таго-ж выдаўцом і галоўным рэдактарам пэрыёдыка, паставіўшы яму ў віну парушэньне правілаў пажарнай бясьпекі й неадпаведнасьці ў заключэньні працоўнай дамовы з супрацоўнікамі. Улан не скарыўся і знайшоў новага выдаўца - прыватнае прадпрыемства "Фэрмерская гаспадарка "Колас". З гэтым выдаўцом газэта праіснавала ня больш за месяц. Ізноў былі знойдзеныя парушэньні ў статуце прадпрыемства, Смаргонскі раённы суд прызнаў прадпрыемства вінаватым ў "парушэньні правіл ажыцьцяўленьня прадпрымальніцкай дзейнасьці", ацтрафаваў на 266 тысяч рублёў (133 амэрыканскія даляры), а прыбытак ад рэалізацыі выданьня канфіскавалі ў даход дзяржавы.

І вось Рамуальд Улан заявіў, што газэта аднаўляецца. Выдаўца знайшлі ў Лідзе, аднак, па словах Улана, гэтая структура прасіла сябе не афішаваць, "усьведамляючы, што ў яе дзейнасьці могуць быць праблемы". Першы нумар адноўленай газэты выйшаў 23-га траўня накладам у 5 з паловай тысяч асобнікаў. Аднак ёсьць яшчэ адна праблема: распаўсюд выданьня. Шапікі "Белсаюздруку" і дзяржаўныя крамы наадрэз адмаўляюцца браць незалежнае выданьне на рэалізацыю, таму трэба ствараць сваю сыстэму распаўсюду. Гэтая праблема ўласьцівая ня толькі для Смаргоняў. Так, у Барысаве мясцовая вэртыкаль забараніла продаж у дзяржаўных крамах незалежных і папулярных "Барысаўскіх навінаў". Маўляў, трэба адпаведны дазвол. На выканкамаўскую раёнку такога дазволу не патрабуецца.

## Інтэрнэт пад цэнзурай

Пасьля друкаваных выданьняў уладам на вочы трапіла і сусьветнае сеціва. 30-га траўня старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоль Лябедзька быў выкліканы ў рэспубліканскую пракуратуру "у сувязі з узьніклай неабходнасьцю". Пракуратура зацікавілася сайтам АГП (www.ucpb.org) і палічыла, што вышэйзгаданы сайт замахнуўся на самае сьвятое, што ёсьць у беларусаў - на гонар і годнасьць прэзыдэнта Беларусі. Нібыта зьнявага ўтрымліваецца ў матар'ялах, зьмешчаных на інтэрнэт-старонцы АГП. Сайтаў у Беларусі пакуль яшчэ не зачынялі.

## Штраф рэдактару

20-га траўня суд Маскоўскага раёну Менску аштрафаваў галоўнага рэдактара сатырычнай газэты "Навінкі" Паўлюка Канавальчыка на 100 базавых адзінак (гэта 1.400.000 рублёў ці 700 даляраў ЗША) за "распаўсюд заведама хлусьлівых зьвестак, якія ганьбяць гонар і годнасьць Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь". Падставаю для судовага разьбіральніцтва стала публікацыя ў адным з нумароў газэты "аналітычна-сатырычнага артыкулу", праілюстраванага двума варыянтамі перадвыбарнага плякату Лукашэнкі. Праз тыдзень газэта атрымала ў давесак папярэджаньне. Як адзначыла адна беларуская газэта, выстаўляць прэтэнзіі да "Навінак", гэта тое самае, што асудзіць часопіс "Вожык" за зьнявагу пачуцьцяў Таварыства аховы жывёлаў.

## Гуманітарнаму ліцэю пагражае закрыцьцё

28-га траўня стаў чорным днём ня толькі для БДГ. У гэтыж дзень быў прызначаны дырэктар у Нацыянальны дзяржаўны гуманітарны ліцэй імя Якуба Коласа. Ім стала Тацьцяна Шчарбацэвіч. Пасьля таго, як улады ў 1998-м годзе паспрабавалі забраць будынак ліцэя і перадаць яго Упраўленьню справамі прэзыдэнта і ўсемагутнаму ў той час Івану Ціцянкову, дырэктар навучальнай установы Уладзімер Колас пагадзіўся панізіць свой статус да намесьніка дырэктара, каб выратаваць ліцэй. Таму ўвесь гэты час пасада дырэктара афіцыйна была вольнаю, але навучальнай установай фактычна кіраваў Уладзімер Колас, а дапамагалі яму два намесьнікі - Лявон Баршчэўскі й Ірына Сідарэнка.

Прызначэньне Шчарбацэвіч выклікала адмоўную рэакцыю выкладчыкаў, бацькоў, самых ліцэістаў. Новая дырэктарка да прызначэньня нічога ня ведала пра ліцэй, нават імёны выкладчыкаў ёй нічога не гавораць. Больш за тое, яна не ўмее па-беларуску, заяўляючы, што ў краіне "двуязычие". А пры сустрэчы зь ліцэістамі й выкладчыкамі пагражала нават выклікаць АМАП.

Між тым, увечары 31-га траўня на былога кіраўніка ліцэя, калі ён вяртаўся дахаты, была зробленая спроба нападу, але Колас здолеў абараніцца.

## КХП-БНФ падала ў суд на Лукашэнку

Сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі - БНФ падалі пазоў у Вярхоўны суд Беларусі супраць прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі, а таксама Палаты прадстаўнікоў і Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу. Заяўнікі просяць суд прызнаць, што саюзная дамова паміж Беларусьсю і Расеяй, заключаная 8-га сьнежня 1999-га году, "карэнным чынам зьмяняе ўмовы іх жыцьця, парушае канстытуцыйныя правы, а пункт 1 дамовы супярэчыць артыкулу 1 Канстытуцыі". Пазовы, праўда, былі перададзеныя зь Вярхоўнага ў Ленінскі раённы суд сталіцы, які й павінен вырашыць пытаньне аб завядзеньні справы. Адпаведны пазоў быў пададзены і ў Канстытуцыйны суд краіны. Прадстаўнікі КХП-БНФ просяць прызнаць, што дамова аб стварэньні саюзнай дзяржавы не адпавядае Канстытуцыі краіны.

На думку заяўнікаў, прынятая саюзная дамова парушае іх правы як грамадзян: узнікла пагроза, што іх сыны ці ўнукі могуць стаць удзельнікамі расейскіх войнаў і лякальных "гарачых" канфліктаў.

## На штраф зьбіраюць талакою

Сябры Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі БНФ з Жодзіна зьбіраюць грошы на пагашэньне штрафу, які тамтэйшы суд наклаў на Анатоля Рабкаўца, бацьку траіх дзяцей і цяпер часовага беспрацоўнага. 23-га сакавіка сп. Рабкавец каля Галоўпаштамту беларускай сталіцы браў удзел у сьвяткаваньні Дня Волі, зладжаным КХП-БНФ, за што цяпер асуджаны за "удзел у несанцыянаваным мерапрыемстве і карыстаньні забароненай сымболікай" і аштрафаваны на 400 тысяч рублёў (200 даляраў). У выпадку няўплаты штрафу судовыя выканаўцы пагражаюць апісаць маёмасьць. Таму калегі па партыі й вырашылі скінуцца на штраф і падтрымаць свайго таварыша.

## Завочны суд

12-га траўня суд Савецкага раёна Менску завочна засудзіў намесьніка старшыні Партыі БНФ Юрыя Хадыку на 15 сутак арышту за ўдзел у акцыі "За лепшае жыцьцё!" што адбылася ў Менску 12-га сакавіка сёлета. Ю. Хадыка на судзе ня быў, бо хаваецца ад уладаў. Цяпер, калі міліцыя схопіць Хадыку, ён будзе вымушаны адсядзець 15 сутак.

*Уласны карэспандэнт*

## Да канфэрэнцыі не гатовыя

Міністар прыродных рэсурсаў і навакольнага асяродзьдзя Беларусі Лявонці Харужык, які знаходзіўся ў Кіеве на Усеэўрапейскай канфэрэнцыі міністраў аховы прыроды, не падпісаў ніводнага з прынятых на канфэрэнцыі пратаколаў.

Краіны-ўдзельніцы падпісалі пратаколы аб рэгістрах выкідаў і пераносе забруджвальнікаў, аб стратэгічнай эканамічнай ацэнцы (фактычна, аб уплыве грамадзкасьці на прыняцьцё рашэньняў у сфэры экалёгіі) і аб грамадзянскай адказнасьці й кампенсацыі ўрону, нанесенага трансмежавымі прамысловымі аварыямі.

Беларуская дэлегацыя патлумачыла сваю адмову ад падпісаньня пратаколуў недастатковым фінансавым забесьпячэннем выканання і недахопам часу на іх абмеркаванне і ўзгадненне з усімі зацікаўленымі бакамі.

*BARCNEWS*

# ГІСТОРЫЯ ГАЗЭТЫ "БЕЛАРУС"

Першы нумар нашае газэты пабачыў сьвет 20 верасьня 1950 году, рэдагаваў яго Леанід Галяк. Напачатку яна выходзіла нерэгулярна, кожныя 2-4 месяцы. Быў час, калі не выходзіла зусім: паміж 20 верасьня 1958 году (нумар 70) і лістападам 1961 году (нумар 71), а таксама паміж 2000 і 2002 гадамі.

І калі сам назоў газэты не мяняўся ад часу заснаваньня, англамоўныя падзагалоўкі выданьня адлюстроўвалі цікавыя працэсы: статус газэты ў беларускім грамадзтве на выгнаньні, з аднаго боку, і статус Беларусі, ейнага назову ў грамадзтве амэрыканскім. Гэтак, на нумары 2 (26) ад 24 студзеня 1953 году пазначана "Whiteruthenian (Byelorussian) newspaper in the USA", на нумары 71 за лістапад 1961 году "Bielarus. Byelarussian Newspaper", а з нумару 80 за лістапад 1963 году новага, пабольшанага фармату, калі зьявілася старонка "Весткі з Канады", - "Часапіс беларусаў Паўночнае Амэрыкі. Bielarus. Byelorussian Newspaper of North America - New York-Toronto". Былі й далейшыя зьмены: з нумару 136 за ліпень-жнівень 1968 - "Газэта беларусаў у вольным сьвеце". Bielarus. Byelorussian Newspaper in the Free World", а з нумару 393 за верасень 1992 году - "Belarusan Newspaper in the Free World".

Леанід Галяк (31.10.1910, Вільня - 3.04.1980, Стамфорд, Канэктыкут), першы рэдактар газэты, сябра Рады БНР, быў выхаванцам юрыдычнага факультэту Віленскага Ўнівэрсытэту. Падчас вайны жыў у Менску, працаваў юрыстам. Улетку 1944 году выехаў у Нямеччыну, пазьней апынуўся ў ангельскай зоне, дзе стаўся адным з заснавальнікаў Саюзу Беларускіх Журналістаў, часапісу "Летапіс Беларускай эміграцыі". У 1949 годзе пераехаў у ЗША. Ён пакінуў малаведамыя ў нашай грамадзе цікавыя, кантраверсыйныя двутамовыя "Ўспаміны", дзе апісаў і сваю працу ў рэдакцыі, і прычыны выхаду з Рады БНР у 1955 годзе, распавёў гісторыю паўстаньня Камітэту Вызваленьня Беларусі, даў сваё, адрознае ад прынятага, бачаньне і разуменьне падзеяў ды асобаў.

Акрамя Л. Галяка, у газэце на працягу гадоў працавалі А. Адамовіч, Н. Арсеньнева, Ул. Бортнік, Я. Запруднік, В. Кендыш, В. Кіпель, З. Кіпель, М. Кунцэвіч, Ф. Кушаль, М. Міцкевіч, М. Рагуля, Л. Савёнак, З. Станкевіч, Ст. Станкевіч, В. Тамашчык, В. Тумаш, А. Шукелойц ды іншыя. Кожны больш-менш прыкметны дзеяч на эміграцыі спрычыніўся да ейнага выхаду, уклаў нешта сваё. Таму гэтак важна зрабіць напісаньне гісторыі газэты справаю агульнаграмадзкаю - каб не згубілася ніводнае імя, каб захаваліся ўсе дэталі больш як 50-гадовай гісторыі.

Сёньня, друкуючы справаздачу Натальлі Арсеньневай, мы дзякуем сп. А. Шукелойцу за перададзеныя матар'ялы ды спадзяемся, што гэта толькі пачатак, што на наш заклік-прапанову адгукнуцца іншыя. Рэдакцыя газэты забавязваецца весьці сталую рубрыку, прысьвечаную гісторыі нашага выданьня, а вас, шаноўныя чытачы ды аўтары, просім дасылаць успаміны, архіўныя матар'ялы, здымкі на адрас "Беларуса".

***Рубрыку вядзе Лявон Юрэвіч***

"У 1950-1951м годзе газэту "Беларус" выдаваў сп. Галяк. Газэта выходзіла нерэгулярна, бо вылучна на грамадзкія грошы. Прыкладам, нумар 2, датаваны 21 красавіка 1951 г., нумар 3 за 20 верасьня 1951 г., а нумар 4 за 25 сьнежня гэтага-ж году. Нумары 1 і 2 за 1952 г. выдаваў др. Тумаш, які згадзіўся быў на просьбу Прэзыдэнта Абрамчыка быць рэдактарам "Беларуса" напачатку 1952 году.

У гэты бо якраз час пад вясну сп. Прэзыдэнту ўдалося атрымаць на выданьне газэты данацыю ад Амэрыканскага Камітэту "Свабода" (тады яшчэ "Вызваленьне"). Гэткія-ж данацыі, але ў шырэйшых памерах і раней за нас атрымалі ад Амэрыканскага Камітэту іншыя нацыянальнасьці (найбольш скарысталі Украінцы).

Частка нашага грамадзтва ў гэтым часе ставілася да Амэрыканскага Камітэту вельмі варожа, лічачы яго русафільскім, таму атрымоўваньне якое-колечы грашовае дапамогі ад яго лічыла ледзь ня здрадаю беларускае справы. Маючы гэта на ўвазе, сп. Прэзыдэнт Абрамчык прасіў як найменш аб гэтай данацыі на газэту гаварыць. Але гэткая ягоная палітыка сябе не апраўдала, а мела вынікам сваркі й непаразуменьні сярод нашага грамадзтва ды цяжкасьці з выданьнем газэты. Гутаркі бо й абвінавачваньні ўсё адно шырыліся.

Выдаўшы два нумары "Беларуса", сакавіковы й Вялікодны, др. Тумаш ад рэдагаваньня адмовіўся. Афіцыйна газэта была ўвесь час выдавецтвам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня ў ЗША, і Задзіночаньню якраз давялося шукаць новага рэдактара.

Старшынём БАЗА ў пачатку 1952 г. быў выбраны сп. Ф. Кушаль. Яго сп. Прэзыдэнт і папрасіў пераняць усю справу, сфармаваць новую рэдакцыйную калегію й знайсьці рэдактара. Гэта й было зроблена. Прыканцы красавіка 1952 году сп. Кушаль склікаў арганізацыйны сход (іх было колькі), на які запрасіў: сп. А. Махноўскага ад рады БНР, Уладыку Васіля, сп. М. Гарошку, др. Тумаша як папярэдняга рэдактара, сп. Арсеньневу, якую сп. Прэзыдэнт прапанаваў перад сваім чародным ад'ездам з ЗША, калі-б газэта было магчыма, на новага рэдактара "Беларуса", сп. М. Тулейку, які кальпатраваў газэту працягам мінулых год, сп. Я. Ніхаёка, які яму ў гэтым дапамагаў, сп. П. Манькоўскага, які быў тады, здаецца, сакратаром БАЗА, ды сп. Б. Данілюка. Ведама, быў прысутны й старшыня БАЗА сп. Ф. Кушаль.

Усе запрошаныя, апрача др. Тумаша, занятага тады працаю, на сход прыбылі і, пасьля дакладнага абмеркаваньня справы, сп-ня Арсеньнева была зацьверджаная рэдактарам газэты, Ул. Васіль - заступнікам, сп. Манькоўскі - сакратаром, сп. Гарошка - скарбнікам, сп. Тулейка й надалей экспэдытарам ды, побач із сп.сп. Данілюком і Ніхаёнкам, - сябрамі рэдакцыйнае калегіі.

Аднак адразу-ж на першым паседжаньні ўзьніклі непаразуменьні. Сп. Махноўскі выступіў з войстрым пратэстам супраць таго, што выдаваць газэту мае, як і дагэтуль, БАЗА, а ня БНР. Ён уважаў таксама, што рэдактарам павінен быць ён сам. Дарма прысутныя тлумачылі яму, што сп. Прэзыдэнт Абрамчык адмыслова падаў якраз БАЗА, а ня БНР, беларускую грамадзкую, з амэрыканскім чартарам, а не палітычную арганізацыю дзеля атрымоўваньня данацыі Амэрыканскага Камітэту на выдаваньне газэты. Сп. Махноўскі стаяў на сваім і ледзь нарада скончылася, пакінуў яе вельмі незадаволены, а на наступнае, скліканае неўзабаве паседжаньне, ужо не прыйшоў наагул, паставіўшыся варожа й супроць Амэрыканскага Камітэту, і супраць старшыні БАЗА, й супраць рэдакцыйнае калегіі "Беларуса". Трэба тутака зазначыць, што пратаколы згаданых вышэй арганізацыйных паседжаньняў газэты, зьвязаныя зь ягоным выдаваньнем, Прэзыдэнт Абрамчык працягам году перахоўваў у сваіх асабістых архівах, а тады перадаў іх на часовае перахаваньне сп-ні Арсеньневай, тагачаснага рэдактара, якая, пакідаючы Нью Ёрк у 1967 годзе, згодна з жаданьнем сп. Прэзыдэнта, перадала іх сп. Я. Запрудніку.

Першы нумар "Беларуса", выданы новай рэдкалегіяй, нумар 3-ці паводле новае нумарацыі, пачатае ў 1952 годзе (а 9-м ад заснаваньня "Беларуса" наагул), выйшаў 30-га травеня 1952 году, 4 (10) - 14 чырвеня, і адгэтуль выходзіў пад рэдакцыяй сп-ні Арсеньневай і новае рэдакцыйнае калегіі акуратна двойчы на месяц. Усяго імі былі выданыя 38 нумароў, пасьля чаго, у выніку канца другое кадэнцыі старшынства БАЗА сп. Кушаля й выбарам новым старшынём БАЗА сп. Тулейкі, справа выданьня "Беларуса" перайшла ў ягонае веданьне.

Тымчасам Амэрыканскі Камітэт "Вызваленьне" быў рэарганізаваны ў Камітэт Радыя "Свабоды" і ўсе данацыі на выдавецтвы паасобных нацыянальнасьцяў быў спыненыя. Была спыненая й данацыя (у верасьні 1953 году) на "Беларуса". Аднак, ён выходзіў пад старой рэдакцыяй яшчэ да вясны 1954-га году. Адно што пачынаючы ад лістападу 53-га году "Беларус" пачаў выходзіць раз у месяц. Пасьля-ж красавіка 54-га году рэдагаваньне "Беларуса" было перададзенае сп. Тулейку, новаму старшыні БАЗА, разам із заашчаджанымі папярэдняй рэдкалегіяй грашыма, за якія сп. Тулейка выдаваў "Беларус" яшчэ да восені 1954 году (разам яшчэ 6 ці 8 нумароў). Сталася-ж гэта магчымым таму, што прадбачачы спыненьне некалі Амэрыканскім Камітэтам данацыі на "Беларуса", рэдакцыя ад самых першых дзён выдаваньня газэты пачала строга ашчаджаць. Выглядала справа так:

У палове кажнага месяцу трэба было прадстаўляць Амэрыканскаму Камітэту кащтарыс выдаткаў за 2 нумары газэты, якія й аплачваліся згодна з далучанымі да яго рахункамі й квітамі. Так што грошы даваліся фактычна не наперад, а ўзад. За атрыманую суму (якая не магла перавышаць 1000 даляраў) выдаваліся наступныя два нумары й гэтак далей. Газэта друкавалася ў друкарні сп. Крупкі на 2-ой Авэню ў Мангатэне. Цана друку за нумар вагалася паміж 175-180 далярамі, часам болей, залежна ад колькасьці клішаў. Камітэт-жа прызначыў на друкаваньне нумару 250 даляраў (500 намесяц). Розьніца была ашчаднасьцяй. На аплату рэдактара Камітэт прызначыў 250 даляраў на месяц, рэдактар-жа браў толькі 150 даляраў, хоць распісваўся за 250. Розьніца - 100 даляраў - была ашчаднасьцяй. Таксама й за гэтак званую ломку газэты ў друкарні й карэкту прызначалася Камітэтам 100 даляраў. Плацілася-ж 60 даляраў. 40 даляраў былі ашчаднасьцяй. Амэрыканскі Камітэт прадугледжваў у каштарысе выдаваньня газэты й ганарары супрацоўнікам. На іх рэдакцыя ашчаджала таксама, бо плаціла (а плаціць нешта мусіла, бо гэта было ў каштарысах Камітэту) вельмі малыя, хутчэй сымбалічныя, чымся рэальныя сумы. Гэтак, за перадавіцу плацілася пераважна 10 даляраў, за артыкул - 10-20 даляраў, за карэспандэнцыю 5 даляраў і гэтак далей. Распісваліся-ж некаторыя аўтары сьведама за большыя сумы. І гэта таксама было цімалой для нашае рэдакцыі ашчаднасьцяй. Фінансавымі справамі "Беларуса", аплатай друкарні ды інш. Рахункаў ведаў скарбнік рэдакцыі сп. Гарошка. Ул. Васіль рабіў карэкту й ломку газэты ў друкарні. Ён-жа складаў для кожнага нумару агляд палітычных падзеяў за мінулыя два тыдні. Супрацоўнікаў у "Беларуса" было шмат, часам больш як трэба. Рэдка хто адмаўляў рэдактару ў ягонай просьбе напісаць перадавіцу ці адмысловы артыкул і гэткая шчырая й ахвочая падтрымка вельмі палягчала працу рэдактара, які мусіў і сам кінуць заробкавую працу й лічыцца зь вялікай расьцярушанасьцяй нашага грамадзтва па краінах сьвету, цяжкімі ўмовамі жыцьця ды матар'яльнымі нястачамі першых год жыцьця нашае эміграцыі ў гэтак званым "вольным сьвеце". І бясспрэчна, усім, хто гуртаваўся вакол "Беларуса", належыцца самае вялікае прызнаньне й падзяка.

***Рэдактар "Беларуса" ў 1952-54 г."***

# ЗАМЕЖНЫХ СТУДЭНТАЎ - ПАД КАНТРОЛЬ

З дапамогаю інфармацыі, атрыманае з унівэрсытэтаў, зь 1-га жніўня фэдэральныя ўлады пачнуць пошук тысячаў замежнікаў, якія парушылі ўмовы выданых ім студэнцкіх візаў. Такіх парушальнікаў, па падліках Дэпартамэнта Ўнутранай Бясьпекі, можа быць каля дзесяці тысячаў.

Улады будуць канцэнтраваць свае намаганьні на найбольш падазроных парушальніках, а не перасьледаваць кожнага, хто парушыў іміграцыйныя законы. Парушэньні найчасьцей здараюцца, калі ўладальнікі студэнцкіх візаў кідаюць вучобу і пачынаюць працаваць без папярэджаньня іміграцыйных уладаў.

Адміністрацыя Буша выразшыла ўзмацніць нагляд за замежнымі студэнтамі пасьля тэрарыстычных атакаў 11-га верасьня 2003-га году, калі іміграцыйныя ўлады выдалі студэнцкія візы двум з дзевятнаццаці тэрарыстаў ужо пасьля таго, як атакі адбыліся.

Іміграцыйныя агенты цяпер зьбіраюць дадзеныя на студэнтаў з-за мяжы й тых, хто прыяжджае ў ЗША па студэнцкаму абмену. Такіх асобаў налічваецца каля 1,2 мільёна.

Амэрыканскія навучальныя ўстановы абавязаныя падаць ураду ўсю неабходную інфармацыю да 1-га жніўня. Пасьля гэтага іміграцыйныя і мытныя агенты пачнуць апрацоўваць усю гэтую інфармацыю, каб выявіць падазроных парушальнікаў, якія могуць несьці небясьпеку нацыянальнай бясьпецы. Напрыклад, вельмі падазронаю для ўладаў будзе немалая група студэнтаў з нейкае ісламскае краіны, якая займаецца падазронымі навуковымі дасьледамі ў нейкім адным унівэрсытэце.

Сабраная інфармацыя па парушальніках візавага рэжыму будзе даступная для фэдэральных, штатных і мясцовых праваахоўных арганаў.

***NEWS WIRE SERVICES***

# СПУСТОШАНЫЯ ДУШЫ НЕ СЬПЯВАЮЦЬ...

*Заканчэньне з бач. 1*

працу хваробам і сьмерці.

Папалудні выбіралі месца для Купальля, якое звычайна было на ўзлеску каля высокага дубу, на беразе вадаёмаў ці на вялікай паляне. Хлопцы зьбіралі сушняк. У цэнтры вогнішча замацоўваўся вертыкальна прасмолены ствол дрэва, вяршыню якога вянчала кола, упрыгожанае галінкамі дуба і бярозы, замацаванымі белымі й чырвонымі стужкамі, як знак стыхіяў вады й агню. Зьвіваньне вянка на коле з дубовых і бярозавых галінак - знак шлюбаваньня, прасмолены ствол - сувязь зямнога і нябеснага, кола - сымбаль Зямлі, мёртвай вады й жанчыны, крыж на коле - знак Неба, агню і мужчынскага пачатку. Вогнішча складалі з дубовых паленаў, для запальваньня яго здабываўся агонь трэньнем драўніны ці высяканьнем з крамянёў.

Пагорак, дзе ладзілі гульбішча, абходзілі па кругу бараною ці рабілі ўмоўную агароджу зь бярозавых галінак ці завязваючы між сабою галінкі дрэваў, кустоў і ў ёй пакідалі бярозавыя "вароты", праз якія павінны былі прайсьці ўсе ўдзельнікі абраду, пры гэтым пакінуўшы на сваім целе паясы. Пояс - гэта мітычная і рэальная перашкода, ахова чалавека.

Адзеньне хлопцаў і мужчын складалі сьветлыя нагавіцы й вышываная белая да каленяў ці ніжэй кашуля. На нагах боты, лапці, часам, басанож. Дзяўчаты ўбіраліся ў вянкі, маладзіцы й жанчыны ў хусткі й накідкі, апраналіся ў даўгія кашулі-вышыванкі зь льняной ці шарсьцяной тканіны, падвязваліся вышыванымі з карункамі бялюткімі фартухамі. Усе ўпрыгожваліся зелянінай, падпярэзваліся палыном.

Надвячоркам выбіралі Купалінку - прыгажэйшую і часам засватаную дзяўчыну. Яе ці распраналі дагала і ўпрыгожвалі зелянінай і кветкамі ці пакідалі ў кужэльнай кашулі, а на галаву надзявалі пышны вянок. Хлопцы са свайго боку абіралі Князя-Купаліша. Абранец зьбіраў княжую дружыну, якая павінна падтрымоўваць парадак на сьвяце, сачыць за вогнішчам, рыхтаваць паходні, рабіць сабе строі са зрэбнага лёну, прыладжваюць хвасты або рогі, вымазваюць сабе твары. Яны-ж ладзілі пудзіла-ляльку Купалы з бярозавых галінаў.

Абрад пачынаўся з абходу двароў. Пакуль княжая дружына рыхтавала пляцоўку і паходні, дзяўчаты й жанчыны на чале з Купалінкаю з жартамі й песьнямі зазывалі ўсіх на сьвята. Лічылася, што на Купальле не хадзілі толькі ведзьмы ды тыя, хто быў адною нагою на краю таго сьвету. Зазывалаў частавалі за запрашэньне.

Калі ўсе ўдзельнікі зьбіраліся на пагорку, адбывалася супольная вячэра без алькаголю.

Як толькі на небе тух апошні сонечны прамень - запальвалі вогнішча. Жанчыны, якія лепш за ўсіх сьпяваюць, запрашалі ўсіх сабрацца. У цэнтар выходзіла Купалінка, твар якой прыкрыты, бы вэлюмам, кужэльным ручніком, сьледам ішлі дзеўкі сьпяваючы, робілі тры абыходы вакол вогнішча:

А ішла Купалка сялом, сялом,
Ой рана-рана раненька,
Закрыўшы вочкі чабром, чабром.

Пасьля выяжджаў Князь-Купаліш вярхом на белым кані, за ім дружына. Жанчына-карыфей Купалка, якая зьяўлялася бы сувязною паміж грамадою і небам, ведала абрад і добра сьпявала, таму распараджалася сьвятам і ўручала Князю дубовы вянок. Той прымаў яго, надзяваў, падыходзіў да Купалінкі, здымаў зь яе твару ручнік і завязваў сабе праз левае плячо. Вітаў дружыну і ўсіх прысутных са сьвятам. Пачыналіся карагоды з абрадавымі песьнямі, якія пераходзілі адная ў другую. Існаваў пэўны парадак. Сьпярша пялі песьні са зваротам да Купалы, Купалкі, Месяца і зорачак, Сонца.

Апоўначы ўсе ўдзельнікі сьвята парамі ішлі на пошукі папараць-кветкі. На сьвяце прысутнічаў Купальскі Дзядок - увасабленьне добрага продка (пасьля Купальля будуць Пятроўскія Дзяды). Калі яго сустракалі падчас пошукаў у лесе, ён мог падараваць папараць-кветку.

Прыкладна праз паўгадзіны ўсе зноў зьбіраліся ля вогнішча, пілі крупнік, вадзілі карагоды. У гэты час падаў падгарэўшы слуп з колам. На каго тое кола ўказвала - той першы пашлюбуецца. Дружына скочвала палаючае кола з гары ў рэчку ці возера, пасьля чаго вада лічылася ачышчанаю, бо пашлюбавалася з купальскім агнём.

Карагоды й песьні зьмяняліся гульнямі ў "Явар", "Баяраў", "Шуляку", "Цяцерку" ды іншыя.

У самы разгар сьвята лесавічкі й нячысьцікі, падпільнаваўшы, калі Купаліш забавіўся, выкрадалі Купалінку і хавалі яе ў лесе, пакінуўшы пры ёй ахову. Яны-ж гучна з кпінамі абвяшчалі, што Купалінкі няма:

Прыбягалі малыя нячысьцікі й патрабавалі выкуп за тое, што пакажуць, дзе схаваная Купалінка. Князь даваў ім выкуп, зьбіраў сваю дружыну. Ад купальскага вогнішча запальвалі паходні й на чале з Купалішам ішлі ў лес шукаць Купалінку. Там яны змагаліся з лесавічкамі й нячысьцікамі, якія спрабавалі патушыць паходні.

А каля вогнішча ў гэты час гучалі жартоўныя прыпеўкі, у якіх дзеўкі й хлопцы высьмейвалі адзін аднаго. Кружыў карагод, пад напеў-заклён спальвалі ляльку Купалы. Рэфрэн песьні "То-то-то" суправаджаецца прытупамі, падскокамі, плясканьнем у ладкі, стукам, каб напалохаць сілы цемры:

Сягодня ў нас Купала,
То-то-то!
Ня дзеўка агонь клала,
То-то-то!
Сам Бог агонь раскладаў,
То-то-то!
Усіх сьвятых да сябе зваў,
То-то-то!



Як сьведчаньне перамогі дабра над ліхам, сьвятла над цемраю адбывалася апошняя бойка княжай дружыны з нячыстаю сілаю. Пасьля перамогі Купаліш вяртаў Купалінку на сьвята.

Потым пачыналася ачышчэньне агнём - скокі праз вогнішча. Палаючыя паходні падкладалі пад арэлі, каб тыя, хто гойдаюцца таксама ачысьціліся. Калі хлопец і дзеўка, пераскокваючы праз вогнішча, не разьнялі рук - будзе моцны шлюб. А каму агонь закрануў падол спадніцы - будзе мець немаўля.

Дзяўчаты кідалі вянкі ў агонь. Калі хлопец пасьпее выхапіць - будзе вясельле. Калі ў карагодзе хлопец дзеўцы ці яна яму падаруе вянок і надзене на галаву, гэта расцэньвалася як зарука моцнага каханьня - быць шлюбаваньню. Паводле павер'я, калі дзяўчына спаліла на купальскім вогнішчы волас каханага, той адкажа ёй узаемнасьцю.

На досьвітку адбывалася качаньне па роснай траве, ачышчэньне вадою. Купальшчыкі ля кастрышча здымалі абутак, басанож ішлі да ракі ці возера. Пакуль не ўзышло сонца, на лугу расьсцілалі палатно, калі тканіна намакала, ваду выціскалі ў посуд і выкарыстоўвалі для прафілактыкі ці лячэньня хваробаў. Лічылася, што купальская раса здольная захоўваць маладосьць і здароў'ем і плоднаю сілаю. Потым апраналіся і беглі на пагорак, каб сьпевамі пасьпець сустрэць першыя промні сонца:

Ды на Купальле, на Яна
Іграе сонца, іграе,
Ігр926 сонца, іграе,
Малойчык каня сядлае.

На сьвітанку пачыналася абавязковае рытуальнае спажываньне ежы. Усе сядзелі як адная сям'я. Зьяўляўся і гарачы крупнічок. Купальскія песьні захавалі й пералік абрадавых страваў, што ўжываліся: "рыбка зь перцам", "кашка з алейцам", пірагі з цыбуляй, праснакі, верашчака, агуркі, бліны, сыр, яйкі. Яйка сымбалізавала зараджэньне новага жыцьця. Белы сыр, як і вянок, лічыўся сымболем цнатлівасьці, бліны - знакам сонца і жаночым знакам адначасна.

Ня жджы, маці, Ружу,
Ня жджы ў вяночку,
А жджы ў платочку,
Ня жджы зь белым сырам,
А жджы з малым сынам.

Кожнаму, хто быў на Купальлі, пасьля апоўначы трэба было прачысьціцца гарачым крупнікам з траваў на мёдзе і прыправаў. Крупнік гатаваў Купальскі Дзядок або добры чарадзей пад магічныя сьпевы аб травах і кветках.

Хочацца прапанаваць рэцэпты крупніка, верашчакі й праснакоў па-крыўску.

характва, таму купальшчыкі качаліся ў росных травах, мыліся расою, абціралі ёю цела. А вось качацца ў жыце забаранялася, бо лічылася, што толькі ведзьмы псуюць калосьсе, завязваюць "куклы" ў жыце.

Пасьля мыцьця расою ўсе ішлі да вады варажыць на вянках зь песьнямі:

Гэй, ой, на Йвана Купала
Дзеўка долі шукала.
Эй, па полю-ж хадзіла,
Цьвяточкі зьбірала,
Вяночак зьвівала,
Эй, на ваду пускала.

Пускаючы вянкі, замацоўвалі на іх сьвечкі. Калі не было вады, то кідалі вянкі ў траву, на кусты, дрэвы ці на страху. Завісьне вянок - будзе дзеўка сёлета замужжам.

Пасьля пусканьня вянкоў усе ішлі да вады, скідалі свае строі, цнатлівыя і старыя пакідалі белыя кашулі, уваходзілі ў ваду, каб яна ачысьціла, надзяляла

**Крупнік.** Да 0,5 літра вады дадаць любыя нягоркія травы: чыстацел, бясьмертнік, чабор, рамонак, душыцу ды іншыя, а таксама кару дуба, жменю гарбаты, трошкі цынамону, гвазьдзікі, ванілі, чорнага перцу, чвэрць мускатнага гарэха. Гатаваць 5-10 хвілінаў, працадзіць, дадаць 0,5 літра мёду й 1 літар гарэлкі, хуценька перамяшаць. Ужываць нарачым.

**Верашчака.** У рондаль уліць шклянку вады, 1/4 шклянкі хлебнага квасу, згатаваць, падсмажыць пшанічную муку, разьвесьці яе водою, пагатаваць 5 хвілін. Абсмажыць кавалачкі сала з цыбуляю, пасаліць па смаку. Пакласьці ў рондаль згатаваную муку, падсмажанае сала і паставіць на 5 хвілінаў у духоўку. Сала 200 г, 1 корань пятрушкі, 1 цыбуліна.

**Праснакі.** Мука (лепш жытняя), вада і соль па смаку. Вымясіць цеста як для хлеба. Раскатаць, змазаць алеем. Скруціць у трубачку, разрэзаць напалову. Кожную палову зноў раскатаць, змазаць алеем, пакласьці на патэльню, нажом зьверху зрабіць магічны знак росту і багацьця, падсмажыць на агні ці ў духоўцы.

З Купальля ўсе вярталіся нібы нанованароджаныя.

Хто ня быў на сапраўдным Купальлі, той ня ведае, што такое Беларусь і беларуская культура. А галоўнае, што ў купальскім тэатры-містэрыі няма падзелу на выступоўцаў і гледачоў - усе удзельнікі. Таму сьвята праходзіць так весела і па-сяброўску.

Жадаючым патрапіць на Купальле сёлета трэба зьвязацца з Аленаю ці Пётрам Рыжымі па тэл. **(914) 734-8115** альбо праз E-mail **Ryzy2@aol.com** ці **LenaBelarus@aol.com** каб замовіць сабе месца і даведацца больш інфармацыі. Купальле адбудзецца ў ноч з суботы 28-га на нядзелю 29-га чэрвеня. З сабою неабходна мець 25 даляраў, каб аплаціць выдаткі на набыцьцё дазволу на вогнішча і на месца ў парку. Хлопцам і мужчынам трэба мець белыя, лепш вышываныя кашулі й сьветлыя нагавіцы. Дзяўчатам і жанчынам - спадніцы, лепш доўгія, белыя блюзкі з караламі.

***Валянціна ЯКІМОВІЧ***



# ПРА МІХАСЯ ГАНЬКА І ЎСЕВАЛАДА РОДЗЬКУ

Напярэдадні праваслаўнага Вялікадня, едучы з Польшчы ў Беларусь, памёр беларускі грамадзкі дзяяч і літаратар, вэтэран нацыянальнага руху Янка Жамойцін (1922 - 2003). Ён не дажыў да 60-х угодкаў стварэньня Саюзу Беларускай Моладзі...

Я. Жамойцін нарадзіўся на Лідчыне ў 1922-м годзе. Вучыўся ў Варшаве і Навагрудку. У сьнежні 1942-га ўступіў у падпольную Беларускую Незалежніцкую Партыю, быў ёю пасланы на працу ў СБМ, ачоліў Навагрудзкую акруговую арганізацыю. У 1944-м годзе Жамойцін выехаў на Захад, але праз год перабраўся ў Польшчу. У 1949-м годзе быў арыштаваны й асуджаны на 25 гадоў канцлягероў. У Польшчу вярнуўся толькі празь сем гадоў. У 1996-м годзе ў Беластоку ў зборніку "Лёс аднаго пакаленьня" былі надрукаваныя ўспаміны Янкі Жамойціна "З перажытага". Не пра ўсё аднак ён рашыўся ў іх напісаць. Напрыклад, пра тое, што пасьля вайны спатыкаўся ў Польшчы з былым кіраўніком СБМ Міхасём Ганьком.

### Ганько ішоў у Беларусь праз Украіну

У сваёй публікацыі "Што новае ў гісторыю СБМ уносяць "Вырваныя бачыны" Лявона Юрэвіча", зьмешчанай у "Беларускім дайджэсьце" (2001, № 10, кастрычнік; гэтая-ж публікацыя пазьней зьявілася ў часапісе "Bialoruskie Zeszyty Historyczne" (2002, № 17), Жамойцін піша: "Лёс Міхася Ганька да канца не высьвечаны, аднак з выказваньняў Міколы [Ганька] і іншых улікаў вынікае, што "Доктар" (псэўдонім Міхася) прабываў у Польшчы... Праўдападобна, ня час яшчэ на поўнае высьвятленьне".

У прыватнай размове ў чэрвені 2001-га году Янка Жамойцін распавёў мне, што ў 1947-м годзе ў адным з польскіх гарадоў на вуліцы спаткаў былога шэфа СБМ. Праўдападобна, адбылося гэта ва Ўроцлаве. Ганько быў апрануты ў плашч і капялюш, рукі трымаў у кішэнях. Яны пазналі адзін аднаго, але не загаварылі й кожны пайшоў сваёю дарогаю. Больш яны не спатыкаліся. Пра гэтую сустрэчу Я. Жамойцін прасіў мяне нідзе ня згадваць, таму раблю гэта толькі цяпер, пасьля ягонай сьмерці.

Янка Жамойцін браў пад сумнеў магчымы ўдзел Ганька ў антыбальшавіцкай партызанцы на Бацькаўшчыне, лічыў, што той хаваўся ў Польшчы. "Дасюль ніхто з групы Родзькі, адыходзячай з Чэхаславакіі ў Беларусь не назваў сярод адступаючых прозьвішча Ганька, не згадана пра яго і сярод паветраных дэсантнікаў, нікому не ўдалося напаткаць яго рэальныя сьляды побыту на Бацькаўшчыне пасьля вайны", піша ён у згаданай публікацыі. Сапраўды, рэальныя сьляды нам пакуль што невядомыя, але вядомы шлях, якім Ганько мог патрапіць у другой палове 1945-га ў Беларусь.

Брат Міхася Мікола Ганько ў інтэрвію Лявону Юрэвічу (Вырваныя бачыны. Менск, 2001, с. 26) распавядаў, што разьвітаўся зь ім у пачатку траўня 1945-га ў Чэхіі. "Яны пайшлі праз Карпаты, а там у Белавежу", казаў ён. Разам зь Міхасём была група сяброў СБМ. Гэтую вэрсію пацьвярджае ўкраінская крыніца. І. Федзік у лёнданскай газэце "Українська думка" 25-га студзеня 1996-га году (перадрук - "Зважай" (Таронта), 1996, № 4, чэрвень) піша: "Беларускія нацыяналістычныя партызаны падтрымлівалі сувязь з УПА. Адзін з беларускіх атрадаў, што прабіраўся зь Нямеччыны акружным шляхам, апынуўся ў Карпатах. І тут украінскія паўстанцы дапамаглі беларусам, чым маглі, а потым праз Галіччыну і Валынь перапраўлілі іх у родныя лясы". Зусім магчыма, што тут маецца на ўвазе менавіта аддзел Міхася Ганька.

Пра лёс шэфа СБМ пасьля спыненьня партызанкі існуюць шмат вэрсіяў. Яго, нібыта, бачылі ў савецкім канцлягеры, шукалі ў 1950-х на ўсіх абшарах СССР. А яго брат быў упэўнены, што Міхась не патрапіў у рукі чэкістаў, прынамсі, жывым. І схіляўся да думкі, што ён спакойна жыў, так і не выкрыты, у Польшчы. Зноў-жа, па чутках, М. Ганько здолеў перабрацца ў Заходнюю Нямеччыну, дзе жыў, аж пакуль у 70-х гадох не загінуў у аўтакатастрофе.

### Родзька жыў у Расеі

Янка Жамойцін у згаданай вышэй публікацыі заўважыў, што нічым не даказаная інфармацыя пра расстрэл бальшавікамі Ўсевалада Родзькі. Жамойцін спасылаецца на сьведчаньне зямлячкі Родзькі, жыхаркі Варшавы Надзеі Рамановіч (Сіўко), пра яго знаходжаньне ў савецкім канцлягеры. Пры той размове зь ёю прысутнічаў і я, запісваючы ўспаміны на дыктафон.

Па словах Рамановіч, яе стрыечная сястра Ірма Зайко ў час нямецкай акупацыі пабралася шлюбам з старшынём Менскага павету Мечыславам Контаўтам. Жылі яны ў Менску. Тады Зайко-Контаўт і пазнаёмілася з Родзькам. Увосень 1943-га М. Контаўт адправіў жонку ў Варшаву, сам-жа выехаць не пасьпеў - быў забіты савецкімі партызанамі. У канцы вайны ў Ірмы Зайко зьявіўся новы муж - савецкі афіцэр, зь якім яна выехала ў Кіеў. Адтуль спрабавала нелегальна перайсьці мяжу ў Польшчу, да маці, але была затрыманая. Дзяржбясьпека выкрыла яе мінулае і асудзіла на 15 ці 20 гадоў канцлягероў.

І. Зайко адбывала пакараньне ў Сібіры (на жаль, Рамановіч ужо не памятае дакладнай мясцовасьці). У 1956-м годзе па амністыі яе вызвалілі і яна прыехала ў Менск. Праз год з Польшчы ў Менск прыехала да сваякоў Надзея Рамановіч, спаткалася і з Ірмаю.

"Ведаеш, я там Родзьку спаткала, - сказала Зайко. - Ужо пасьля амністыі, калі мяне вызвалілі. Яго ці на работу, ці з работы гналі, і я яго ўбачыла, пазнала. І ён мяне пазнаў. "Ну, Вова, вызваліліся мы!", - кажу. А ён кажа: "Ты вызвалілася, а я то не. Я пад амністыю не пападаю". Родзька сказаў, што дастаў 25 гадоў турмы. "Мала таго, - казаў ён. - Пасьля адбыцьця тэрміну я маю забарону вяртацца на Радзіму. Мушу тут застацца".

Гэта ўсё, пра што распавяла Рамановіч Ірма Зайко. Толькі праз 14 гадоў гэтая вестка дайшла да сям'і Родзькі ў ЗША. Надзея Рамановіч у 1971-м годзе гасьціла ў сяброўкі ў Дэтройце ды патэлефанавала бацьку Ўсевалада, Філарэту Родзьку. Так вестка пра знаходжаньне Ў. Родзькі ў Сібіры пашырылася на эміграцыі.

Калі Родзька выжыў у канцлягеры й застаўся жыць у Сібіры, ён мог пашукаць сваіх старых сяброў. Найлягчэй гэта было зрабіць праз Вільню, дзе жылі браты Юрка і Лявон Луцкевічы, Антон Шантыр. Аднак іх і іншых (Янку Гінько, Рыгора Зыбайлу) ён не шукаў, не спрабаваў перадаць вестку і за мяжу, дзе знаходзілася ягоная сям'я. Альбо Ўсевалад загінуў у зьняволеньні, альбо ён ня мог дараваць сабе "ўласнаручных паказаньняў" у турме дзяржбясьпекі, якія падставілі некаторых сяброў БНП, што засталіся ў Беларусі. Таму і распачаў новае жыцьцё, магчыма, з новаю сям'ёю, спрабуючы забыцца пра сваё мінулае. Кажуць, што ў 70-ыя гады, калі дзяржбясьпека, па адной былой справе выклікала на допыты сяброў БНП, галоўным "кансультантам" быў Я. Гінько, які жыў у Маскве (да яго, паралізаванага, езьдзіў сьледчы), а пра Родзьку нічога ня згадвалася...

*Сяргей Ёрш*

***На здымках: перад сваімі выхаванцамі прамаўляе Міхась Ганько. Менск, 1944 г.; Алесь Пушкін. Партрэт Усевалада Родзькі.***





# АНГЕЛЬСКІЯ ГАЗЭТЫ АБ БЕЛАРУСІ

Апошнім часам не было доўгіх артыкулаў аб Беларусі ў ангельскіх газэтах. Былі толькі кароценькія паведамленьні. Некаторыя зь іх ўжо сталіся неактуальнымі, аднак варта адзначыць, што пісалася аб Беларусі.

Сур'ёзная ангельская газэта "The Times" ад 04.01.2003, пішучы аб Садаме Гусэйне, успамінае і Беларусь. Гаварылася пра магчымае сховішча для Садама Гусэйна. Газэта выказвае сумнеў адносна ўцёкаў іракскага дыктатар ў Беларусь да мясцовага тырана. Хоць газэта не называла прозьвішча беларускага тырана, але бяз цяжкасьці можна здагадацца, хто меўся на ўвазе.

У "The Times" ад 14.01.2003 успамінаюцца Маўрытанія, Эгіпет і Расея, як магчымыя дзяржавы, дзе можа спыніцца С. Гусэйн. Аднак, піша газэта, яму лепш зьмяніць сваю паліцэйскую дзяржаву на краіну з падобным рэжымам, як Лівія ці Беларусь, якія могуць яго ахоўваць.

Па калеі аб другой карысьнай справе. Газэта "The Times" ад 15.02.2003 успамінае тэстамэнт сьв. памяці Тамары Дамінік, якая памерла ў Англіі. Тамара была жонкаю Яна, які меў вялікую маёмасьць. Між іншым, Ян напачатку 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя даў у арэнду адзін са сваіх дамоў за намінальную рэнту для новазложанага беларускага консуляту. Тамара Дамінік пакінула па сабе вялікі маёнтак. Не забылася яна аднак і аб фінансавай дапамозе для розных беларускіх установаў. У сваім тэстамэнце адпісала яна 10 000 фунтаў стэрлінгаў на Беларускую бібліятэку і музэй Францішка Скарыны ў Лёндане, 5 000 фунтаў Беларускаму місійнаму трасту ў Лёндане, па 2 500 фунтаў на Чарнобыльскі дзіцячы праект і на Чарнобыльскую дзіцячую лінію жыцьця. Усяго разам сьв. памяці Тамара завяшчала на беларускія справы 20 000 фунтаў стэрлінгаў, гэта, прыблізна, $30 000. Яе вялікі гуманны ўчынак годны насьледаваньня.

У дыпляматычных адносінах ёсьць добры звычай падчас візытаў кіраўнікоў дзяржаваў абменьвацца падарункамі-сувэнірамі. Паводле няпісанага правіла падарункамі бываюць рэчы ці вырабы, якія маюць дачыненьне да культуры, гісторыі ці прамысловасьці краіны, якая дае падарунак. Так робіцца ўва усім цывілізаваным сьвеце. Але чаму я пра гэта пішу?

Справа ў тым, што А. Лукашэнка зрабіў інакш. Газэта "The Times" ад 10.03.2003 пісала, што ён падараваў іранскаму кіраўніку набор і аўтаручку, выробленую ў... Расеі. Зьдзіўляюць такія ўчынкі А. Лукашэнкі. Нармальна так ня робяць. Вельмі сумніўна, каб, напрыклад У. Пуцін даваў падарунак, які быў выраблены ў Беларусі. Нашто-ж беларусам рабіць інакш?

І зноў у газэце "The Times" ад 24.03.2003 было паведамленьне аб затрыманьні міліцыяй каля 50 асобаў разам зь дзецьмі, якія сабраліся ў Менску, каб ушанаваць 85-ю гадавіну абвешчаньня незалежнасьці Беларусі.

Аб затрыманьні дэманстрантаў піша таксама "Dziennik Polski" ад 27-03.2003, які выходзіць у Англіі. Называлася прозьвішча сп. Вінцука Вячоркі ад Партыі БНФ.

15.04.2003 тая-ж "The Times" ад паведаміла, што міністры замежных справаў Эўразьвязу пастанавілі адклікаць забарону на ўезд Лукашэнкі й ягоных урадоўцаў у краіны Эўропы. Была аднак паўтораная крытыка Беларусі за адсутнасьць там правоў чалавека і дэмакратыі. Адкліканьне забароны на ўезд у Эўразьвяз было зробленае пасьля таго, як Беларусь ізноў прынялі ў АБСЭ (Арганізацыю па Бясьпецы й Супрацоўніцтву ў Эўропе). Цікава, як доўга Беларусь там пратрымаецца гэтым разам?

***Апрацаваў Міхась ШВЭДЗЮК***



# Весткі й Паведамленьні

нью ерскага аддзелу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня

Viestki j Paviedamlenni

Belarusan American Association, Inc.

166-34 Gothic Drive, Jamaica, N.Y. 11432 Сусьветнае павуціньне: http://www.baza-belarus.org

№6 (449)

# ТРАВЕНЬСКІ СХОД АДДЗЕЛУ БАЗА

Чарговы сход нью ёрскага аддзелу БАЗА адбыўся 10-га траўня. Напачатку была лекцыя прафэсара Эўрапейскага Гуманітарнага Ўнівэрсытэту ў Менску др. Алены Гапавай на тэму "Нацыянальная праблематыка і гендэрныя (жаночыя) досьледы ў Беларусі". Прамоўца выклала свае бачаньне працэсаў фармаваньня нацыянальнай сьведамасьці беларусаў, пераўвасобленых ва ўспрыняцьці жаночай часткі насельніцтва Беларусі, а таксама розныя аспэкты палітычных і сацыяльных падзеяў, якія адкрываюць іх "жаночае" (гендэрнае) вымярэньне і праз гэта даюць магчымасьць да лепшага зразуменьгня іх, кідаюць сьвятло на тлумачэньне таго становішча, якое сёньня маем ў справе нацыянальнай самаідэнтыфікацыі.

Не з усімі выказваньнямі прамоўцы маглі-б пагадзіцца нацыянальныя дзеячы, як сп. Зянон Пазьняк, які быў прысутны на гэтым выкладзе, але шмат цікавага і дагэтуль незаўважанага можна было пачуць ад прамоўцы. Стартавай тэзаю выступу было тое, што беларусы маюць недааформленую нацыянальную сьведамасьць, якая рэальна пачала ўтварацца толькі пасьля Другой Сусьветнай вайны, і фармавалася вакол перамогі над нямецкім фашызмам. Таму сёнешнія заклікі апазыцыі да вяртаньня "назад у Эўропу" знаходзяць няшмат прыхільнікаў сярод насельніцтва, якое больш схільнае падтрымліваць лёзунгі Лукашэнкі, які моцна карыстае з грамадзкага ўяўленьня аб перамозе т. зв. "савецкага народу". Такім чынам, на думку прамоўцы, існуюць два канкуруючыя міты, адзін - пра эўрапейскае мінулае і даўнія карані гісторыі, другі - пра тое, што беларусы галоўную падзею гісторыі маюць партызанскі рух падчас Другой Сусьветнай вайны.

Ахарактэрызаваўшы абодва міты, др. Гапава праз вобраз сярэднестатыстычай беларускай жанчыны Аўдоцьці з калгасу "Новы Шлях" паказала, што для большасьці насельніцтва шлях "вяртаньня ў Эўропу" непрыймальны дзеля таго, што Эўропа і Захад асацыююцца, з дапамогаю сёнешніх ідэолягаў пры ўладзе, з вайною і фашыстоўскімі зьверствамі, а "яднаньне з Расеяй" (выніковы лёзунг савецкага міту), нібыта, цалкам адпавядае патрэбам беларусаў і ёсьць працягам таго, за што змагаліся бацькі й дзяды ў 1941-45 гг. Прамоўца падкрэсьліла, што яна не падтрымлівае афіцыйную ідэалёгію ў Рэспубліцы Беларусь, але такой ёсьць сумная рэальнасьць.

Далей прамоўца сканцэнтравалася на асноўнай тэзе свайго дакладу, а менавіта, што нацыянальная ідэя ёсьць шыльдаю для клясавых, сацыяльных працэсаў, прагі да "зьменаў пазыцыі ў сацыяльнай іерархіі". Нажаль, брак часу не дазволіў прамоўцы зрабіць поўны выклад сваіх аргумантаў, асабліва ў жаночым (гендэрным) аспэкце.



*Госьця сходу доктар Алена Гапава.*

Даклад выклікаў эмацыйную рэакцыю з боку прысутных, і шэраг выступоўцаў запярэчылі прамоўцы па некалькіх пазыцыях, асабліва ў тым сэнсе, што непрыняцьце нацыянальнага шляху характэрнае для старэйшай групы жыхароў Беларусі, і што сацыяльныя апытаньні паказваюць на папулярнасьць ідэі ўваходжаньня, або вяртаньня, Беларусі ў эўрапейскую супольнасьць расьце, асабліва сярод моладзі й людзей сярэдняга веку, а папулярнасьць Лукашэнкі падае. Акрамя таго, варта ўлічыць моц узьдзеяньня афіцыйнай прапаганды, пры амаль поўнай адсутнасьці альтэрнатыўных крыніцаў інфармацыі, аб чым як раз казала сама дакладчыца (напрыклад, недапушчэньне інфармацыі пра гвалты й рабункі савецкіх партызанаў). Аўтар гэтых радкоў заўважыў прамоўцы, што гіпотэза або тэорыя пра эканамічныя інтарэсы як рухавік нацыянальных працэсаў і рухаў гэта толькі адна з гіпотэзаў (тэорыяў), але існуюць і супрацьлеглыя пункты гледжаньня, што выкладзеныя даволі падрабязна. Да апошніх належыць гіпотэза пра тое, што менавіта нацыянальная ідыя, нацыянальны гонар ёсьць рухавіком эканамічнага разьвіцьця, і гэта на прыкладзе ЗША і шэрагу краінаў Эўропы абгрунтавана паказала ў сваёй нядаўняй кнізе праф. Лія Грынфэльд з Бостанскага Ўнівэрсытэту ("Дух капіталізму: нацыяналізм і эканамічны рост", Выд. Гарвардскага ўн-ту, 2002).

Наагул, адбылася цікавая й патрэбная дыскусія пра справы нацыянальнай ідэнтычнасьці Беларусі й, спадзяюся, што сёй-той з прысутных, хто нячаста задумваўся пра тое, хто ён і адкуль ягоны род - вернецца да гэтага пытаньня ў сваіх думках. А гэта і ёсьць галоўная рэч у справе ўсьведамленьня сваёй нацыі й сваёй гісторыі.

З разгорнутым апаніруючым словам выступілі сп.сп. Сяргей Навумчык і Зянон Пазьняк. Сп. Пазьняк адзначыў, што "абсыпаньне перакуленай піраміды", адсоўваньне ўбок ідэёвых змагароў і прыход да ўлады мэркантыльных дзялкоў, што хаваюцца за нацыянальныя лёзунгі, фармаваньне новай клясы ёсьць рэальнасьць амаль на ўсёй посткамуністычнай прасторы. Але гэта ня значыць, што мэркантыльнасьць і сквапнасьць ёсьць істотнаю ці хаця-б адною з рысаў нацыянальнага мысьленьня. Беларускі нацыянальны рух мае дастаткова аргумантаў для давядзеньня людзям сваёй слушнасьці, мае пераканаўчую сілу, якой так баіцца рэжым, зачыняючы незалежныя выданьні, закрываючы шлях інфармаваньня людзей аб тым, што дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, навуковыя інстытуты, выдавецтвы падручнікаў і г. д. ня ёсьць прыватным бізнэсам кіраўнікоў рэжыму. Нацыянальныя беларускія сілы не баяцца спрэчак і дыскусіяў на роўных падставах. Яны ўпэўненыя, што выйдуць зь іх пераможцамі, як толькі народ атрымае магчымасьць пачуць іх. Цяпер справа за тым, каб такія падставы стварыць.

Сп. Зянон Пазьняк затым выступіў з аналізам бягучага моманту ў Беларусі й адзначыў небясьпеку, якую нясе скасаваньне беларускай нацыянальнай валюты пад выглядам "валютнага саюзу", г. зн. увядзеньнем у Беларусі расейскага рубля. Таксама небясьпечнаю ёсьць падрыхтоўка рэжымам Лукашэнкі рэфэрэндуму аб аб'еднаньні з Расеяй і аб працягу тэрміна прэзыдэнцтва Лукашэнкі. Мы мусім рабіць усё, і ў Беларусі й па-за Беларусьсю, каб выкрыць гэтыя пляны рэжыму і расейскага кіраўніцтва. Рэфэрэндуму трэба не дапусьціць. Асноўны спосаб - байкот.

Сп. Антон Шукелойць выказаў свае заўвагі аб пачутым дакладзе, а таксама аб патрэбах бягучага моманту і спосабах, у якія беларусы Амэрыкі могуць уплываць на падзеі.

Затым сп. Сяргей Навучык распавёў пра канфэрэнцыю ў Кліўляндзе і зачытаў рэзалюцыю ў абарону інтарэсаў азыльянтаў і палітычных уцекачоў у ЗША, якая была аднагалосна прынятая. Пасьля ў "Розным" прысутныя мелі магчымасьць пачуць аб'явы й інфармацыі, пазнаёміцца з гасьцямі аддзелу.

Напрыканцы ўсе частаваліся з выдатнага стала з рознымі прысмакамі, падрыхтаванага дбаньнем спн. спн. Аляксандры Лістоўскай і Тацьцяны Красоўскай.

***Віталь ЗАЙКА***

---

**Выказваю шчырую падзяку ўсім сябрам нью ёрскага аддзелу БАЗА, якія прысутнічалі 10-га траўня на штомесячнай зборцы прыхільнікаў культурнага адраджэньня Бацькаўшчыны ў Фундацыі Крэчэўскага і сабралі сродкі на выданьне чарговых нумароў "Беларускіх Ведамасьцяў". Асаблівая ўдзячнасьць сакратару ўправы аддзелу спн. Валянціне Якімовіч і сп. Аляксандру Міцкевічу, якія арганізавалі падтрымку часапіса.**

**Зянон ПАЗЬНЯК**

---

**Шчыраму беларусу, дабразычліваму чалавеку й найлепшаму сябру Міколе САГАНОВІЧУ мае сардэчныя віншаваньні, здароў'я і шмат гадоў жыцьця ў сувязі з 60-годзьдзем.**

**Анаталь ТАЛЬЯНСКІ**

---

## Уплаты ў нью ёркскі аддзел БАЗА:

**Складкі:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| А. Кіпель | 150 | А. Маток | 20 |
| А. Тальянскі | 60 | У. Цераха́ў | 20 |
| Л. Колін | 50 | Шчыры дзякуй! | |

---

**Уплаты ў аддзел дасылайце скарбніку на адрас:**
*Valeri Dvornik*
*172 Millspring Rd.*
*Manhasset, N.Y. 11030*
*Чэкі выпісвайце на* ***Belarusan American Association.***

**Ахвяраваньні на БелПом дасылайце на адрас:**
*A. Mickievic*
*90-16 54th Ave*
*Elmhurst, NY 11373*
*Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя* ***A. Mickievic***

---

**НАСТУПНЫ СХОД НЬЮ ЁРСКАГА АДДЗЕЛУ БАЗА АДБУДЗЕЦЦА 14-га ЧЭРВЕНЯ 2003-га ГОДУ А 7-й ГАДЗІНЕ ВЕЧАРА Ў ФУНДАЦЫІ ІМЯ П. КРЭЧЭЎСКАГА АДРАСУ:**
***166-34 GOTHIC DR., JAMAICA***
***Даезд цягнікам падземкі F да 169th Street.***

# БЕЛАРУСЫ Й БЕЛАРУСКІ АЎСТРАЛІІ

**Пачатак размовы.**

Экзатычная прырода, шматкультурнае асяродзьдзе і надзвычай вялікая адлегласьць ад мясьцінаў, дзе нарадзіліся, наклала яскравы адбітак на лёсы й характары тых, каго мы называем аўстралійскімі беларусамі. Яны такія, якімі зрабіла іх жыцьцё: стрыманыя і добразычлівыя, самаўпэўненыя, часам нават зацятыя, але ветлівыя й гасьцінныя, як і ўсе беларусы.

**Беларускія мары**

З рознымі пачуцьцямі згадвалі беларусы той час, калі паўгалодныя і змучаныя няпэўнасьцю свайго існаваньня зьяжджалі яны з разбуранай вайною Нямеччыны ў розныя бакі сьвету. Ехалі з марамі пра свой куток, пра спакой і ўпэўненасьць у будучыні. Для большасьці было неістотна, накіравацца ў ЗША, Аргентыну, Канаду ці яшчэ куды, абы далей ад акупаванай Саветамі радзімы, і каб не прымушалі вярнуцца туды, дзе жах рэпрэсіяў будзе поўніць усё жыцьцё. Так вялікая частка беларусаў (па розных ацэнках да 15 тысячаў) апынулася ў Аўстраліі.

Месяц вандроўкі на параплаве і зямля абяцаная ўжо пад нагамі. Чым будзе яна - другою радзімаю ці часовым прытулкам? Тады, прыканцы саракавых - пачатку пяцідзясятых ніхто ня мог з пэўнасьцю адказаць на гэтае пытаньне, яны толькі-толькі пачыналі жыць у новай краіне і былі поўныя спадзяваньняў.

Аўстралія зьдзівіла беларусаў і сваёю прыродаю, такой адрознаю ад таго, да чаго прызвычаіліся зь дзяцінства, і заўсёды цёплым надвор'ем, і людзьмі, якія ня ведалі чорнага хлебу. Да ўсяго трэба было прыстасоўвацца, а найперш да мовы.

Мова зьявілася самым істотным фактарам адаптацыі аўтралійскіх беларусаў. Паводле іх расповядаў, чым больш сталы быў чалавек, тым цяжэй ён засвойваў мову і тым цяжэй прыстасоўваўся да новага жыцьця. Некаторыя сталыя людзі, якія ня мелі магчымасьці вучыць мову праз непасрэдныя кантакты зь мясцовым насельніцтвам на працы, так да канца жыцьця і не размаўлялі па-ангельску і не прызвычаіліся да новай краіны. У Аўстраліі яны шукалі сваіх суайчыньнікаў, або іншых славянаў - украінцаў, расейцаў, сэрбаў - і стваралі свой асаблівы асяродак людзей, дзе размаўлялі зразумелаю моваю, дзяліліся агульнымі праблемамі, згадвалі родныя мясьціны, марылі, і так перааддольвалі адзіноту і разгубленасьць. І ўсё ж, аўстралійскае жыцьцё часам ламала людзей. Ня вытрымаў цяжкасьцяў міжасабовых адносінаў Сьцяпан Шнэк, ня змог цалкам прыстасавацца да новага жыцьця Алесь Салавей... Іхныя спадзяваньні ў Аўстраліі ня зьдзейсьніліся...

Але ішоў час, і некаторыя мары аўстралійскіх беларусаў ажыцьцявіліся: яны пабудавалі дамы, выгадавалі дзяцей, забясьпечылі сабе старасьць. Аўстралія сапраўды сталася шмат для каго другою радзімаю. Але многія з сустрэтых мною беларусаў згадвалі, што вельмі доўга яны жылі надзеяй вярнуцца дадому, таму нават не прымалі аўстралійскага грамадзянства. Толькі калі дзецям трэба было атрымоўваць вышэйшую адукацыю, а халодная вайна чарговы раз паказала моц савецкага рэжыму ў Беларусі, жыцьцё вырашыла праблему грамадзянства ў бок Аўстраліі. Так мары пра вяртаньне ператварыліся ў надзею хаця-б калі-небудзь убачыць родныя мясьціны. Для некаторых аўстралійская зямля стала апошнім прытулкам раней, чым магчымасьць убачыць радзіму стала рэальнаю. Для іншых - гэтыя надзеі споўніліся, праўда, спатрэбілася на тое больш за сорак гадоў.

Розныя пачуцьці мелі беларусы, калі праз шмат гадоў наведалі родныя мясьціны. Жанчына з Жыткавічаў, якая ўжо больш за паўстагодзьдзя пражыла ў Адэляйдзе, Паша Чарнагалан, згадвала, што ў часе паездкі на Бацькаўшчыну забрала нарэшце зь Беларусі сваё сэрца. Менавіта тады, на пачатку дзевяностых, яна канчаткова ўпэўнілася, што шляхоў для вяртаньня няма. А ведамы беларус Сыднэю Міхась Лужынскі ўвесь час паўтараў, што жыве надзеяй яшчэ раз пабачыць родную Маладэчаншчыну і сяброў дзяцінства. Ён быў тут таксама на пачатку дзевяностых, але жадаў-бы прыехаць ізноў - ягонае сэрца застаецца ў Беларусі.

**Беларускае жыцьцё**

Шмат хто зь беларусаў згадвалі, што спачатку аўстралійцы ставіліся да новых імігрантаў асьцярожна ці нават зьняважліва. Казалі, каб хутчэй забываліся на сваю мову і вучылі ангельскую - рабіліся сапраўднымі аўстралійцамі. Але з часам, адносіны зьмяніліся. Іміграны значна ўзбагацілі мясцовую культуру і, фактычна, стварылі іншую краіну, дзе шматкультурнасьць стала ладам жыцьця.

У разнастайнасьці культураў не згубіліся і беларусы. Свае арганізацыі яны сталі ствараць ужо ад пачатку 50-х. У розных гарадах - Мэльбурне, Сыднэі, Адэляйдзе, Пэрце - гуртаваліся беларусы, каб застацца самімі сабою, размаўляць на сваёй мове, сьпяваць свае песьні, маліцца ў сваёй царкве, а таксама каб распавесьці аўстралійцам і іншым пра сябе.

І было што паказаць і расказаць. Беларусы й у Аўстраліі гатавалі свае зь дзяцінства знаёмыя стравы, многія жанчыны займаліся вышываньнем, якому навучыліся яшчэ ад матуль, сьпявалі беларускія песьні, наладжвалі свае сьвяты, на якія ў лепшыя часы зьбіраліся сотні беларусаў, нават залі не зьмяшчалі ўсіх ахвотных. Пэўны час існаваў беларускі скаўтынг, а спартовыя каманды беларусаў удзельнічалі ў аўстралійскіх спаборніцтвах. Былі выставы й канцэрты, ладзіліся агульнааўстралійскія сустрэчы беларусаў, і да сёньня яшчэ працуе беларускае радыё ў Сыднэі й Пэрце, сьпявае гурт "Каліна", у якім зьмянілася ўжо некалькі пакаленьняў выканаўцаў.

Сапраўды, беларусы здолелі стварыць свой асаблівы сьвет, які пэўным чынам супрацьстаяў асіміляцыі. Так, у сем'ях старых беларусаў захоўваецца свая мова, ежа і нават лад жыцьця такі, які можна сустрэць у нас, менавіта таму сярод іх так далёка ад Беларусі адчуваеш сябе, як дома. Амаль усе трымаюць агародчыкі, дзе вырошчваюць уласныя агуркі, памідоры ды іншую звычайную для нас гароднiну. Яны ходзяць у грыбы, квасяць капусту, на Вялікдзень гуляюць у біткі. А яшчэ яны захоўваюць асаблівы лад сямейных дачыненьняў, дзе бацькі праз усё жыцьцё жывуць інтарэсамі сваіх дзяцей, дапамагаюць гадаваць унукаў, і дзе пануюць пачуцьці павагі й добразычлівасьці.

Яны больш стрыманыя і кансэрватыўныя за аўстралійцаў, больш трымаюцца звычаяў, прынесеных з радзімы. Безумоўна, новая краіна зрабіла значны адбітак і на асаблівасьцях беларускай гаворкі, у якой усё часьцей чуецца ангельскае "yes". Сталіся звычайнымі сустрэчы на "барбэкю", зьявіліся цікавыя гобі, як напрыклад, вырошчваньне архідэяў, якім захапляецца сп. Мікола Антух у Сыднэі.

...Актыўнае беларускае жыцьцё, што жывіла беларускую грамаду, стала прыкметна занепадаць ужо ў 90-я гады. Старое пакаленьне адыходзіла, а новае не прыйшло. Страчанымі для беларушчыны аказаліся дзеці беларусаў, народжаныя ў Аўстраліі. Аўстралійцы паводле адчуваньня, яны пераважнаю большасьцю не размаўляюць па-беларуску. Чаму так адбылося? Існуе шмат прычынаў, сярод іх і пазыцыі бацькоў, якія не давялі важнасьці веданьня роднае мовы, і ў нечым слабасьць беларускіх арганізацыяў, часта занятых высьвятленьнем ідэйных разнагалосьсяў, а не рэальнаю працаю. Водгукі старых спрэчак адчуваюцца ў беларускіх асяродках Аўстраліі й сёньня, калі, здаецца, дзяліць няма чаго. У выніку, стаіць зачыненая прыгожая новазбудаваная беларуская царква ў Адэляйдзе...

Зацятасьць адштурхоўвала людзей і раней, працягваецца тое і зараз. Беларускія эмігранты 90-х вельмі рэдка далучаюцца да існуючых асяродкаў, таму й стаіць так востра праблема пераемнасьці пакаленьняў, часткова пераадоленая хіба што у той-жа Адэляйдзе дзякуючы актыўным новым аўстралійскім беларусам: сем'ям Кавалеўскіх, Жарковых, Камінскіх. У іншых-жа гарадох, відавочна, з адыходам апошніх старых беларусаў заціхне й беларускае жыцьцё.

**Беларуская памяць**

Нельга казаць, што беларусы могуць зьнікнуць з аўстралійскага жыцьця бязь сьледу. Не. Застануцца беларускія могілкі Мэльбурну, дзе стаіць беларускі крыж і пахаваныя Алесь Салавей, Аляксандар Калодка, Сьцяпан Шнэк... Застануцца пабудаваныя беларусамі цэрквы. Застануцца ва ўнівэрсытэцкай бібліятэцы Сыднэю перададзеныя доктарам Вольгай Качан творы беларускага мастацтва, а таксама беларускія часапісы. У іміграцыйным музэі Адэляйды застанецца вышыванка Марыі Яновіч, а на адной з вуліцаў гораду будуць зелянець дрэвы, пасаджаныя беларускаю грамадою зь ініцыятывы Янкі Ролсана. Усё гэта застанецца там у Аўстраліі як напамін пра беларусаў. Але хто ўзгадае пра аўстралійскіх беларусаў на радзіме? Нашы спартоўцы, што мелі цёплы прыём у беларусаў Сыднэю падчас розных спаборніцтваў; чарнобыльскія дзеці, якія гасьцявалі ў беларускіх сем'ях у Аўстраліі... Але наколькі трывалая чалавечая памяць?

Я ехала ў Аўстралію, каб запісваць успаміны беларускіх жанчынаў, якія былі для мяне толькі адnымі зь безьлічы суайчыньніц, раскіданых па сьвеце. Аднак ужо ў працэсе збору матар'ялаў я зразумела, што гэтыя людзі вартыя асобнага дасьледаваньня. Іх лёсы - паказальнікі трывалласьці беларускіх жанчынаў, якія засталіся сабою насуперак усім жыцьцёвым абставінам. Неабходна, каб засталася памяць і пра актыўную удзельніцу беларускага жыцьця ў Мэльбурне Веру Шайпак, вучаніцу ў дэкламацыі Алеся Салаўя, і пра ахвярную працаўніцу на ніве беларушчыны ў Адэляйдзе, нязломную матушку Вольгу Бурнос, і пра нястомных Марыю Супрунчык і Лізу Бакуновіч, што працягваюць падтрымліваць беларушчыну Сыднэю, а таксама пра ўжо памерлых Аўгіньню Каранеўскую, Вольгу Сьлесарэвіч, Надзею Грушу, Надзею Лужынскую і шмат іншых беларусак, якія столькі зрабілі для таго, каб і ў Аўстраліі ведалі, хто такія беларусы.





*На здымках: памятны крыж на беларускіх могілках у Мэльбурне, будынак беларускага дому ў Сыднэі.*

**На заканчэньне**

У Аўстраліі мяне засмуціла тое, што некаторыя жанчыны з нейкіх асабістых прычынаў, а найперш страху, адмовіліся нават сустракацца са мною, а гэта ня можа не паўплываць на паўнату сабранага матар'ялу. Зьдзівіла таксама і тое, што не змагла я пераглядзець беларускую перыёдыку Аўстраліі, бо яе спецыяльна чамусьці ніхто не зьбіраў, а таму ўбачыла я толькі асобныя выданьні, што выпадкова трапілі мне ў рукі. Але, я ведаю, што зрабіла ўсё, што магла, і дасьледаваньне, прысьвечанае беларускім жанчынам Аўстраліі, цяпер цалкам магчымае. Менавіта яно, гэтае дасьледаваньне будзе падзякаю ўсім тым беларусам, якія арганізавалі маю вандроўку і спрыялі працы. А для суайчыньнікаў на Бацькаўшчыне яно стане крыніцаю ведаў і памяці пра аўстралійскіх беларусаў.

***Натальля ГАРДЗІЕНКА***

*P. S. Аўтар артыкулу выказвае шчырую падзяку Старшыні Федэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў у Аўстраліі сп. Аўгену Грушу, айцу Аляксандру і матушцы Тамары Грыцукам, сп. Паўлу Гузу, сям'і Кавалеўскіх, сп. Міхасю Лужынскаму і ўсім беларусам, якія дапамагалі ў ажыцьцяўленьні паездкі й дасьледаваньня.*

# Схаваныя словы



З словам - як з гісторыяй: мы не павінны забывацца на словы, прамоўленыя да нас. Бывае, іх хавае смуга стагодзьдзяў здараецца, злая чалавечая воля нішчыць сказанае, напісанае. Але часьцей нашая лянота ды абыякаваcьць віною таму няведаньню.

Слова на сёньня - зь "Беларускай Газэты", што друкавалася ў Менску ў часы Другой Сусьветнай вайны. Аўтарства - Д. Забранскага (гэта адзін з псэўдонімаў Антона Адамовіча). З часу публікацыі мінула 60 гадоў.

*А.Любіч*

# МЕНСКУ
## (на ўгодкі вялікае пажогі)

Менск, многацерпялівы, многапакутны Менск!

Ці памятаеш ты, ак калісьці, даўно-даўно, на Нямізе тваёй "снапы слалі галовамі"? Ці памятаеш ты злых Яраславічаў, Менск? Ці ўспамінаеш і Ўсяслава свайго, таго Чарадзея, ваўкалака? "Скочы ваўком да Нямігі з Дудутак"..

Забыўся, стары.. Забылася й Няміга твая, забылася, звузела, здрабнела, пад мост загналі.. Не "дабром пасеяныя" берагі, не "касьцьмі сыноў" - брудам і поскудзьдзю зацягнула, заплыло..

Манамаха ці ўспомніш, Менск? Крывавы рогат: ха-ха, "ізьехахом горад і не оставіхом ні чалядзіна ні скаціны", ха-ха-ха.. Тройчы набег Манамахаў ці памятаеш, Менск?

А маскоўскіх татараў, калмыкаў? А Махмэт-Гірэеў ясыр?

І пажары, пажары, пажары..

А Вялікага маленькага Карсыканца, гэтага, на белым кані, - гэтага хіба што мусіш успомніць?

Тож на бруку тваім першы раз спатыкнуўся ваеньніцкі конь.. Памятаеш?

.. 26-ы чэрвень 1812 год..

Сусьвет пад нагамі, а - на бруку тваім першы раз спатыкнуўся ваеньніцкі конь..

Не, лепшне ўспамінай, лепш забудзься на ўсё, стары, родны, любы Менск! Бо не забысца табе на адное ніколі.

Не забысца, як мора агню залівала, плыло і гуло, рагатала старым манамахавым рогатам, трашчэла і пырхала дробным, зларадным сьмяшком.

Не забысца і не даравацъ. Ні таму, ні другому. Ніколі.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Чулі мы ня раз: "Вільня мае сваю душу". Дзе твая душа, Менск? У чым яна? Ці ня ў імі тваім схаваны сьлед душы твае, Менск?

Горад менны, ты заўсёды мяняў, Менск. Куны, лісы, попел, смалу і соль.. Рагваладавічаў на Яраславічаў, Глебавічаў на Манамахавічаў, польскіх ваяводаў на маскоўскіх - гаспадароў, валадароў сваіх ты мяняў, Менск.

Нават імя сваё - хоць траха, а зьмяняў, Менск. Зносіў, як Мінскам дражнілі цябе. І забылася Няміга твая, на Ўсяслававу крыўду забылася, а душою тваёй прагавіта жыла..

Імкненьні, імкненьні -
Аўто - І тое памалу,
Нямізе-ж мала каменьня -
Сьцены патынкавала
І памаленьку, паволі -
На концы.
Імкненьне яе малое -
Даляры, чырвонцы..

Гэтую конку, гэтую Нямігу, пэўна, добра памятаеш, Менск.

Удзень - Нізкі рынак, увечар - брахалка*..
Зьнікла яна, а ўспамінаецца часта:
Як пыл падкалёсны,
У шчыліне кожнай
З усьмешкаю злоснай
Нам зычыць варожасьць:
Вы пашырайце культуру,
Стварайце паэмы, пішэце карціны..
Мы вам з музыкай справім хаўтуры,
Мы вам вянкі ўзложым на дамавіны..
Вы разьбівайце сабе галовы
Ў жалю і крыўдзе за міліёны
"Дурань заўсёды ходзіць голы,
А разумнага ногі кормяць"..

Зьнікла - ці-ж бы? Можа толькі ў новай скуры - і шчэ горш, бо як-бы ў сваёй - мяняе зноў - на Сураскім, Камароўскім, Чэрвенскім.. І - "як пыл падкалёсны":

- Белорусской (!) буржуазіі не дают развіваться..

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Старога дудара свайго ці памятаеш, Менск?

Няма, як Менск наш! - дзетачкі міленькі!
Прыгожы, відны, кругом весяленькі..
А гэтага, замілаванага ў табе трубадура:
Цераз даліны і палі ішоў
Ад бору ў Менск паволі вечар
І калыхаўся за плячыма шоўк,
Лілёвасьцю аздобіў плечы.
Можа гэта ня вечар, а дух іхны - дух узыходу і ўзвышша -
Над менскам лёг на стрэхі камяніц,
Усьпёршы галаву на локаць.
А Менск шуміць, а Менск шуміць,
Пакуль ня прыдзе ноч здалёку..

А памятаеш, Менск, быў ты - Беларускі Дом.

Вежа твая - маяком. Старая вежа з гадзіньнікам.

І натхнёна трубіў трубадур:
Лятуценьні многіх міліёнаў,
І змаганьне ўпартае вякоў -
Менск акрэсьліў і краінай вольнай
Беларусь да росквіту павёў.

Ды ўроджаны твой Максім - хоць калі яшчэ - а напраракаваў:

Мы к сьветлу з табой узьляцелі
І шкло ўкруг напаткалі..
І далей-болей вёў -
.. матыль дрыжыць ад болю,
Прываблены жывым агнём,
Ён рынуўся туды бяз волі
І сьмерць сваю спаткаў у ём..

Колькі такіх матылёў спаліў ты, Менск! А колькі нас апаліла тады сваё крыльле.. Ты і тады, ты і тады мяняў. Мяняў, разьменьваў сьвятое, страшнае:

Б е л а р у с ь.

Адкупіцца хацеў ад іх?

Дык-жа вось і застаўся цяпер пры рэшце.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ты абураны, ты гневаешся на мяне, Менск? Ня гэта твая душа? "Усё цячэ, усё мяняецца" - ты прэтэндуеш на душу самога жыцьця? Можа..

А можа - "дзьве душы"?

Прабач, родны.

- Дзе п'юць, там і льлюць.

І я, і ты.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Рана вуліцамі тваімі на працу іду.

Не, ня вуліцамі - руінамі.

Руіны стаяць. Руіны ляжаць - друзам.

Возяць друзы старыя коні твае - ламавікі. Цячнуць цягніцы, пружацца з апошняй, цягнуць. Менскія ламавікі - худыя, зглададыя вайною коні.

Падыйсьці, упрагчыся, цягнуць разам, бедныя, любыя!

А ці-ж ня так ёсьць?

Так-жа і цягнеш адзін штодня..

.. І некалі так - пайсьці па вуліцах гэтых, расьцягнуцца зьнясіленым ламавіком тваім - Менск, Беларусь!

Так і сканаць. Пад сыкі з "шчыліны кожнай". Пад посьвісты пугі, пад лаянку, гікі.

Шчасьцем такім - родны - не абмінеш?

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Расставаліся калісьці, думалася - навек.
І нечакана - спатканьне..
Дык ці-ж можна цяпер ня ймець веры?
Веру! Верым. У цябе, Менск.
І Ён калісьці з горычай, а верыў:
Менск, Менск! Твае заводы -
Больш да карыкатураў падобны.
Але ты расьцьвіцеш,
Ты станеш запраўдным горадам.
Менск, Менск!
Тады будуць заводы другія,
Не для сэльтэрскай вады ці піва.
Мы можа раней загінем,
Але будзем імкнуцца да мэты
Напорна, цярпліва.

* *брахалка - так у Менску здаўна называюць бульварчык насупраць цяперашняга Генэральнага Камісарыяту.*

***На здымках: Антон Адамовіч у розныя гады.***





**Да чытачоў і ахвярадаўцаў**

Беларускі чытач павінен мець кніжку на роднай мове, якую будзе чытаць, вобразна кажучы, і сьлесар, і кесар. Нажаль, імкненьне даць чытачу гэтакі твор вельмі слабое ў коле прафэсыйных літаратараў. Модна лічыць, быццам беларуская літаратура загнаная ў кут, і ёй засталася адно роля элітарнага чытва для звышадукаваных снобаў (якія для адпачынку і баўленьня часу ўсё адно бяруць у рукі расейскамоўны баявік, дэтэктыў, гістарычны раман, прыгодніцкую аповесьць, кідаючы гэтым яшчэ адную грудку на магілу роднага пісьменства). Мы ня можам пагадзіцца з гэткім меркаваньнем і з гэткім станам рэчаў.

Прадстаўляючы аповесьць невядомага пакуль чытачам Аркадзя Ліцьвіна маем спадзяваньне парушыць традыцыю грэбаваньня "лёгкімі" жанрамі й пакласьці новую - ісьці насустрач густам чытача, які штодня па ўсім сьвеце з захапленнем чытае кнігі, поўныя прыгодаў, інтрыгаў, таямніцаў.

"Галс" мае свае перавагі перад гісторыямі пра францускіх мушкецёраў або амэрыканскіх індзейцаў. Тут чытач знойдзе ня толькі прыгоды - ён пабачыць Беларусь, цудоўную краіну сваіх прадзедаў, палітычныя закалоты васемнаццатага стагодзьдзя і, магчыма, па-іншаму гляне на зямлю дзе жыве, на свой народ і сваю краіну.

Але каб твор сустрэўся з чытачамі, ён павінен увасобіцца ў кнігу. Вы, шаноўныя чытачы "Беларуса", можаце паспрыяць гэтаму, ахвяраваўшы грошы на друк гэтай кнігі. Кожны ахвярадаўца, што ахвяруе $20 і больш атрымае асобнік з аўтографам аўтара.

Чэкі, калі ласка, выпісвайце на імя ***Roman Kordonsky*** і дасылайце на наступны адрас: ***Roman Kordonsky 79 Sylvester Ave. Winchester, MA 01890***. Тэлефон для кантактаў: ***781-369-1410***. Адрас электроннай пошты: ***kordonsky@attbi.com*** .

Прапануем Вашай увазе невялікі ўрывак з аповесьці, у якім атрад канфэдэратаў ратуецца ад войскаў князя Міхала Радзівіла, ратуючы, між іншым, самога князя ад замаху.

***Даніла Жукоўскі , Раман Кардонскі***

***Аповесьць з 1734 году (урывак)***
***Гародня 2003***

**Аркадзь ЛІЦЬВІН**

# ГАЛС
## альбо незвычайныя прыгоды ў краіне замкаў

Невялікі атрад каманданта Алеся блукаў па лясных дарогах, шукаючы ратунку. На пачатку ліпеня ў складзе трох тысяч скафэдэраванай шляхты выправіліся на дапамогу аблажанаму расейцамі Гданьску, дзе знайшоў прытулак і абарону кароль Станіслаў. Ужо ў дарозе засьпела іх вестка пра капітуляцыю гораду. Дзівіцца альбо наракаць ня было падстаў. Горад пратрымаўся чатыры месяцы перад шматкроць большымі, чым ягонае, войскамі пад абстрэлам цяжкой артылерыі, давезенай з Расеі менавіта з-за адсутнасьці посьпеху ў штурме. Каб ня быць прычынай большых няшчасьцяў, кароль пакінуў горад і схаваўся ў Прусіі.

Ліцьвінскія канфэдэраты складаць зброю ня зьбіраліся. Раман выбраў шлях, здавалася-б, адпаведны, але неўзабаве ар'ергард заўважыў пагоню. Гэта былі аддзелы войскаў канюшага літоўскага князя Міхала Радзівіла і расейскага палкоўніка Лунёва. Перасьледнікі настойліва адціскалі канфэдэратаў ад пушчы да Нёману.

Можа і пашэнціла-б згубіцца на незьлічоных лясных дарогах, сьцежках і дуктах, калі-б не варожы праваднік. Той сабачым пачуцьцём пазнаваў, куды яны павернуць, дзе зладзяць нанач свой няўтульны бівак, да якога двара памкнуцца за ежай ці фуражом. Прыдадзеныя "польскому православному" казакі слухаліся яго амаль як камандзіра, хоць сталася так не адразу.

Спачатку на праваднікa глядзелі з падазрэньнем і не заўсёды лічыліся зь ягонымі парадамі, спадзяючыся на сваё маладзецтва. Пералом у думках замацаваўся пасьля таго, як насуперак яго меркаваньню, сунуліся, куды ня раіў, і прывезьлі палову свайго разьезду ўпоперак сёдлаў.

Нявядома было, што рухае гэтым чалавекам. Азарт паляўнічага, нянавісьць да свавольнай шляхты, што ў сьвітцы ды апорках, а бяз хвігі ні да носу? Можа сьмяртэльная абраза альбо крыўда? Ці тое, што да размовы зь ім паніжаліся сам яснавяльможны і маскаль-палкоўнік? Нельга было здагадацца пра што ён думае, калі, сьціскаючы шапку й пазіраючы ўбок, нетаропка адказваў на пытаньні афіцэраў, альбо выказваў свае заўжды дарэчныя парады. Вось і зараз ён прыглядаўся, як афіцэры князя і палкоўніка Лунёва, тыцкаючы пальцамі ў самаробную мапу, намаляваную зь ягоных словаў, зацята спрачаюцца, што рабіць далей.

Дазоры нідзе не натыкнуліся на канфэдэратаў. Па ўсім выглядала, што яны нарэшце трапілі ў мех. Дно й бакі мяха - нёманскае русла. Гарлавіну - некалькі вёрстаў зарасьнікаў, старыкоў і балотцаў надзейна перакрылі жаўнеры князя і хаўрусьнікі (калі не гаспадары) - салдаты й казакі генэрала Ізмайлава, галоўнага над маскоўскімі войскамі ў Княстве.

Але афіцэрам цяжка было дайсьці да паразуменьня. Калі ў галовах расейцаў падрабязнасьці апэрацыі па зьнішчэньню "шайки злоумышленников" укладаліся даволі ясна, то сам князь, не кажучы пра ягоных афіцэраў, не адчуваў вялікай прагі змаганьня на сьмерць.

Ці-ж можа маскаль зразумець, што такое канфэдэрацыя! Ці-ж нехта можа прысягнуць, што не давядзецца самому апынуцца ў якой-небудзь? Канфэдэрацыя - выказ вольнасьці выбару тых, хто да яе далучаецца. Вядома, ў барацьбе за яе мэты можа дайсьці да вялікай зацятасьці, як некалі пад Монтвамі альбо Алькенікамі, дзе паляглі тысячы, але-ж звычайна лютасьці не бывае, бо па абодва бакі свае людзі, паныбраты, а то і сваякі. Разагнаць слабейшых па засьценках ды дварах і квіта! Ну, можа прыхапіць з тых двароў што-кольвечы.

Камэндант канфэдэратаў таксама не кваліўся да бітвы. З такой перавагай рэгулярнага войска не пазьбегнуць поўнага разгрому. Таму, большую частку атраду скіраваў самым берагам ракі, дзе няпрыкметнымі грэблямі цераз балота яшчэ можна было высьлізнуць з пасткі, пакуль нехта адцягне ўвагу непрыяцеля. Камандзір зь невялічкай купкай таварышаў манэўраваў на той прасторы, што яму засталася, удаючы пошук слабога месца ў ланцугу аблогі, каб праравацца. Залежала на тым, каб перасьледнікі лічылі, што перад імі ўвесь атрад, ды марнавалі час на падрыхтоўку бітвы. Для сваёй купы спадзяваўся якой-небудзь памылкі ворага ды кавалка шчасьця, на які лічыць кожны, хто ідзе на вайну. Заўсёды застанецца шанец пераплысьці Нёман з коньмі, хоць рака тут шырокая, а брады, як на гора, вышэй і ніжэй месца, дзе давядзецца мець апошні рубеж абароны.

Гэтыя не надта вясёлыя думкі Рамана перапыніў выведнік:

- Пане каманданьце, там на рацэ плыты, ладная гонка!

- Што ты кажаш! Ля нашага берагу?

- Проста пад абрывам, за намі. Відаць, толькі зачаліліся.

Раман скочыў на ногі, азіраючыся за сваімі хлопцамі.

- Янак, - гукнуў, - бяры чатырох бліжэйшых і захапі плыты. Не дай, каб уцяклі! Гэта наш ратунак.

- Зараз зробім!

У голасе Янака прагучала ўжо знаёмая Раману вера ў камандзірава шчасьце, што цьвёрда замацавалася ў атрадзе амаль ад першага дня.

Зарослымі яркамі канфэдэраты сыйшлі да самай вады й падбегам апынуліся ля плытоў, перш чым плытагоны ўцямілі, што сьвецяць.

- Дзядзькі, ані руху! - закамандаваў Янак. - Плыты нашы!

- Як гэта - вашы? - не зразумеў адзін, відаць старэйшы над плытнікамі. - Плыты панскія, бо зь яго лесу. Але-ж вашмосьць не наш пан!

Янак бестурботна засьмяяўся:

- Гэта праўда, пане рэтман, хоць-бы таму, што не маю гэтулькі лесу. Таму плыты толькі пазычым. Пакатацца!

Ён паставіў сваіх па канцах зьвязкі й штурхнуў аднаго да камэнданта. Стары плытагон, задаволены тытулам "пана рэтмана" быў нясхільны да жартаў ды яшчэ з боку маладзёна.

- Як гэта пазычым! Плыты-ж грошы каштуюць!

- Пазычым разам з плытагонамі, - зарагатаў хлопец, цешачыся зь непаразуменьня. - Зараз нашы кампліёны пад'едуць, заладуемся і паплывем разам, пакуль не надакучыць. Дык не марнуйце часу, рыхтуйцеся.

- То іншая справа, - нешта зразумеўшы, адзначыў рэтман. - У кого зброя, той і загадвае. Абы рабунку ня было.

Ён кінуўся падганяць сваіх плытагонаў, бо канфэдэраты ўжо сыходзілі даволі зручным, хоць і крутым, ярам, што наўскос уразаўся ў круты бераг, сыходзячы да вузкага жвірыстага прыплёску. На абрыве застаўся камандант з трыма таварышамі. Хлопцы пачалі асьцярожна ўзводзіць коней на плыты, мосьцячы пад ногі гальлё, дробнае ламачча, каб, барані Бог, капыты не сасьлізнулі між бярвеньняў. Коні трывожна паводзілі вачыма, ступалі па хісткаму насьцілу як адранцьвелымі нагамі, нібы разумелі, што зламаная нага азначае сьмерць. Але абыйшлося.

Чацьвёра на абрыве крыліся за вялізнымі камянямі, якіх там хапала. Пільна выглядалі: ці не пакажацца не ў часе варожы разьезд, альбо што значнейшае.

- Сьцеражыцеся, хлопцы! - папярэджваў камандант. - Нам параненыя зараз вельмі недарэчы.

Вершнікі паказаліся ў зарасьніках, калі апошні конь ступаў на плыт. Раман знакам насьцярожыў засаду і пачакаў, каб не спудзіць каня ў цяжкую для таго хвіліну. Яшчэ раз азірнуўся і крыкнуў:

- Агонь!!!

Чатыры мушкеты плюнулі агнём і дымам. Дазор ірвануў пад аслону лістоты. Атрымаў каторы ці не, невядома, ды й неістотна.

- Уніз, хлопцы! Зараз уся зграя тут будзе.

Кулём скаціліся на бераг і ў момант былі на плыце. Канфэдэраты, не занятыя пры конях, разабраўшы шасты, стаялі ўздоўж плытоў, гатовыя адпіхнуць увесь воз ад берагу. Цяжкія шрыгі - завостраныя бярвеньні, што, утыркаючыся ў дно, трымаюць доўгі ланцуг павязаных між сабою плытоў-лавак, былі ўжо выцягнуты. Ля вялізных вёслаў сьпераду і на канцавым плыце стаялі стырнавыя. Гонка трымалася толькі барбаркай, тоўстым канатам, за дрэўцы на беразе.

- Аддай! - прагучала з гонкі і двое хлапцоў на беразе спрытна выбілі калкі зь петляў барбаркі. Падхапіўшы канат, скочылі на плыты. Усе налеглі на шасты, і гонка пачала адсоўвацца ад берагу. Варухнулася магутная апачына, стырнавое вясло на пярэдняй лаве, і паласа вады між берагам і плытамі пашырэла. Плынь падхапіла гонку і пакуль яшчэ павольна панесла ўніз.

- Рушылі, - з палёгкай выдыхнуў камандзір і ўсьміхнуўся рэтману.

Павярнуўся да абрыва, ці не паказаліся перасьледнікі. Даў бы Бог далей ад берагу ды шпарчэй уніз па плыні. Вада паглыбела і шасты ўжо не дапамагалі, уся надзея на раку.

- А ці нельга далей на сярэдзіну? - запытаўся ў рэтмана камандзір.

- Нельга, пане. Я разумею ваш клопат. Нам таксама кулі - не жалуды. Але так, як ідзем - найлепей. Калі да таго берага падаца, якраз на рапу вынесе. А тады нас, як качак, можна перастраляць.

Усе, і канфэдэраты, і плытагоны, хіба апроч засяроджаных важнай працай стырнавых, неадрыўна ўгледаліся ў пакінуты бераг. Пагоня выскачыла ня там, дзе спадзяваліся. Магчыма ніжэй па плыні знайшоўся лепшы даезд. Пакуль зьявіліся толькі афіцэры. Двое стаялі крыху зводдаль. Усе махалі рукамі, паказвалі адзін аднаму на раку, гарцавалі па беразе. Ніжэйшы з двух, напэўна галоўных, нешта крыкнуў да афіцэраў. Адзін з іх крутануў каня і пагнаў галопам.

- Паслаў падагнаць жаўнераў, - сказаў Янак. - Чакаць будуць.

Ён паказаў на голы кавалак берагу, адкуль плыты будуць дасягальныя для мушкетнага стрэлу. Туды ўжо паскакалі афіцэры, а за імі двое старэйшых.

- Але-ж калі яны нас, то і мы іх дастанем! - крыкнуў нехта з канфэдэратаў, уладкоўваючы мушкет на сядле. Іншыя пайшлі за яго прыкладам.

- Паскубем трохі тых паўлінаў!

Плыт набліжаўся да небясьпечнай рысы павольна але няўхільна. Стары рэтман трымаўся на дзіва спакойна, хоць выдатна разумеў, да чаго рыхтуюцца людзі на беразе. Відаць, звычка да небясьпекі на рацэ выпрацавала ў простага селяніна ці не галоўную рысу верхавода: здольнасьць крыцца з уласнымі тры-

***Заканчэньне на бач. 13***

*Заканчэньне з бач. 12*

вогамі. Ён чамусьці ўглядаўся ня столькі ў тых на беразе, колькі ў раку наперадзе. Нешта выраўшыўшы ці згледзеўшы, павярнуўся да Рамана, ведаў ужо, хто галава ў гэтых адчайных панічоў.

- Ня трывожцеся, пане, пашыюцца яны ў дурні, - стары кіўнуў галавою на бераг. - Не пойдзем мы стрыжнем, як ім здаецца.

Раман зірнуў наперад, але нічога там не ўбачыў.

- Не разумею, - прызнаўся ён.

- Вось і яны не разумеюць, - задаволена рагатнуў рэтман.

Клікнуў аднаго са сваіх і нешта прыцішана патлумачыў. Плытагон, спрытна прабягаючы паклёсамі, доўгімі бярвеннямі, што злучаюць між сабою плыты ў гонку, засьпяшаўся да канцавой лавы. Рэтман кінуў нейкія каманды пярэднім і толькі тады палічыў патрэбным даць тлумачэньні.

- Там далей выспа і пратока. Хто ня ведае, то адсюль і не заўважыць. Па такой вадзе, то там прайсьці цяжкавата, але як мусіш... - стары памаўчаў і загадаў Раману: - Скажыце, пане, хлопцам пакласьці стрэльбы ды ўзяцца за шасты.

Раман не марудзіў ані хвілі. Другі раз на дзень Бог пасылае шанец. Хоць і зьдзіўленыя, але хлопцы падпарадкаваліся: рамanava школа вайсковых парадкаў давала плён.

Раптам рэтман гучна пракрычэў:

- Увага пры шастах! Дапамагайце плыту, каб ня лёг на водмель.

Раман не чакаў ад старога такога голасу. Плыт якраз набліжаўся да берага, дзе чакаў непрыяцель. Драгуны расейскай царыцы ўжо рассыпаліся ўздоўж берагу гатовыя да паляваньня. Яшчэ колькі хвілінаў і гонка расьцягнецца пад прыцэлам іх мушкетаў. А пакуль што плыты ішлі па стрыжню пад ярыстым берагам, на шчасьце нязручным для засады. Раман разумеў, што рэтману замінаць не павінен, і сачыў за тымі на беразе. Што атрад не ўсьцераглі, ім ўжо ясна. Ня выключана, разаслалі людзей на пошукі, таму і драгунаў малавата і радзівілавых ня бачна. Хоць на нашай жменьцы папомсьціцца і то радасьць!

- А хто-ж гэта там? - зьдзіўлена прамовіў Раман.

- Дзе? - адгукнуўся Янак.

Раман выдзеліў з двух начальнікаў нечым знаёмую постаць. Пазнаў. Сам яснавяльможны! Гонар - мець такога супарата!

Але маючы на думцы тытул, а не ваярскія здольнасьці. Іншыя былі ў Міхала Радзівіла схільнасьці: ласкі каралёў, бляск Нясьвіжа, веліч роду, сямейныя клопаты. Змушаны палітычнымі меркаваньнямі клану Радзівілаў, цесна пераплеценымі з маёмаснымі справамі, ганяўся пры шаблі за канфэдэратамі па ўсяму Княству ўжо каторы месяц. А тыя, ня маючы сілы на адкрытую бітву, рассыпаліся, як гарох, па лясох ды пушчах і не даюць спакою. Хоць-бы, ліха на іх, каралі неяк дамовіліся. Радзівілы паладзяць з кожным, як і каралі з Радзівіламі. Бо няма магчымасьці згрэбсьці той гарох у нейкія жорны ды перамалоць, каб мець нарэшце спакой. Вось і гэты клапатлівы атрадзік ужо, здавалася, у невадзе, а высьлізнуў, нібы ўюн, і дзе яго шукаць? Шэльмакамэндант, які хутчэй за ўсё на плытах, зноў іх зьбярэ і пачне джаліць, як той сьляпень.

Наяўнасьць маскоўскіх хаўрусьнікаў давала ўпэўненасьць на выпадак бою, але не прыспарала прыхільнасьці шляхты й не забясьпечвала посьпеху ў перасьледах. Салдафонская самаўпэўненасьць, што саступала хіба толькі прускай, рабіла маскоўцаў непрыемным і клапатлівым дадаткам амаль у кожным двары й вёсцы. Выбрыкі жаўнераў Пятра Першага, малахольнага цара, яшчэ моцна сядзелі ў памяці.

Хапае, вядома, і такіх, што кідаюцца ў абдымкі, спадзяючыся нешта мець за сваё халуйства. Князь ставіў сябе па-над гэтай хеўрай, бо лічыў наяўныя і чаканыя прывілеі неад'емнаю часткаю побыту Радзівілаў. Лісьлівасьць князёў ня больш як даніна этыкету, і то да асоб каранаваных.

Ліха на яе, гэту падвойную элекцыю, але-ж і выйсьця не было! Сядзеў-бы зараз у Нясьвіжы, да Міра паехаў, альбо ў Альбу. Сям'я ўвагі патрабуе! Далёкі думкамі ад вайсковай будзёнасьці князь ня чуў, што яму бубніў палкоўнік. З-за ўпартасьці гэтага гусака страцілі некалькі гадзін, чым канфэдэраты й пакарысталіся. А можа яно і да лепшага, аніводнага забітага ці параненага. Раптам у вушы князю Міхалу ўдарыў гучны воклік: "ГАЛС!"

Перш чым з кустоўя ляснуў адзінокі стрэл, князь пляснуўся на грыву свайго каня, абхапіўшы яго шыю рукамі. Палкоўнік Лунёў ускрыкнуў і схапіўся за плячук. Стрэл узбаламуціў ад'ютантаў. Афіцэры сыпанулі з пісталетаў па кустах, над якімі яшчэ віўся дымок. Кінуліся зь сёдлаў, але непалазныя зарасьнікі шышпылі і звалы каменьня стлумілі іх імпэт. Пакуль пралезьлі, замаховец зьнік і сьледу не пакінуў. Не знайшлі нічога апроч патаптанай травы ды папяровага пыжа. Толькі тут успомнілі пра плыты.

Раман таксама схамянуўся. Ну, крыкнуў таму Радзівілу, сам ня ведаючы чаму, але ёсьць і важнейшае. Гонкі якраз адыходзілі на сярэдзіну ракі й звычайным шляхам павінны былі прайсьці проста пад драгунскія стрэлы. Між іх ужо пачаўся рух: выбіралі зручнейшую паставу, улаштоўвалі мушкеты на фаркетах, падпорках з рагулькамі, альбо прымяраліся да якога каменя. Але здарылася нечаканае. Заварушыліся стырнавыя, забегалі хлопцы з шастамі, нешта пакрыкваў стары, хутка пераходзячы ад краю да краю плыта. Увесь вялізны воз бярвеньня пачаў збочваць з ранейшага напрамку й нібы ўцягвацца ў супрацьлеглы бераг. Так, прынамсі, здавалася драгунам, але й Раман са зьдзіўленьнем разглядаў няшырокую пратоку, што ўбірала ў сябе плыт за плытам, хаваючы іх за густым дробналесьсем і кустамі, дзякуючы якім і была зусім незаўважнай. Усьлед прагучалі запозьненыя й дарэмныя стрэлы.

* * *

Калі князь дзівіўся, чаму яго ўратавалі, то й сам ратавальнік гэтага не разумеў. Раман стаяў на апошняй гонцы й глядзеў назад. Чаму ён крыкнуў? Ня мог спакойна назіраць скрытнага забойства, як ні кажы, знаёмага чалавека. Замаховец мерыўся ў Радзівіла, бо палкоўнік быў за ім.

- Увага, хлопцы! Прывальваем! - гукнуў на сваіх рэтман.

Канфэдэраты прывычна схапіліся за шасты, не чакаючы асобнай каманды. Плытагоны моцнымі рухамі стырнавых вёслаў зганялі воз да берагу.

- Міхась, дзыгай на барбарку!

Рухавы хлапец скочыў на бераг, цягнучы тоўстую вужаку барбаркі. Другі сьпяшаўся ўсьлед з дубовым гартолем, моцным вострым калом. Нацягнулася прыбітая да зямлі барбарка, вастрыё гартоля, трыманага дужымі рукамі хлапцоў, арала мяккі дзірван, але гонка запавольвала рух і прылягала да берагу.

- Кідай шрыгі!

Плюхнулі вастрыём у ваду цяжкія бярвеньні. Спачатку канцавое, за ім пярэдняе, заглыбіліся ў пясчыстае дно. Некалькі хвілін хапіла, каб плыт прылёг да берагу, нібы тут і стаяў. Раман з захапленьнем назіраў за спраўнай працай сплыўшчыкаў.

- Ну, пане камандансе, вось і даехалі. Хтосьці з вашых хацеў пакатацца, то ці задаволены? - засьмяяўся рэтман.

- Задаволены, дзядзька, - адгукнуўся Янак, - тым больш, што без страляніны.

Канфэдэраты пачалі выводзіць коней з плытоў. Раман звярнуўся да плытагонаў:

- Дзякуй вам, людзі, выратавалі нас! Калі што, кажыце, што прымусілі. Мы лепш хочам для ўсіх, для вас таксама.

- Не нашага розуму справа, пане. Бог усё рассудзіць, - адказаў рэтман. - Абыйдзі вас бяда. Дрэнна, калі чужынцы па нашых людзях на нашай рацэ страляюць.

- Вось вам да нашай падзякі, - Раман усыпаў старому ў руку жменьку манет.

- Тут з паўсотні асмакаў на пачастунак. Бывайце!

- Дзякуем, пане, - паважна пакланіўся рэтман.

Плытагоны неадкладна заняліся сваім знарадзьдзем. Раманавы хлопцы зь берагу дапамаглі шастамі, затым шпурнулі іх на плыты й пайшлі да коней. Скочылі ў сёдлы, памахалі ўсьлед возу шапкамі й рушылі ў прыбярэжны лес. Вось ўсё яшчэ хавала іх ад вока непрыяцеля.

Калі спадае напружаньне, людзі робяцца гаваркімі. Вось і зараз разгарэліся спрэчкі.

- А шкода, што князь прыгнуўся. Хай-бы і ссадзіў яго той стралец!

- Але няблага, што і маскаль атрымаў!

- Разумна баеш, - важна азваўся Янак. - З князя жаўнер марны й рэгімэнтар нікчэмны. Хай лепш ён за намі ганяецца, чым хто здальнейшы.

Ня мог Янак ведаць, што напрыканцы наступнага года зьдзейсьніцца мара князя, і ён стане польным гетманам літоўскім. Не таму, што перамога канфэдэратаў, бо гэта зробіць хто іншы праз год, і не ў Вялікім Княстве, дзе канфэдэраты суцішацца толькі пасьля Пацыфікацыйнага Сойму і амністыі ў 1736 годзе. Міласьцівы Кароль ведаў, што Міхал Радзівіл не Януш і не Багуслаў, але памятаў як грудзьмі стаў за яго абраньне. Стаў, бо баяўся рабунку сваіх маёнткаў расейскімі хаўрусьнікамі саксонскага прэтэндэнта. Трэба сказаць, што пашэньціла ня толькі князю з пасадай, але й войску, бо не дасьведчыла на сабе яго сьціплых ваяцкіх здольнасьцяў. Але менавіта ён упершыню распрацаваў і ўвёў у войску Вялікага Княства мундзіры.

Не сьпяшаючыся, ехалі рамановы хлопцы па вузкай лясной дарозе, пакрысе даходзячы да ладу-спакою.

- А што гэта вы крыкнулі такое, пане камандансе, што той наверсе да каня прыпаў? - ня вытрымаў нехта з маладых але спасьцярожлівых.

- Скеміў, бачу, - ухвальна сказаў Раман. - Каманду такую крыкнуў, якой мы некалі разам вучыліся.

- Дык гэта ён па каманьдзе нашага камэнданта такі артыкул выкінуў! - разрагаталася грамада. - Мусіў, каб кулю не атрымаць! Няўжо гэта сам князь?

- То вы з Радзівіламі знаецеся? - не паверыў пачутаму Янак.

- Толькі з адным, - засьмяяўся Раман. - Менавіта з гэтым, але даўно і далёка, а вось сёньня лёс зьвёў.

Выбіліся на лепшую дарогу. Раман прыпыніў каня.

- Вядзі, Янак, хлопцаў і чакай там астатніх. Адпачніце ня менш як дні тры. Вярнуся, раскажу пра князя.

# КНІГА, ЯКУЮ ЧАКАЮЦЬ

Добрая літаратура як наркотык. Замяняе сяброў і дае вялікаю асалоду. Дазваляе забыцца пра праблемы гэтага складанага сьвету, пра адсутнасьць грошай і каханага чалавека побач. Час ад часу ёсьць патрэба, як ў дзяцінстве, забіцца з кніжкаю ў куток і чытаць, з галавою акунуўшыся ў атмасфэру прыгодаў і інтрыгаў нашай сівой даўніны.

На працягу апошніх пятнаццаці-дваццаці гадоў нас напаткала багата стратаў сярод пісьменьнікаў і гісторыкаў, кожная зь якіх рабіла беларусаў яшчэ больш далёкімі й непазнавальнымі для сьвету.

Не хачу быць занадта пессімістычным, але сытуацыя за мінулыя дзесяць гадоў на беларускім літаратурным рынку амаль не зьмянілася. Не дапамаглі ні надзвычай жорсткая крытыка, ні выданьне новых літаратурных часапісаў. Зьяўленьне вартых чытаньня твораў, не кажу ўжо пра тыя, якія вытрымаюць выпрабаваньне часам, па-ранейшаму выняткак, а не правіла. Шчыра сказаць, яно і павінна так быць, але са скрухаю мушу зазначыць, наколькі іх ў нас мала. Творы прыгодніцкага жанру, якія зьявіліся апошнім часам, і якія, думаю, будуць чытаць і ў XXII-м стагодзьдзі, можна пералічыць на пальцах аднае рукі. Толькі тры рэчы здаліся мне вартымі чытаньня, аповесьць В. Адамчыка "Падарожжа на Буцафале", п'еса А. Петрашкевіча "Крыж Еўфрасіньні" і расейскамоўны раман У. Бутрамеева "Карона Вялікага Княства". Першая кніжка Аркадзя Шайбака (Ліцьвіна) "Галс" з гэтага шэрагу. Большасьць-жа новых кніжак напісаныя на ўзроўні, што па рынкавых законах не павінны былі зьявіцца ўвогуле.

Зьяўленьне новага імя ня можа ня радаваць. Шчыра вітаю Аркадзя Шайбака, які ўжо першым сваім раманам, дасягнуў значнай вышыні. І самае галоўнае "Галс", ні чым ня горш, чым Бутрамеева "Карона". Але плюс вялікі за тое, што напісаны сакавітаю беларускаю моваю. Дыялёгі цудоўныя. Гэтым прыёмам аўтар валодае на выдатна. Яшчэ адзін плюс за старыя беларускія напаўзабытыя словы, якія аўтар вяртае ва ўжытак.

Таксама вялікі плюс, што раман шматплянавы, ёсьць некалькі сюжэтных лініяў. У гэтым сэнсе ў нас было вельмі забеднена зь сюжэтамі, апроч, зразумела, Караткевіча. Паспаліты чытач даўно сумуе ў чаканьні прыгодаў, сапраўдных герояў, якімі можна ганарыцца, якіх можна браць за прыклад, на якіх ня сорамна глядзець на экране. У гэтым сэнсе чытач рэцэнзуемай кніжкі павінен быць задаволены. Найбольш захапляльна чытаюцца сцэны з пагоняю на плытах, бойка на пачатку рамана ў лесе, уцёкі Галса са школы мушкецёраў, *пагоня жытнёвым полем*. Усё гэта цудоўна. Але чытач дасьведчаны й адукаваны патрабуе вытанчаннасьці й дасканаласьці ад любога аўтара.

Таму пытаньне: дзе каханьне, дзе пачуцьці? Слабаватай выглядае гэтая лінія, пачынаючы са сцэны сустрэчы паміж Галсам і Агатаю. Яна павінна быць значна шчырэйшаю і праўдзівейшаю.

Не надта добра чытаецца, бо ламае рытм апавяданьня і ня мае інтрыгі, аповед пра ўдзел францускай эскадры ў абароне Гданьску. У гэтым выпадку словамі Данілы Жукоўскага можна сказаць: "Гістарычна-тлумачальных адступленьняў - дзе зашмат, а дзе - замала. Трэба багата прыкласьці намаганьняў, каб спрасьціць гэтыя адступленьні, якія часам нагадваюць дрэнны пераклад з польскае".

Досыць камічным, нават дуркаватым, выглядае расейскі палкоўнік Лунёў, тут адразу заўвага на адрас аўтара - мова расейскага афіцэра сярэдзіны XVIII-га стагодзьдзя была іншаю, ня мовай дасьведчаных дваранаў з звычайна францускай адукацыяй пачатку - сярэдзіны XIX стагодзьдзяў. Гэта заўвага аднолькава тычыцца ўсіх расейскамоўных дыялёгаў.

Наогул-жа раман чытаецца на адным дыханьні. Для прыгодніцкага твору гэта вельмі важна. Па-добраму насьмяшыў аўтар ў сцэнах з пераапрананьнямі - раман набывае добры гумарыстычны запал.

Раман пра Галса распачынае новую бачыну ў беларускай забаўляльнай літаратуры. Гэта сур'ёзьнейшы крок наперад, перамога над сваімі комплексамі, падручнік для выхаваньня сьведамых грамадзянаў незалежнай краіны, прыклад павагі да ўласнай гісторыі й павагі да сваіх продкаў.

Аркадзю Шайбаку ёсьць чым ганарыцца. Мне застаецца толькі пажадаць яму ўсяго найлепшага, найперш посьпеха ў справе прасоўваньня рамана на літаратурны рынак Беларусі. Я разумею таксама, што гэта толькі пачатак, павінна быць і другая кніжка, і трэцяя. Інакш нельга. Інакш навошта ўсе гэтыя інтрыгі?

*Раман чытаў*
***Лявон ДРОЗД-БЫКОЎСКІ***

# ПАЭТЫЧНЫЯ СПРОБЫ НАШЫХ ЧЫТАЧОЎ

### *Пётра ГРЫГАЛЬЧЫК*

Вам - хто надзею ў сэрцы пранёс
Праз гады і выпрабаваньні.
Вам - каго па сьвету раскідаў лёс,
Жыць прымусіўшы ў выгнаньні.

Вам - хто ад сябе не адцураўся,
Беларусам застаўся заўжды.
Вам - хто за волю ўсьцяж змагаўся,
Каб не было ў родным краі нягоды, бяды.

Вам ад шчырага сэрца жадаю
Больш ад Бога моцы духоўнай.
Вас у малітвах сваіх успамінаю,
Каб верылі - быць Беларусі вольнай!

*Джэксанвіль, Флёрыда*

### *Віктар ГУРСКІ*

Маці мая, Беларусь!
Я страціў цябе год дваццаць таму.
Колькі раз ты сьнілася мне,
Твае мяккія травы і лес.
Не хацеў уставаць
З той зялёнай травы
І прачнуўшыся чуў асалоду.
І бывае так горка,
Што я зноў не з табой,
І ня маю магчымасьці бачыць бацькоў,
Як калісьці прыехаўшы ўранку.

* * *

Я кахаю цябе, Беларусь!
Ты сташ у вачох днём і ноччу.
І нічога няма прыгажэй за цябе,
Нёман, прасторы, вазёры, лясы.
Як прыйсьці да цябе?
Як пабачыць твае васількі,
Што цьвітуць так прыгожа ў полі?
Як прайсьці па сьцяжынцы,
Што цягнецца ў лесе?
І пачуць цішыню,
Што так лёгка напоўніць мне душу.
І ляжаць, і маўчаць.
Адпачыць.

* * *

Што зрабілася са мною?
Стаў цяпер такі багаты.
Я знайшоў, што даўно ўжо страціў.
Той можа мець такое адчуваньне,
Хто раптам прыгадае,
Што недзе ёсьць старонка дарагая.
Я ўспомніў Лідчыну маю,
У вачах маіх стаялі сьлёзы.

Калі-б пабачыў хто мяне -
Сказаў-бы: "Нецьвярозы".
І расказаць няма каму.
Ніхто ня хоча нават слухаць.
Які цудоўны стан душы,
Запаў і цешыць душу.

* * *

Маленства! Дзе ты цяпер?
Куды ты адыйшло?
Якімі сталі вы, бярозы і ялінкі,
Дзе з мамай я зьбіраў грыбы?
Сасновы бор ля Белагруды,
Дзе на прыгорачку расьлі баравікі.
І як было тады мне крыўдна,
Што першым быў ня я,
Хто грыб знайшоў зраньня.

* * *

Белагруда. Касьцёл над Дзітвою.
І дождж такі цяплюткі і жаданы
Пад стае душы маёй у той час.
Я бачу рыб у карагодзе,
Пясочак чысты
І ваду празрысту.
А кроплі падаюць у яе
І робяць малыя кругі.
А я стаю і ціхенька смуткую.
Імша ў касьцёле. І там мае бацькі.

*Эмітывіль, Нью Ёрк*

### *Уладзіслаў ЖЫГАЛКА*

Хай жыве Беларусь незалежная!
І жыцьцё ў ёй хай будзе належнае!
Без прыгонных калгасаў-саўгасаў,
Без бязглуздых лукавых указаў.

Каб рабілі на ўласнай зямлі мы,
Не шукаючы іншай радзімы.
І зямля нам аддзячыць за гэта.
Так жыве добры люд усяго сьвету.

* * *

Хай нарэшце стане так,
Як казаў Зянон Пазьняк.
Каб жылі багата людзі
Ў незалежнай Беларусі.

Каб наладзілі ўмовы
Для сваёй прыгожай мовы,
Сваіх продкаў шанавалі
Ды сябе не забывалі!

Каб утульным і прыгожым
Быў заўжды наш родны Край,
Беларускі Дом - як рай!

* * *

Я не шукаю славы таннай -
Я жыву не для грошай.
Я назаўжды застануся жаўнерам -
Стрымальнікам хеўры варожай
Веру, нішто ўжо мяне ня зьменіць -
Думаць заўжды буду толькі так!
Ня дам у грошы свой талент разьменіць,
Бо я - вольны мастак.

А вольны мастак - злу ў апазыцыі!
Гэта сумленьне, а не амбіцыі.

*Менск, Беларусь*

### *Мікола КРЫЎКО*

Мне Бог казаў,
што ты мяне палюбіш...
Адчыніш дзьверы, усьміхнешся мне
І плакаць больш ужо ня будзеш,
і я пацяху абдыму цябе...
А сон надыдзе нечакана,
спадканьне часу адышло,
і месяц у небе стане ясней,
пастукаў ноччу ў вакно.
І зноў каханьне, горач вуснаў,
бляск нашых воч у цішыні,
абодвы разам гэтай ноччу
каханьне бачым у ва сне.
Яшчэ сказаў...
за гэтую дзяўчыну,
каб я жыцьце сваё яму аддаў.
Хай будзе так! -
адказ мой быў.
І ў гэтую хвіліну...
мяне ня стала - Бог мяне забраў!
Мне Бог казаў, што ты мяне палюбіш!

*Навасібірск, Расея*

### *Мікола ЯЎМЕНЕНКА*

**БНР**

Гэй, Беларуская Народная
Рэспубліка схаваная мая!
Улада ў нас антынародная
Пры тым яшчэ й нелегітымная.
Сядзі й трывай на сытым Захадзе
Пакуль цябе сюды не пазавуць,
Сваёй нацыянальнай грамадзе -
Эліце не перададуць!

Трываць цяжэй даводзіцца цяпер,
Бо барацьба сыстэм размытая.
А для эРэФ дэ-юрэ БНР -
Што костка ў горле пазабытая.

Тут мы ў твой гонар ладзім мітынгі
З нацыянальнаю сымболікай,
Штораз сьпявае сэрцу мілы гімн
Сход беларусаў-працаголікаў.
Міліцыя на нас з дубінкамі
За гэта кідалася й бэсьціла,
Падчас гразілася Навінкамі
І, дальбог, трымала на Акрэсьціна.

Трымайся, родная Народная,
Пакуль не адамруць застойныя,
Найбольш трусьлівыя й гаротныя
Саўкі па выгляду прыстойныя!

* * *

**Аб чым, уласна, рэч?**

Мы на сябе ня маем права наракаць
За тое, Што ў нас вялікіх талентаў няма,
Бо таленту патрэбна памагаць,
А што да бездары - праб'ецца і сама.

Што й колькі мы зрабілі для таго,
Каб талент яўны й Гавал дамарошчаны
Зянон Пазьняк павёў да Захаду бягом,
Каб не паўзьці назад маршрутам
спрошчаным.

Да праімпэрскае бандыцкае эРэФ
Зь ілжываю й гультайскаю традыцыяй,
Зь яе шавіністычным кіраўніцтвам спрэс,
З артадаксальна-левай апазыцыяй.

А далі бездару сьвятло.
Цяпер кпакуем за гэта насамрэч,
Маўчым, трываем, не змагаемся са злом.
Тады і сапраўды, аб чым уласна рэч?

* * *

Гатоў заўжды
Найшло натхненьне на паэта -
У вершах піша без напругі
Пра песьні сольныя й дуэтам,
Пра адзіночак і супругаў,
Іх неспадзяванае каханьне
І надакучлівыя словы,
Аб узаемных непрызнаньнях,
Зваліўшыхся на іх галовы.

Я не люблю чытаць пра гэта.
Няхай прабачаць мэламаны!
Люблю Амэрыку, Мангэтан
За дэмакратыю й гуманнасьць.

Люблю праўдзівыя куплеты
Пра нашу з вамі рэчаіснасьць,
Гатоў заўжды паліць дуплетам
Па коснасьці й атэізму,
Па глупству "бацькі"-прэзыдэнта,
Ягонай ролі вушлай лялькі
На беларускім полі-стэндзе
У руках маскоўскага гулякі.

*Чудзенічы на Лагайшчыне*

# КНІГА ПРА БЕЛАРУСКІЯ ГЭБРАЙСКІЯ АРХІВЫ

**Дакумэнты па гісторыі й культуры гэбраяў у архівах Беларусі. Даведнік.** (На расейскай мове; тытул, зьмест і прадмова таксама па-ангельску: Документы по истории и культуре евреев в архивах Беларуси. Путеводитель./ Jewish Documentary Sources in Belarus Archives. A Guide.). **Рэдактары Марк Купавецкі, Эдуард Савіцкі, Марэк Вэб. Выдавецкі Цэнтар РДзГУ, Масква, 2003. 607 ст. Наклад 1000 ас.**

Некалькі тыдняў таму у Маскве выйшла кніга, прысьвечаная матар'ялам, што датычацца гісторыі гэбраяў, у архівах Рэспублікі Беларусь. Гэта другая кніга ў сэрыі выданьняў, прысьвечаных гэбрайскай спадчыне ў пост-савецкіх архівах, і ёсьць вынікам пагадненьня паміж Камітэтам па Архівах і Справаводстве пры Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь і Расейскі Дзяржаўным Гуманітарным Унівэрсытэтам (РДзГУ) пры фінансавай падтрымцы "Праекту Юдаіка" (ЗША).

Даведнік зьмяшчае пералік архіваў, што існуюць сёньня ў Рэспубліцы Беларусь, і анатаваны сьпіс фондаў у гэтых архівах, што ў нейкі спосаб зьвязаныя з гэбарйскаю тэматыкаю, з паданьнем нумароў фондаў, уключных датаў і колькасьці дакумэнтаў(т. зв. "адзінак захоўваньня").

Асноўнаму тэксту даведніка папярэднічае зьмястоўны артыкул М. Купавецкага "Гэбраі ў Беларусі. Кароткі гістарычны нарыс", дзе у сьціслай форме (12 старонак) выкладзеныя асноўныя падзеі з жыцьця беларускіх гэбраяў ад старажытных часоў да сёнешняга дня.

Даведнік, акрамя сваёй непасрэднай функцыі, можа лічыцца найноўшай публікацыяй, што падрабязна закранае беларускія архівы наагул. У прадмове даецца кароткі агляд археаграфічных досьледаў па гісторыі гэбраяў Беларусі, у тым ліку дзейнасьці гэбсэктару Інбелкульту і Беларускай Акадэміі Навук (БАН). Прыведзены агляд сучаснай сыстэмы архіваў Беларусі, коратка прааналізаваныя ёйная інфармацыйная мэтадалёгія й навукова-даведачны апарат, гісторыя архіўнай справы ў Беларусі. Між іншага, канстатуецца тое, што ў час вайны загінула 60-70% архіўных фондаў Беларусі, а таксама тое, што міграцыя дакуманатаў зь беларускіх архіваў за апошнія стагодзьдзі прывяла да таго, што шмат матар'ялаў, у тым ліку па гісторыі гэбраяў Беларусі, апынуліся па-за сёнешнімі межамі Рэспублікі Беларусь (нават у ЗША, дзе цяпер знаходзіцца частка архіву Менскага кагалу). Даецца пералік архіваў па-за межамі Беларусі, што зьмяшчаюць інфармацыю пра гэбраяў Беларусі, у тым ліку дзяржархівы Расейскай Фэдэрацыі, Летувы, Украіны, Польшчы; фэдэральны вайсковы архіў Нямеччыны ў Александрыі й ньюёрскі Інстытут гэбрайскіх досьледаў ІВО ў ЗША; цэнтральны архіў гісторыі гэбрайскага народу і цэнтральны сіяніскі архіў у Ерусаліме.

Даведнік ахоплівае практычна ўсе выяўленыя фонды гэбрайскага паходжаньня ў дзяржаўных цэнтральных і рэгіянальных архівах Беларусі (за выключэньнем архіваў МЗС і МУС) пачынаючы ад сярэднявечча і да найноўшага часу. Прыводзіцца таксама кароткае апісаньне Дакумэнтальнага фонду Архіву Камітэту Дзяржаўнай Бясьпекі Рэспублікі Беларусь, дзе падаецца, між іншага, колькасьць судовых справаў сталінскіх часоў (175 тыс. справаў на 250 тыс. чалавек). У канцы зацемкі напісана, што "поўнымі зьвесткамі па тэматыцы даведніка ў архіве КГБ РБ навуковыя рэдактары-укладальнікі па зусім зразумелых прычынах не валодаюць".

У прадмове адзначаецца, што шмат матар'ялаў пра гэбраяў ёсьць у актавых кнігах, што захоўваюцца ў Нацыянальным гістарычным архіве Беларусі, але дзеля фінансавых ды іншых цяжкасьцяў тэматычна распрацаваныя толькі 55 актавых кнігаў з агульнай колькасьці 10 000.

Выданьне дае пералік асноўных архіўных фондаў з кароткім апісаньнем фонду, ягонага памеру і храналягічных рамак. Гэта фактычна кароткая энцыклапэдыя пра гістарычныя дакумэнты ў Беларусі, бо матар'ялы па гэбрайскай тэматыцы знаходзяцца амаль ва ўсіх архіўных фондах, якія толькі можна сабе ўявіць: вялікакняскіх, расейскіх, польскіх, нямецкіх і савецкіх структураў, ад губэрнскіх управаў, павятовых судоў і абкамаў КПБ(б) і да Дзяржаўнага гэбрайскага тэатру БССР, Белнацкаму й Інбелкульту.

Вельмі абшырны дапамаговы апарат выданьня - ёсьць паказьнікі установаў і выданьняў, імёнаў, геаграфічных назваў, сьпіс скаротаў.

Таму гэты даведнік будзе карысны ня толькі сьпэцыялістам у галіне юдаікі, але ўсім, хто цікавіцца гісторыяй Беларусі.

Інфармацыю пра набыцьцё выданьня можна знайсьці на інтэрнэт-старонцы *http://publisher.rsuh.ru/price.htm*

***Віталь ЗАЙКА***

# ЯК БОГ ДАПАМОГ НАМ, БЕЛАРУСАМ, АТРЫМАЦЬ ПОЎНУЮ БІБЛІЮ НА НАШАЙ РОДНАЙ МОВЕ





Я памятаю той дзень вельмі добра. Сяджу каля стала ў офісе. Званок. Падымаю слухаўку.

- Спадар Рапецкі?

- Так, гэта я.

- Гаворыць Уладыка Мікалай. Я нядаўна вярнуўся зь Беларусі і, будучы там, атрымаў машынапісны тэкст Новага Запавету з Псалтыром у беларускім перакладзе Васіля Сёмухі.

- Цікава, - адказаў я, - ну і што вы можаце сказаць пра гэты пераклад?

- Васіль Сёмуха папрасіў, каб мы зрабілі тыпаграфічны набор ягонага перакладу. На жаль, я гэтага не змагу зрабіць, бо заняты сваёю працаю і праектамі. Проста ня маю часу гэтым займацца. Спадар Рапецкі, ці не маглі-б вы дапамагчы ў гэтай справе?

Для мяне такая прапанова аказалася вялікай нечаканасьцю. Я ўжо чуў пра Васіля Сёмуху і ягоную працу над тэкстам Бібліі. Што ж мне казаць?

- То што? Вы прапануеце, каб я ўзяўся за набор і зрабіў макет?

- Ну, напэўна, так! Ці вы згодныя?

Крыху я падумаў з маўчаньнем.

- Ну як? Возьмецеся за набор? - працягваў Уладыка Мікалай.

- Здаецца, так! Прыеду і вазьму тэкст у вас.

Вось з гэтага пачалася справа для мяне. Мы з Уладыкам Мікалаем жылі ў адным горадзе - Таронта, Канада. Ён узначальваў Беларускую Аўтакефальную Праваслаўную Царкву і толькі сёлета раптам памёр. Хоць па веравызнаньні я не праваслаўны, але мы зь ім заўсёды былі ў дружалюбных адносінах. Адно мяне радавала, што ён адслугоўваў Літургію ў сваёй царкве на сучаснай усім зразумелай беларускай мове.

Атрымаўшы копію машынапіснага тэксту Бібліі ў беларускім перакладзе Васіля Сёмухі, я вельмі абрадаваўся і падзякаваў Богу, што ён знайшоў і падахвоціў такога высокаадукаванага чалавека, як спадар Сёмуха, прыступіцца да вельмі цяжкай і адказнай працы. Колькі гадоў мы з бацькам, Якубам Рапецкім, рыхтавалі духоўную радыёперадачу "Добрая вестка" на беларускай мове і адсылалі да Транс Сусьветнага Радыё ў Монтэ Карла, і ў казаньнях мы карысталіся так званым Луцкевічавым перакладам Новага Запавету з Псалтыром. Хоць пераклад добры, я бачыў і ведаў, што не заўсёды ён трымаўся граматычных правілаў сучаснай беларускай мовы, і ня раз трэба было то адно, то другое зьменьваць, каб выходзіла больш граматна. Мы з бацькам разумелі, што патрэбны новы пераклад, які будзе адпавядаць сёньняшнім граматычным правілам літаратурнай беларускай мовы.

Дык вось, карыстаючыся настольным кампутарам, я ўзяўся за працу, набіраючы літару за літарай, слова за словам. Кожны раз, калі канчаў кнігу Новага Запавету, перадаваў Уладыку Мікалаю, каб ён пераглядаў і ўводзіў свае прапановы. Я таксама дабаўляў свае прапановы спадару Сёмуху (большасьць, зь якімі ён згаджаўся і затрымаў у тэксьце). Тэкст кожнай кнігі з нашымі прапановамі мы высылалі да спадара Сёмухі ў Менску. Ён іх атрымліваў, пераглядаў і адзначаў, што пакідаць у тэксьце, і высылаў назад да мяне. Атрымаўшы перагледжаны тэкст, я уводзіў зьмены й пасьля рыхтаваў макет. Яшчэ раз перачытваў, друкаваў і адпраўляў спадару Сёмуху. I так мы рабілі, пакуль не дайшлі да канца Новага Запавету, а потым закончылі вёрстку і Псалтыра. Частку закончанага тэксту я высылаў у Менск, і частку сам браў з сабою, калі адведваў Менск і бачыўся з Васілём Сёмухам. Прыйшоў час, калі цэлы тэкст застаўся ў руках перакладчыка.

У дзевяностых гадох адбылася Сустрэча Беларусаў Паўночнай Амэрыцы тут у Таронта, і якраз у гэты час зьехаліся спадар Яўген Лецка зь Беларусі й Янка Запруднік з Амэрыкі. Падчас канфэрэнцыі мы ўтрох сабраліся і абмеркавалі пытаньне пра новы беларускі пераклад Новага Запавету з Псалтыром. Спадар Запруднік паведаміў нам, што ён быў у Менску і пазнаёміўся з нашым перакладам, які яму спадабаўся. Ён нават і быў гатовы ахвяраваць нейкую суму грошай на выданьне Эвангельля. Спадар Лецка ў той час узначальваў Згуртаваньне Беларусаў Сьвету "Бацькаўшчына" і лічыў, што "Бацькаўшчына" зможа надрукаваць Эвангельле, калі на гэта згодзіцца спадар Сёмуха. I так яно сталася, таму ў 1995-ым годзе выйшаў Новы Запавет з Псалтыром у Менску. На першых бачынах мы чытаем дабраслаўленьне над перакладам Уладыкі Мікалая і слова ўдзячнасьці перакладчыка асобным людзям за іхнюю дапамогу ў падрыхтоўцы й выданьні. Для ўсіх нас, удзельнікаў, гэта была вялікая радасьць, што пабачыў сьвет новы сучасны беларускі пераклад Сьвятога Пісаньня.

Яшчэ перад тым, як выйшаў Новы Запавет, я (і, думаецца, многія іншыя) прапанаваў спадару Сёмуху перакласьці й кананічныя кнігі Старога Запавету. Памятаю, што калі я такую думку выказаў яму, ён паведаміў мне, што ўжо працуе над тэкстам Старога Запавету, і што праз нейкі час адправіць Уладыку Мікалаю і мне цэлы тэкст на кампутарных дыскетах. Бязумоўна такая вестка ізноў абрадавала мяне. I сапраўды так яно і здарылася. Праз некаторы час я пачаў атрымліваць ад дачкі Васіля Сёмухі, Алесі, дыскеты з цэлым тэкстам Старога Запавету. Пераклад гэты быў зроблены спадаром Сёмухам і гэтым разам не на паперных лістках, але ў выглядзе кампутарных файлаў. Толькі ў мяне была адна бяда, што файлы прыйшлі да мяне ў Ай-Бі-Эмаўскім фармаце, а я ў той час карыстаўся сыстэмаю Макінтош. Дзякаваць Богу, тут у Таронта я знаю украінскіх братоў Ватрыч, якія таксама рыхтуюць духоўную літаратуру на украінскай і расейскай мовах. Яны дапамаглі мне переставіць тыя файлы ў патрэбны фармат.

Гэтым разам мне ня трэба было набіраць літару за літарай, слова за словам, бо спадар Сёмуха, запісваючы пераклад, сам набіраў іх. Гэта ўжо шмат дапамагло ў маёй працы. Трэба было толькі пераставіць на старонкі. Ізноў я друкаваў асобныя старонкі, уводзіў свае прапановы, аддаваў Уладыку Мікалаю, каб ён таксама ўводзіў свае прапановы. Гэта мы адпраўлялі перакладчыку, а ён, перагледзеўшы тэкст і адзначыўшы зьмены, высылаў назад да мяне. I я ўжо ўводзіў апошнія папраўкі й друкаваў тэкст. Хоць я высылаў кожную старазапаветную кнігу, калі канчаў яе, дайшло да таго, што я вырашыў перадаць Васілю Сёмуху ўсе кампутэрныя файлы, калі закончу цэлы Стары й Новы Запавет. Так і зрабіў, калі адведаў Беларусь і сустрэўся зь ім у Менску. Памятаеце, што файлы былі ў сыстэме Макінтош. Яны там шукалі друкарню, якая магла-б прачытаць і надрукаваць, але па нейкіх прычынах вырашылі перакласьці назад на АйБіЭмаўскую сыстэму, што значыць, ім трэба было яшчэ год папрацаваць у Менску.

Якая радасьць, калі ўрэшце я атрымаў паведамленьне, што ў месяцы траўні 2002 году поўная беларуская Біблія будзе выдадзеная. Так яно і здарылася. I праз некаторы час я атрымаў асобнік яе. Атрымаўшы, я са сьлязамі зьвярнуўся ў малітве да Бога і падзякаваў Яму за тое, што ён дапамог нам усім падрыхтаваць і адрэдагаваць поўны тэкст у сучасным беларускім перакладзе, і цяпер я трымаў беларускую Біблію ў сваіх руках.

Але я павінен тут дабавіць адну сумную вестку. Уладыка Мікалай, хоць таксама пачуў пра тое, што ў Менску выйшла поўная беларуская Біблія, не дажыў да таго моманту, калі ён сам змог атрымаць асобнік і трымаць яго ў сваіх руках. Калі я пачуў пра ягоную нечаканую і раптоўную сьмерць, мне прыгадалася адная размова, якую я меў з Уладыкам. Яна адбылася пасьля таго, як я расказаў яму пра сваю нядаўнюю сустрэчу з Васілём Сёмухам, калі спадар Сёмуха паведаміў мне, што ён ужо перакладае кнігі Старога Запавету. Пачуўшы гэта, Уладыка Мікалай крыху падумаў і сказаў мне: "Я ніколі ня ўбачу надрукаванай поўнай Бібліі". На жаль, так яно і сталася.

Нашая сям'я пасялілася ў Канадзе, калі мне было толькі два гады. Памятаю, як тата паўтараў нам, дзецям, усе тыя апавяданьні зь Бібліі. Мы ўдома размаўлялі па-беларуску, але калі адведвалі Багаслужбы славянскіх эвангельскіх хрысьціянаў у Канадзе, дык у большасьці выпадкаў чулі, як прапаведнікі чыталі расейскую Біблію. Праўда, у некаторых цэрквах чыталі з украінскае Бібліі. Для мяне гэта заўсёды было пытаньне: чаму я чую, як чытаюць з расейскай і ўкраінскай Бібліяў, а ніхто быццам ня чытае зь беларускай? Бацька часта казаў нам, што мы па нацыянальнасьці беларусы, што і паказвалася тым, што мы з бацькамі заўсёды размаўлялі па-беларуску. Калі я крыху падрос, дык зразумеў, што ёсьць беларускі варыянт Новага Запавету з Псалтыром, але гэта была рэдкасьць, каб нехта чытаў зь яго. З кожным годам я думаў сабе, а чаму для нас, беларусаў, няма поўнай Бібліі на нашай роднай мове? I вось Бог дапамог нам, беларусам, супрацоўнічаць з спадаром Сёмухам і ўбачыць поўную Біблію ў нашай сучаснай беларускай мове. Цяпер я зь вялікім здавальненьнем чытаю і карыстаюся ёю. З гэтага цешуся і дзякую Богу і спадару Васілю Сёмуху за ягоную старанную і руплівую працу.

*Юрка РАПЕЦКІ*

# АХВЯРАВАНЬНІ

## БІНіМу НА ВЫДАНЬНЕ АНГЕЛЬСКА-БЕЛАРУСКАГА СЛОЎНІКА

**Вольга Нарушэвіч (Аўстралія) $1000**
**Др. Вітаўт і Вера Рамук 1000**
**Кастусь Акула (канад. дал.) 1000**
**Мітрафан Смаршчок 500**
**(у памяць бацькоў Ігната і Паўліны)**
**Аляксандар Сецька 275**
**Хведар Кажаневіч 250**
**Пастыр Юры Рапецкі 100**
**Кастусь і Марыя Верабей 55**
**Вольга Грыцук**
**(у памяць мужа Алеся Грыцука) 500**

Сям'я Кіпеляў выказвае шчырую падзяку наступным асобам і арганізацыям, якія ўсклалі вянкі ды замовілі паніхіды па адыйшоўшай ад нас Зоры: Радзе Беларускай Народнай Рэспублікі, Беларуска-Амэрыканскаму Задзіночаньню, Амбасадзе Беларусь у ЗША, Беларускаму Інстытуту Навукі й Мастацтва ў ЗША і Канадзе, Нью Ёрскай Публічнай Бібліятэцы, Танцавальнаму ансамблю беларускай моладзі, Кардыёлягічнай лябараторыі шпіталю гораду Гакенсак (Нью Джэрзі), Слоўнікавай Сэкцыі БІНіМу ды спадарствам Аляксандру і Тамары Кольба, Надзі й Янку Запруднікам, Ніне і Алексу Сільвановічам, Антону Шукелойцю, Эдзіт і Алексу Камю, Але Орса-Романо, Кацярыне Баллерыні, Лявону Шураку, Зосі Груша, Люізе Колін, Вользе Караткевіч, Уладзімеру Арлову.

Гэтаксама мы былі ўсчуленыя ды вельмі дзякуем прыбылым на пахаваньне здалёк спн. Івонцы Сурвілла, Старшыні Рады БНР, ды сп. Сяргею Шупу, блізкаму сябру сям'і ды супрацоўніку слоўнікавае камісіі БІНіМу.

У памяць Зоры даслалі ахвяраваньні на выданьне ангельска-беларускага слоўніка:

| | |
|---|---|
| Д-р Робэрт Тозз | $ 500 |
| Д-р Уладзімер Набагез | 400 |
| Д-р Вітаўт і Вера Рамук | 200 |
| Д-р Аляксей Арэшка | 100 |
| Д-р Барыс і Люда Рагуля | 200 |
| Віталь і Люба Кажан | 250 |
| Вячка і Джоэн Станкевіч | 250 |
| Кацярына і Яраслаў Вініцкія | 150 |
| Вера і Франук Бартуль | 100 |
| Ліза Літаровіч | 100 |
| Міхась Лужынскі | 100 |
| Люда і Білл Грант | 100 |
| Васіль Мельяновіч | 100 |
| Віктар Тур | 100 |
| Ніна і Алекс Сільвановіч | 100 |
| Барыс і Галіна Гайда | 100 |
| (раней даслалі яшчэ 105) | |
| Аляксандра і Раіна Сямёнавы | 100 |
| Галіна Руднік | 100 |
| Анатоль і Галіна Кучура | 100 |
| Янка Жучка | 100 |
| Мікола Грэбень | 100 |
| Ната і Крыс Русак-Гернат | 100 |
| Робэрт і Аня Герберт-Бойчук | 100 |
| Вера Запруднік | 100 |
| Уладзімер і Ліда Ракуць | 50 |
| Барыс і Марыя Данілюк | 50 |
| Джон і Кацярына Стоксбуры | 50 |
| Эдзіт і Алекс Камю | 70 |
| Гарві Паўлюс | 50 |
| Гертруда і Віліам Нітчэ | 50 |
| Джэфры і Джанэт Пэрльштайн | 50 |
| Нансы і Кэвін Бунін | 50 |
| Люба і Міхась Бахар | 30 |
| Язэп Кузьменка | 25 |
| Міша і Барбара Швэд | 20 |
| Андрэй Пабас | 20 |

Сям'я Кіпеляў выказвае таксама ўдзячнасьць усім, хто прыслаў спачуваньні, выказалі тэлефанічна або праз электронную пошту. Усяго мы атрымалі панад 200 спагадаў-спачуваньняў, што паказвае, якія шырокія кантакты былі ў Зоры, як яна супрацоўнічала зь людзьмі розных зацікаўленьняў і поглядаў. У некаторых спачуваньнях ад ейных сяброў школьных-студэнцкіх гадоў выказаныя настальгічныя ноткі аб маладосьці, у сяброў па грамадзка-навуковай працы ўспаміны аб працы, аб незваротнасьці гадоў, некаторым спачувальнікам не забываецца Зорына заўсёдняя ўсьмешка, іншым ейная гатоўнасьць дапамагчы. Аб Зорыных рысах выказана сапраўды шмат дадатных словаў. Сям'і ў цяжкую хвіліну гэта былі падбадзёрвальныя словы, прыемныя, патрэбныя, незабыўныя.

Некаторыя з выказваньняў аб Зоры былі падсумаваныя сп. Янкам Запруднікам, дарэчы, яму, Яну і Надзі, мы вельмі ўдзячныя за ўсё, усё - як яны былі з намі разам у нашым горы. Але яшчэ зь некаторымі спачуваньнямі мы бярэм на сябе сьмеласьць пазнаёміць грамадзтва.

"На Вялікдзень я быў у Полацку і замовіў у Спаса-Еўфрасінеўскім манастыры саракавуст за супакой Зорынай душы. Моляцца за яе таксама ў Жыровіцкім манастыры пад Слонімам і ў менскай Кацярынінскай царкве на Нямізе, дзе я таксама паклапаціўся пра саракавуст..."

*Уладзімер Арлоў (Ваш Валодзя)*

"During a recent visit to my beloved Belarus I learned the very sad news of Zora's death, and I am writing now to offer sincere condolences. Although we have not met often in person, I have felt that I really knew you both, perhaps partly through your many excellent joint publications. As I am sure you know, you are immensely valued and respected in, amongst other places, the Belarusian Writers' Union, and the day before yesterday many people there spoke to me about Zora's passing.

You will be in my prayers as well as theirs at this melancholy and difficult time."

*Arnold (McMillin)*

"Толькі што я даведаўся ад Уладзімера Арлова пра сумны ўдар лёсу, які напаткаў Вас. Прыміце, калі ласка, маю сардэчную спагаду. Хоць я сустракаўся з Вашаю жонкаю ў Менску ўсяго некалькі разоў, я ўсё-ж ткі моцна адчуваў сілу яе чалавечага ўзьдзеяньня, ня кажучы ўжо пра тое, што яе сталая прысутнасьць у беларускай літаратуры на эміграцыі была заўсёды адчувальная для нас у Заходняй Эўропе перш за ўсё праз яе навуковыя і бібліяграфічныя працы. Для беларускай літаратуры эміграцыя, здаецца, усё яшчэ існуе: Васіль Быкаў, Алесь Разанаў, Сьвятлана Алексіевіч, Зянон Пазьняк і іншыя сёньня таксама не жывуць на сваёй радзіме, якую так моцна любіла Вашая жонка - гэта я мог бачыць дзесяць гадоў таму назад на сумеснай вечарыне ў Адама Мальдзіса, калі Вашая жонка, *такая радасна ўсхваляваная*, прыехала туды зь вёскі. Між іншым, заўтра Алесь Разанаў у Вене атрымлівае міжнародную прэмію імя Гердэра, што мяне асабліва радуе. Беларуская літаратуры жыве і будзе жыць далей. Калі я чытаў ліст Уладзімера Арлова, мне нагадаліся радкі верша нямецкага паэта Гансы Каросы: "Мы ня чуем, калі гучыць Боская мэлёдыя, мы ўздрыгваем толькі тады, калі яна замаўкае." (Wir horens nicht, wenn Gottes Weise summt, wir schaudern erst, wenn sie verstummt!) Гэтае ўздрыгваньне, дарагі спадар Кіпель, я глыбока адчуў, калі даведаўся пра сумную навіну."

*Ваш Норбэрт Рандоў (Norbert Randow)*

Дык яшчэ раз грамадзтву і на эміграцыі, і ў Беларусі за ўшанаваньне Зоры: жонкі, маці, бабулі, сяброўкі грамадзтва і Дачкі Беларусі Шчырае Дзякуй!

*Сям'я КІПЕЛЯЎ*



## Новыя выданьні БІНіМ

У сэрыі "Беларускія пісьменьнікі й паэты" выйшаў з друку новы том

### *АНТОН АДАМОВІЧ. ТВОРЫ*

На 800 бачынах - невядомыя працы, новыя пераклады, архіўныя расчытаньні. Упершыню друкуюцца аўтабіяграфіі ды бібліяграфія.

Больш за 30 унікальных здымкаў. Грунтоўны ўводны артыкул Л. Юрэвіча.

Выйшлі з друку, **ЗАПІСЫ БІНіМ №26**, у якія ўвайшлі:

**ТЭКСТЫ**

Віржынія ШЫМАНЕЦ Пад выкляцьцем. Калі тэатар ставіць пытаньні палітычнай і культурнай гісторыі Беларусі.

Лявон ЮРЭВІЧ Сьмерць у люстэрку беларускай літаратуры.

**ГІСТОРЫЯ**

Анатоль ТРАФІМЧЫК Да пытаньня беларускага школьніцтва на Віленшчыне (1939-1941).

Юры ТУРОНАК Падзея нявыгадная для ўсіх.

Алег ГАРДЗІЕНКА Бэрлін як асяродак беларускага жыцьця першай паловы 40-х гг. ХХ стагодзьдзя.

Сяргей ШАБЕЛЬЦАЎ Палітыка савецкай амбасады ў Буэнас-Айрэсе ў дачыненьні да беларускіх эмігрантаў (1940 - 1950 гг.).

**АСОБА**

Генадзь САГАНОВІЧ Леў Акіншэвіч як дасьледнік беларускага казацтва.

**АРХІВЫ**

Віталь ЗАЙКА Інстытут Гэбрайскіх Досьледаў ІВО ў Нью Ёрку і матэрыялы ў яго ных зборах, зьвязаныя зь гісторыяй Беларусі.

Юры ШАЛЬЦ "...на карысьць Нямеччыны й Беларусі"

ЛІСТ АЙЦА-МАРЫЯНІНА Тамаша Падзявы да пастара Яна Пятроўскага, пратэстанта

**ПЕРАКЛАДЫ**

Ганна ГОСК 3-пад Бярэзіны да Бэрыса.

**ЛІТАРАТУРА**

Янка ЮХНАВЕЦ Летні адпачынак.

Зьмест ЗАПІСАЎ за 1952-2001 гг.

Замовы дасылайце на адрас Інстытуту:
*1797 Buttonwood Avenue,*
*Toms River, NJ 08755*

Ахвяраваньні на выданьне ангельска-беларускага слоўніка дасылайце на гэты самы адрас.

ЗАПІСЫ
ZAPISY 26
NEW YORK – MIENSK
2003

*Газэта "БЕЛАРУС" бясплатна надрукуе кароткія аб'явы некамэрцыйнага характару, віншаваньні, запрашэньні, спачуваньні ды інш. Наконт разьмяшчэньня рэклямы кантактуйце рэдакцыю.*

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД "БЕЛАРУСА" АХВЯРАВАЛІ:

| | |
|---|---|
| А. Кіпель | 150 |
| М. Смаршчок | 100 |
| В. Грыцук | 50 |
| Н. Няпейн | 50 |
| А. Субота | 50 |
| Н. Кіт | 40 |
| М. Сенька | 40 |
| М. Калядка | 30 |
| К. Мярляк | 30 |
| Г. Харавец | 30 |
| М. Чупракоў | 30 |
| А. Шатохіна | 30 |
| В. Шчэцька | 30 |
| М. Кажура | 10 |
| А. Тальянскі | 10 |

**Замест кветак на магілу Зоры Кіпель:**

| | |
|---|---|
| Т. Бэрд | 200 |
| Згуртаваньне Беларусаў Вялікабрытаніі | 100 |

**Замест кветак на магілу М. Віцэнчыка:**

| | |
|---|---|
| Згуртаваньне Беларусаў Вялікабрытаніі | 50 |

**Усім шчыры дзякуй!**

**БЕЛАРУС**
*Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце*
**Выдае штомесячна: БЕЛАРУСКА-АМЭРЫКАНСКАЕ ЗАДЗІН-Е**
**Сусьветнае сеціва: baza-belarus.org**
**Падпіска $30 на год.**
**Чэкі выпісвайце на BIELARUS**
**BIELARUS**
*Belarusan Newspaper in the Free World*
**Published monthly by BELARUSAN AMERICAN ASS'N, Inc.**
**Subscription $30 yearly**
**Make checks payable to BIELARUS**
**Рэдагуе калегія.**
*Адказны рэдактар*
**Марат Клакоцкі**
*Падпіска*
**Сяргей Трыгубовіч**
*Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам ці ініцыяламі, могуць зьмяшчаць погляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.*
*Перадрук дазваляецца толькі пры ўмове зазначэньня крыніцы.*

**Адрас для допісаў і кантактаў:**
BIELARUS
P.O. Box 3225
Farmingdale, NY 11735
**E-mail:**
hazetabielarus@att.net
**Сусьветнае сеціва:**
www.bielarus.org
*Адказнасьць за зьмест рэклямы нясе рэклямадаўца.*